● выдаецца са жнiўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 700 рублёў

20 студзеня 1996 г. субота, №№ 18-19 (22821— 22822)




ЗВЯЗДА

РОЗГАЛАС

## ІНТЭГРАЦЫЯ ДЗЕЛЯ ПРАГРЭСУ

**Як паведамлялася ўжо, 19 студзеня ў Маскве адкрылася чарговае пасяджэнне Савета кiраўнiкоў дзяржаў i Савета кiраўнiкоў урадаў. Гэта дзевятнаццатае па лiку сустрэча. А за чатыры гады iснавання Садружнасцi кiраўнiкамi краiн разгледжана звыш 600 пытанняў, прычым палавiна з iх — эканамiчнага i сацыяльнага характару, каля трэцi дачычыць ваенна-палiтычнага супрацоўнiцтва.**

На цяперашняй сустрэчы кiраўнiкам дзяржаў трэба было абмеркаваць каля 20 пытанняў, што датычаць умацавання iнтэграцыйных сувязей памiж рэспублiкамi. Адно з самых важных — аб расшырэннi мытнага саюза ў рамках СНД. Як вядома, пагадненне аб мытным саюзе падпiсалi Расiйская Федэрацыя, Рэспублiка Беларусь i Казахстан. Першыя крокi мытнага саюза паказалi яго значную выгаду для ўдзельнiкаў. Адменены мытныя абмежаваннi ва ўзаемным гандлi, няма неабходнасцi ўтрымлiваць мытныя структуры, адкрылiся шырокiя перспектывы для свабоднага руху тавараў, паслуг, капiталаў. Паводле папярэднiх даных, вырас як знешнi тавараабарот трох краiн, так i ўнутраны.

Спачатку кiраўнiкi дзяржаў сустрэлiся ў вузкiм асяроддзi, затым адбылося расшыранае пасяджэнне з удзелам кiраўнiкоў урадаў, мiнiстраў замежных спраў i мiнiстраў абароны. Адкрываючы пасяджэнне, Барыс Ельцын адзначыў, што стварэннем Садружнасцi Незалежных Дзяржаў закладзена прынцыпова новая палiтычная i арганiзацыйна-прававая сiстэма супрацоўнiцтва. «У нас, па сутнасцi, адзiны рэзерв дасягнення прагрэсу — гэта iнтэграцыя, аб'яднанне намаганняў. Пакольki ўмовы i задачы ў нас практычна агульныя», — падкрэслiў прэзiдэнт Расii. Ён адзначыў, што ў рашаючую стадыю ўступiла рэалiзацыя мытнага саюза, i выказаў задаволенне ўзаемадзеяннем у гэтай галiне з Беларуссю, Казахстанам, Кыргызстанам, Узбекiстанам i Таджыкiстанам.

Асаблiвую ўвагу Барыс Ельцын удзялiў створанаму ў мiнулым годзе Мiждзяржаўнаму эканамiчнаму камiтэту, якi павiнен стаць своеасаблiвым штабам iнтэграцыi, сканцэнтраваць работу на канкрэтных праектах яе паглыблення. Паводле слоў прэзiдэнта Расiйскай Федэрацыi, патрэбны адпаведныя ўмовы для эканамiчнай дзейнасцi на тэрыторыi дзяржаў Садружнасцi, зближэнне заканадаўчай базы, унiфiкацыя нацыянальных гаспадарчых механiзмаў.

Значную частку свайго выступлення Старшыня Савета кiраўнiкоў дзяржаў прысвяцiў праблемам калектыўнай бяспекi. У прыватнасцi, ён прапанаваў сканцэнтраваць намаганнi на стварэннi адзiнай абаронай прасторы, захаваннi унiкальных ваенных сiстэм, якiя раней ахоўвалi тэрыторыю Саюза.

Актыўны ўдзел у абмеркаваннi пытанняў парадку дня прыняў Прэзiдэнт Беларусi Аляксандр Лукашэнка.

Вынiкам сустрэчы ў Крамлi стала падпiсанне 27 дакументаў. Сярод iх — пагадненнi па ўмацаванню мытнага i плацежнага саюзаў, аб супрацоўнiцтве па пагранiчных пытаннях, канцэпцыя папярэджання i рэгулявання канфлiктаў на тэрыторыi дзяржаў — членаў Садружнасцi, пратакол да Пагаднення аб сацыяльных i прававых гарантыях ваеннаслужачым i членам iх сем'яў.

Кiраўнiкi краiн СНД трэцi раз выбралi Прэзiдэнта Расiйскай Федэрацыi Барыса Ельцына Старшынёй Савета кiраўнiкоў дзяржаў Садружнасцi.

На прэс-канферэнцыi, прысвечанай вынiкам саміта ў Маскве, Барыс Ельцын адзначыў, што сустрэча была плённай, а парадак дня — насычаным.

«Самае важнае тое, што вызначаны асноўныя тэндэнцыi развiцця — рух да добраахвотнай iнтэграцыi ў рамках СНД», — сказаў Барыс Ельцын. Ён падкрэслiў, што цяпер перад краiнамi Садружнасцi стаiць адказная задача: наладзiць канкрэтнае супрацоўнiцтва, актывiзаваць работу. Прэзiдэнт Расii станоўча ацанiў супрацоўнiцтва Беларусi i Расiйскай Федэрацыi, узровень развiцця двухбаковых кантактаў.

**Ларыса ЛАЗАР, БЕЛТА.**

*г. Масква.*

## АПОШНЯЯ АСОБА ЗОНЫ



**Гэты рэпартаж быў зроблены больш як тры гады назад i часткова ўжо друкаваўся ў прэсе. Але нядобрая вестка з мёртвай зоны Гомельшчыны прынесла нам сумную навiну: Аркадзя Паўлавiча Набокiна, героя гэтых здымкаў, ужо няма. Яго забiлi. I мы вырашылi адгукнуцца на гэтую цяжкую трагедыю, у апошнi раз расказаўшы пра жыццё незвычайнага чалавека.**

*(Заканчэнне на 3-й стар.).*

РЭХА ПАДЗЕЙ

## БОЛЬШ ПАДСТАЎ ДЛЯ ТРЫВОГI, ЧЫМ ДЛЯ АПТЫМIЗМУ

**Пачатак года атрымаўся цяжкiм, напружаным i трывожным. Мiнулы тыдзень у гэтым сэнсе быў асаблiва паказальным.**

Пра хiсткасць i няпэўнасць эканамiчнай сiтуацыi ў краiне на гэтым тыднi нагадаў курс нацыянальнай валюты — надаўнi гонар беларускага кiраўнiцтва. Панiка на валютным рынку, якая, здавалася, гатова была перарасцi ў абвальную дэвальвацыю, тым не менш аказалася ўтаймаванай цвёрдай валявой рукой выканаўчай улады. Але адмiнiстрацыйныя меры ў дачыненнi да такой далiкатнай сферы, як фiнансы, рэдка абыходзяцца без пабочнага эфекту. Спроба ўтрымаць беларускага «зайца» ў вузкiм валютным калiдоры з дапамогай такiх крокаў, як абавязковы продаж 50 працэнтаў валютных паступленняў на Мiжбанкаўскай валютнай бiржы i ўвядзенне абмежаванняў на куплю валюты, як лiчаць многiя эксперты, прывядуць да такiх малапрыемных з'яў, як уцечка валютных даходаў у замежныя банкi i «чорны рынак» валюты. Прынамсi, курс продажу наяўнай валюты ў абменных пунктах будзе значна пераўзыходзiць межы «валютнага калiдора», i радавыя грамадзяне непазбежна адчуюць гэта на ўласнай кiшэнi. Здаровыя фiнансы пры хворай эканомiцы — нонсенс. Давер да беларускага рубля, якi пачаў узнiкаць на працягу мiнулага года ў значнай частцы жыхароў нашай краiны, зноў саступае месца скепсiсу i жаданню трымаць свае сцiплыя зберажэннi ў цвёрдай валюце.

Цiкавасць да палiтычнага жыцця краiны на мiнулым тыднi зноў была звязана галоўным чынам з працай новага парламента. Вярхоўны Савет у асноўным выбраў сваё кiраўнiцтва. З'яўленне побач з Сямёнам Шарэцкiм першага намеснiка старшынi ВС

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

**Васiль СЁМУХА.**

## ПАШЫРАЕ МАСТАЦКУЮ ПРАСТОРУ СЛОВА



Перакладчык Васiль Сёмуха, жывучы побач з намi, у нашым часе, працуе на будучыню.

Пiсьменнiк, руплiва i апшадна перакладаючы па-беларуску творы Эрыха Марыя Рыльке, Гётэ, Райнiса, Томаса Мана, ушаноўвае тым самым нашу беларускую мову, пашырае яе мастацкую прастору. Усё ж такi прыйдзе, павiнен прыйсцi час, калi i ў беларускiм лiтаратурным, нацыянальным кантэксце нам будзе цiкавай размова з Заратустрай (а гэта ж Сёмуха пераклаў бессмяротны твор Нiцшэ).

Сёння ж пра Васiля Сёмуху, пэўна, болей ведаюць у Германii, чым на Беларусi. Хацця i наша Айчына афiцыйна ўшанавала пераклад, адзначыўшы Дзяржаўнай прэмiяй Рэспублiкi Беларусь яго пераўвасабленне «Доктара Фаўстуса» Томаса Мана.

**Уладзiмiр ЖЫХАРАЎ.**

## ПЛЯМА НА ВАЙСКОВЫМ МУНДЗIРЫ



Днямi было названа iмя палкоўнiка Уладзiмiра Жыхарава. Даволi непрацяглы час ён камандаваў базай захоўвання ракетнай тэхнiкi Узброеных Сiл Рэспублiкi Беларусь (колiшняя часць непасрэднага маскоўскага падпарадкавання). А прыблiзна напярэдаднi першага тура новага этапа выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Уладзiмiр Жыхараў разам з двума падначаленымi знiк у невядомым накiрунку. Прычына таго зусiм не палiтычная. Беларускай ваеннай пракуратурай узбуджана крымiнальная справа i вядзецца следства па факту крадзяжу 7,8 кiлаграма плацiны i сплаваў на суму каля 15 мiльярдаў беларускiх рублёў.

IМЁНЫ ТЫДНЯ

## БЕЛАРУСКI РУБЕЛЬ. НУ, ДОЛАР, ПАЧАКАЙ...

Можна так сцвярджаць: амаль што героем мiнулага тыдня стаў беларускi рубель, якi, нягледзячы на моцны нацiск долара, хоць i пахiснуўся быў, але ўсё ж змог сканцэнтравацца i нават рушыць у контрнаступленне i, па сутнасцi, заняць свае ранейшыя пазiцыi. Сенсацыi не адбылося, «чорнага аўторка» —таксама. Далейшыя валютныя хваляваннi папярэдзiлi аб'яўленне валютнага калiдора i iнтэрвенцыi Нацыянальнага банка на бiржы. Насельнiцтва адхлынула ад акенцаў абменных пунктаў, куды заспiшыся са сваiмi рублёвымi зберажэннямi, некаторыя камерцыйныя банкi, якiя разлiчвалi зарабiць на гэтых хваляваннях, у вынiку купiлi больш долараў, чым прадалi, i, адпаведна, пачалi адчуваць пэўныя цяжкасцi са збытам. Вядома, выгадным збытам. Дэвальвацыйныя чаканнi як банкаў, так i насельнiцтва суцiшылiся. Што далей?

Усё будзе залежаць ад рэзерваў Нацыянальнага банка, а ў канчатковым вынiку — ад знешнегандлёвага балансу рэспублiкi, i, значыць, стану эканомiкi ўвогуле. Устойлiвасць рубля павiнна паспрыяць мяркуемае ўвядзенне абавязковага 50-працэнтнага продажу валюты суб'ектамi на бiржы, хоць гэта наўрад цi спадабаецца самiм суб'ектам. I яшчэ раз звернемся да валютнага калiдора з тым, каб зазначыць: гэта намнога лепш, чым спробы замарозiць курс. Карцiна на валютным рынку ў вынiку павiнна стаць больш дакладнай. Праўда, нельга скiдваць з рахунку i iснуючыя пэўныя абмежаваннi пры куплi валюты, што перашкаджае той жа дакладнасцi.

**Iван БАРАНОЎСКI.**



Калаж Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК

# Абраны кіраўнікі ўсіх 15 пастаянных камісій

**Выбары старшынь пастаянных парламенцкіх камісій, якія адбываліся ў Вярхоўным Савеце 18—19 студзеня, сталі яшчэ адным выпрабаваннем на трываласць партыйнай дысцыпліны і міжфракцыйных дамоўленасцей. Выпрабаванне гэтае было паспяхова вытрымана, і прынцып вырашэння прынцыповых пытанняў у фракцыйных перамовах быў яшчэ раз пацверджаны і замацаваны. Такім чынам, папярэдні спіс з 15 кандыдатур, вылучаных у час перагавораў розных парламенцкіх фракцый, быў фактычна зацверджаны парламентарыямі. Ніводзін альтэрнатыўны кандыдат не быў абраны на пасаду старшыні пастаяннай парламенцкай камісіі. Але гэта не значыць, што былі выбраны не самыя лепшыя кандыдатуры. Шчыльнае сіта міжфракцыйных перагавораў галасавання ВС змаглі перададолець такія вопытныя спецыялісты, як М. Карпіевіч, П. Краўчанка, В. Шлындзікаў і іншыя. Такім чынам, атрымалі пасады старшынь камісій 6 прадстаўнікоў фракцыі «Згода», 4 — прадстаўнікі фракцыі камуністаў, 2 — аграрыяў, 2 — сацыял-дэмакратаў і адзін — ад фракцыі «Грамадзянскае дзеянне».**

Аднак на пачатку абмеркавання гэтай праблемы была спроба парушыць гэты прынцып. Сыходзіла яна ад дэпутацкага аб'яднання «Згода», якое на пасаду старшыні Камісіі па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю вылучыла ажно тры свае кандыдатуры: М. Карпіевіча, прозвішча якога было ўзгоднена з усімі фракцыямі, В. Аляксандрава і У. Ягорава, экс-старшыні КДБ. Склалася цікавая сітуацыя, якая яшчэ раз пацвердзіла, што ў «Згодзе» няма згоды, і якая паставіла пад сумненне міжфракцыйныя дамоўленасці, бо фігура У. Ягорава выглядала вельмі важкай. Аднак галасаванне паказала, што за М. Карпіевіча прагаласавала большасць: 107 дэпутатаў, за В. Аляксандрава — толькі 17 і за У. Ягорава — 56. М. Карпіевіч пасля абвяшчэння вынікаў галасавання асобна падзякаваў камуністам і аграрыям за падтрымку — відавочна, разумелася, што гэта яны аддалі перавагу М. Карпіевічу, тым самым як бы прымушаючы «Згоду» выконваць дамоўленасці і быць «нармальнай» фракцыяй.

Пасля гэтага стала відавочна, што няма ніякага сэнсу вылучаць альтэрнатыўныя ўзгодненым на фракцыях кандыдатуры, таму абгавораныя раней прозвішчы, якія прапаноўваў Васіль Новікаў, у большасці сваёй засталіся адзінымі ў спісах для галасавання.

Старшынёй Камісіі па заканадаўству 18 студзеня быў абраны Рыгор Пракаповіч — прававед, першы намеснік пракурора Гомельскай вобласці. Старшынёй Камісіі па прамысловасці, транспарту, будаўніцтву, энергетыцы, гандлю і іншых паслугах насельніцтву, сувязі і інфарматыцы абраны Сямён Ліўшыц, інжынер-механік, дырэктар Асіповіцкага завода аўтаагрэгатаў. Камісію па праблемах чарнобыльскай катастрофы ўзначаліў кандыдат біялагічных навук, радыёбіёлаг Віктар Хоміч, які да гэтага працаваў дырэктарам Гомельскай абласной праектна-пошукавай станцыі хімізацыі сельскай гаспадаркі, а Камісію па экалогіі і прыродакарыстанню — старшыня камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Мінскага аблвыканкома Марыя Худая, эканаміст па адукацыі, былы першы сакратар Нясвіжскага райкома КПБ. Старшынёй Камісіі па аграрных пытаннях абраны намеснік старшыні аграпрамысловага камітэта Мінскай вобласці па навуцы, генеральны дырэктар Мінскага навукова-вытворчага аб'яднання па сельскай гаспадарцы, вучоны агранам, кандыдат тэхнічных навук Генадзь Усюкевіч.

19 студзеня дэпутаты нават адмовіліся ад традыцыйнага раздзела «Рознае» з тым, каб паспець абраць старшынь усіх пастаянных парламенцкіх камісій. Першай у гэты дзень разглядалася кандыдатура экс-міністра замежных спраў Беларусі, кандыдата гістарычных навук і дыпламата Пятра Краўчанкі на пасаду старшыні парламенцкай Камісіі па міжнародных справах. Яго падтрымаў 171 дэпутат, што з'яўляецца адным з самых высокіх паказчыкаў. Доўгіх выступленняў П. Краўчанка не рабіў, бо раней, прэтэндуючы на пасаду спікера, ён выступіў з вельмі грунтоўным дакладам. Аднак П. Краўчанка адказаў на пытанні, у прыватнасці, ён заўважыў, што на Захадзе ўяўлялі, што ўрад В. Кебіча эгаістычна вырашаў розныя старыя сацыяльныя праблемы, латаў дзіркі ў бюджэце за кошт чарнобыльскіх грошай, і менавіта таму Захад блакіраваў дапамогу Беларусі ў ліквідацыі наступстваў Чарнобыля. Па праблеме ўзаемаадносінаў з Расіяй, П. Краўчанка заявіў, што ён не бачыць іншай альтэрнатывы, як самае шырокае эканамічнае супрацоўніцтва з Расійскай Федэрацыяй, але пры ўмове нашага пранікнення ў Сібір, інвесціравання расійскага паліўна-энергетычнага комплексу з мэтай атрымання ў перспектыве стабільных дывідэндаў. Выказаўся П. Краўчанка і па праблеме ўзносу Беларусі ў бюджэт ААН, які ён назваў празмерным і зазначыў, што ў бліжэйшыя 5-6 гадоў ён будзе памяншацца.

Старшынёй Камісіі па адукацыі, навуцы і культуры быў абраны прарэктар Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта па навуковай рабоце Віктар Плецюхоў. У яго пыталіся аб ягоным бачанні праблемы двухмоўя ў сістэме адукацыі Беларусі, на што ён адказаў, што, на яго думку, кожны грамадзянін краіны, кожны навучэнец, студэнт мае права выбару мовы навучання, ніякай рэгламентацыі на гэты конт не павінна быць. Аднак В. Плецюхоў выказаў разуменне, што існуючыя ўмовы ставяць у няроўнае становішча беларускую мову і таму ёй патрэбна дзяржаўная падтрымка — фінансавая, маральная, — але не прымус. В. Плецюхоў адказаў, што асабіста ён ведае беларускую мову ў аб'ёме, неабходным, каб зразумець беларускую гаворку, скласці дакумент, але самому размаўляць на беларускай мове яму пакуль цяжка. Адзін з дэпутатаў выказаўся, што ён дапаможа В. Плецюхову ўдасканаліць яго валоданне дзяржаўнай мовай. Старшынёй Камісіі па сацыяльнай палітыцы і працы быў абраны старшыня Бярэзінскага райвыканкома, зоаінжынер па спецыяльнасці, Кузьма Мельнікаў. Яго кандыдатура асаблівых спрэчак не выклікала.

Пастаянную Камісію па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню ўзначаліў прававед, кандыдат юрыдычных навук, саветнік міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Савічаў, які ў свой час быў першым намеснікам міністра ўнутраных спраў БССР і начальнікам Акадэміі міліцыі МУС. Адносна ўказаў Прэзідэнта аб ліквідацыі раённых Саветаў у вялікіх гарадах У. Савічаў зазначыў, што ён падтрымлівае рашэнне Канстытуцыйнага суда, якое адмяніла гэтыя ўказы, і будзе імкнуцца да таго, каб у нашай краіне было сапраўднае народаўладдзе.

Прапанаванаму першым намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета Васілём Новікавым на пасаду кіраўніка пастаяннай Камісіі па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадскімі і рэлігійнымі арганізацыямі Ігару Катлярову была выстаўлена альтэрнатыўная кандыдатура Мечаслава Грыба. Аднак апошні, выступіўшы па праблематыцы камісіі вырашыў усё ж зняць сваю кандыдатуру дзеля згоды ў парламенце. Гэты ўчынак М. Грыба парламентарыі ацанілі дружнымі воплескамі. А П. Краўчанка зазначыў, што, улічваючы заслугі М. Грыба ў адстойванні парламентарызму, ягоны вялікі вопыт, яго трэба было б абраць членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Магчыма, што гэтае пытанне сапраўды паўстане ў бліжэйшы час. А Ігар Катляроў, які працуе дырэктарам Беларускага інстытута інфармацыі і прагнозу пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і мае званне доктара сацыялагічных навук, быў, у рэшце рэшт, абраны на гэтую адказную пасаду. У сваёй перадвыбарнай прамове Ігар Катляроў зазначыў, у прыватнасці, што патрэбны законы аб інфармацыі, радыё і тэлебачанні, што ўсякая цэнзура над СМІ недапушчальная, аднак сродкі масавай інфармацыі павінны дзейнічаць адказна і прадастаўляць права выказаць свой пункт гледжання ўсім. У галіне правоў чалавека І. Катляроў зазначыў неабходнасць прадастаўлення свабоды выбару месца жыхарства, выказаўся па іншых праблемах.

Старшынёй вельмі важнай Камісіі па бюджэту, падатках, банках і фінансах быў абраны начальнік кантрольна-рэвізійнага ўпраўлення Службы кантролю Прэзідэнта па Гомельскай вобласці Уладзімір Башарымаў, які з'яўляецца эканамістам па адукацыі і шмат часу адпрацаваў у розных кантралюючых службах. У. Башарымаў у размове з карэспандэнтам «Звязды» зазначыў, што праблемы падаткаў і бюджэту ён добра ведае як практык. У. Башарымаў прадстаўляе фракцыю сацыял-дэмакратаў. Адзіным абраным старшынёй парламенцкай камісіі ад фракцыі «Грамадзянскае дзеянне» стаў Васіль Шлындзікаў, прэзідэнт акцыянернага таварыства «Амкадор», акадэмік Беларускай інжынернай тэхналагічнай акадэміі. Ён узначаліў Камісію па эканамічнай палітыцы і рэформах. В. Шлындзікаў, такім чынам, пакіне кіраўніцтва вядомыму рэспубліцы АТ «Амкадор», аднак, як ён зазначыў «Звяздзе», хацеў бы ўсё ж застацца ў яго праўленні. Матывацыяй для вылучэння В. Шлындзікава на гэтую пасаду паслужыў ягоны вопыт эканамічнага рэфарміравання на ўзроўні прадпрыемства, які выявіў, што сур'ёзных рэформаў унізе без кардынальных зрухаў на макраўзроўні быць не можа. Да В. Шлындзікава было даволі шмат пытанняў на тэму рынучных рэформаў. У прыватнасці, адказваючы на іх, ён зазначыў, што галоўны тормаз рэформаў — гэта клас чыноўнікаў, што цяпер у нас утварыўся. Акрамя таго, В. Шлындзікаў станоўча выказаўся па праблеме прыватнай уласнасці на зямлю, заявіўшы сярод іншага, што і ворныя землі павінны купляцца і прадавацца грамадзянамі нашай краіны.

Старшынёй Камісіі па рэгламенту, мандатах і дэпутацкай этыцы без асаблівага абмеркавання стаў юрыст Анатоль Красуцкі, які да абрання ў парламент працаваў загадчыкам аддзела пісьмаў і прыёму грамадзян Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. А старшынёй Камісіі па ахове здароўя, фізічнай культуры і спорту абраны ўрач Уладзімір Беляхоў, які да гэтага часу працаваў начальнікам упраўлення аховы здароўя Мінскага гарвыканкома. Такім чынам, абраны кіраўнікі ўсіх пастаянных парламенцкіх камісій. У бліжэйшы час парламент вызначыцца з іх намеснікамі, сакратарамі камісій, кіраўнікамі падкамісій.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# ХТО ЯК ВУЧЫЦЦА, ТОЙ СТОЛЬКІ І АТРЫМАЕ

**Новыя памеры дзяржаўных стыпендый для навучэнскай моладзі ўведзены з 1 студзеня бягучага года. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-цэнтры Міністэрства адукацыі і навукі рэспублікі, яны зацверджаны сумеснай пастановай Міністэрства фінансаў і Міністэрства працы ў мэтах выканання Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 474 «Аб сацыяльнай падтрымцы навучэнскай моладзі».**

Прынятай пастановай распрацаваны памеры трох відаў стыпендый: імянных, сацыяльных і навучальных. Згодна з дакументам, самыя вялікія сумы чакаюць імянных стыпендыятаў. Тыя з іх, хто вучыцца ў ВНУ, атрымаюць імянную стыпендыю ў размеры 260 працэнтаў мінімальнай заработнай платы. Навучэнцам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў імянная стыпендыя назначана крыху меншая — 240 працэнтаў мінімальнай зарплаты.

Па-іншаму выглядае намінацыя «навучальныя стыпендыі»: у ВНУ — 160 працэнтаў мінімальнай заработнай платы, у сярэдніх спецыяльных навучальных установах — 135 працэнтаў.

Для той катэгорыі навучэнцаў, якія рашэннямі ўрада пастаўлены на поўнае дзяржзабеспячэнне, навучальныя стыпендыі складуць у ВНУ — 80 працэнтаў мінімальнай зарплаты, а ў сярэдніх спецыяльных навучальных установах — 70 працэнтаў.

Памер сацыяльнай стыпендыі ў ВНУ роўны 120 працэнтам мінімальнай зарплаты. А ў сярэдніх спецыяльных навучальных установах сацыяльная стыпендыя прыраўнавана да мінімальнай зарплаты.

100 працэнтаў яе будуць атрымліваць і слухачы падрыхтоўчых аддзяленняў ВНУ з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў. У гэты разрад атрымальнікаў уваходзяць таксама дзеці ваеннаслужачых, загінуўшых пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку, чыё забеспячэнне ўзяла на сябе дзяржава, слухачы падрыхтоўчага аддзялення спеваў і кампазіцыі пры Беларускай акадэміі музыкі.

Стымулам для дасягнення асаблівых поспехаў у вывучэнні асобных дысцыплін і ў навукова-тэхнічнай творчасці можа стаць для студэнтаў персанальная стыпендыя Савета ВНУ, якая складае 210 працэнтаў мінімальнай заработнай платы.

Для пэўных груп навучэнскай моладзі пастановай прадугледжана надбаўка ў памеры 50 працэнтаў да ўстаноўленай стыпендыі. У першую чаргу ў дакуменце названы тыя, хто атрымлівае льготы ў адпаведнасці з артыкуламі 18—20 і 23—25 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС». На тую ж надбаўку могуць разлічваць студэнты вышэйшых і навучэнцы сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў з ліку былых ваеннаслужачых, якія сталі інвалідамі ў выніку ранення, кантузіі, калецтва ці захворвання, атрыманых пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку, а таксама інваліды 1-й і 2-й груп па зроку і глуханямыя.

50 працэнтаў устаноўленых памераў стыпендый кожны месяц будуць атрымліваць тыя, хто знаходзіцца ў акадэмічным водпуску па медыцынскіх паказаннях. Выплачвацца гэта сума будзе за кошт сродкаў навучальных устаноў на працягу ўсяго перыяду акадэмічнага водпуску.

Устанаўліваюцца ўсе вышэйназваныя стыпендыі ў адпаведнасці з інструкцыямі аб парадку назначэння і выплаты стыпендый студэнтам ВНУ ці навучэнцам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, зацверджанымі Міністэрствам адукацыі і навукі па ўзгадненню з Міністэрствам працы і Міністэрствам фінансаў.

Для назначэння навучальнай стыпендыі бал паспяховасці ў студэнтаў ВНУ гуманітарных, педагагічных і эканамічных спецыяльнасцей павінен быць не ніжэй чым 3,6, а прыродазнаўча-навуковых, тэхнічных, медыцынскіх, сельскагаспадарчых, ваенных спецыяльнасцей, а таксама ў навучэнцаў сярэдніх спецыяльных устаноў — не ніжэй чым 3,4.

Для тых, хто страціў права на атрыманне навучальнай стыпендыі і знаходзіцца ў цяжкім матэрыяльным становішчы, гэтай пастановай даецца выратавальная саломінка. Кіраўнікам вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў дазволена назначаць гэтай катэгорыі студэнтаў і навучэнцаў сацыяльную стыпендыю.

Праўда, выкарыстаць такую магчымасць можна не больш чым два разы за ўвесь перыяд навучання. Указаная стыпендыя назначаецца па прадстаўленню дэканаў факультэтаў (намеснікаў дырэктараў па навучальнай рабоце) па ўзгадненню з прафсаюзнымі, студэнцкімі (вучнёўскімі) арганізацыямі ў межах планавага стыпендыяльнага фонду.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

# БОЛЬШ ПАДСТАЎ ДЛЯ ТРЫВОГІ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**
Васіля Новікава і намеснікаў Генадзя Карпенкі і Юрыя Малумава цяжка расцаніць інакш, як плён кампрамісу, шчыльнага міжфракцыйнага ўзаемадзеяння і дысцыпліны. Паказальна тое, што Прэзідэнт усё ж дабіўся свайго — Станіслаў Багданкевіч віцэ-спікерам не стаў. Але тое, што замест яго выбраны Генадзь Карпенка, перамогай Аляксандра Лукашэнкі назваць ніяк нельга. У перспектыве гэта фігура здольна скласці намнога больш сур'ёзную канкурэнцыю цяперашняму Прэзідэнту, чым мяккі і не надта красамоўны Багданкевіч. А пасада віцэ-спікера адкрывае досыць шырокія магчымасці для «раскруткі» іміджа і папулярнасці.

У цэлым першыя два тыдні працы парламента паказалі, што маніпуліраваць ім з дапамогай тых жа метадаў, якія больш эфектыўныя ў працы з Вярхоўным Саветам 12-га склікання, — справа малаперспектыўная і бясплённая.

Зразумела, пэўны эфект гучнае выкрывальніцкае выступленне Прэзідэнта на закрытым пасяджэнні Вярхоўнага Савета выклікала. Але праз некалькі дзён дэпутаты выслухалі працяглае выступленне Станіслава Багданкевіча, у якім былы старшыня Нацыянальнага банка абвергнуў усе абвінавачанні ў свой адрас. Акрамя таго, выкрыцці ніяк не паўплывалі на цесныя кантакты паміж «Грамадзянскім дзеяннем» і фракцыямі левага напрамку. І гэта адна з адметных новых рыс новага парламента. Цяжка ўявіць падобныя кантакты і альянсы, калі б месца дэмакратычнай апазіцыі займаў Народны фронт на чале з Зянонам Пазняком. У гэтым сэнсе, як ні парадаксальна, Прэзідэнту знаходжанне ў Вярхоўным Савеце фракцыі БНФ было б якраз на руку: вопыт апошніх месяцаў існавання старога парламента — яркае таму пацвярджэнне.

На мінулым тыдні Вярхоўны Савет заслухаў адметнае ў многіх адносінах выступленне старшыні Канстытуцыйнага суда Валерыя Ціхіні. У пэўным сэнсе яго можна расцэньваць як пралог да наступных падзей, якія ў блізкай будучыні разгорнуцца ў адносінах паміж рознымі галінамі ўлады. Вярхоўны савет і Канстытуцыйны суд на цяперашні момант па прычыне шэрага абставінаў — лагічныя і відавочныя саюзнікі. Валерый Ціхіня шукае падтрымку ў парламенце і пакуль што знаходзіць яе. Яркі прыклад — выпадак у апошнія дні 1995 года, калі на абарону старшыні КС шчыльнымі радамі сталі амаль усе парламенцкія фракцыі. Ды і цяперашняе выступленне Ціхіні значная частка дэпутацкага корпуса сустрэла воплескамі. Тым больш, што — вопытны палітык і юрыст — старшыня КС не дазваляе сабе апускацца да міжусобных разборак і аддае перавагу сухой, строгай і стрыманай мове фактаў і аргументаў у выглядзе канстытуцыйных нормаў.

У гэтыя дні Канстытуцыйны суд завяршае падрыхтоўку традыцыйнага штогадовага паслання аб стане канстытуцыйнай законнасці ў краіне. Суд будзе настойваць на тым, каб адбыліся парламенцкія слуханні па гэтай праблеме. У сувязі з гэтым можна меркаваць, што крытычны момант у адносінах паміж Прэзідэнтам і Канстытуцыйным судом яшчэ наперадзе.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі пройдзе невялікі снег. Тэмпература паветра ў Магілёве і Віцебску — 3—5, Гомелі — 4—6, Мінску — 5—7, Гродне і Брэсце — 7—9 градусаў марозу.

У наступныя двое сутак выпадзенне снегу паступова спыніцца, а маразы ўзмоцняцца.

**Медыцынскі прагноз надвор'я на 20 студзеня**

Надвор'е будзе вызначацца перыферыяй антыцыклону, што прывядзе да росту атмасфернага ціску і ўтрымання кіслароду ў паветры. У такіх умовах захаваецца верагоднасць пагаршэння самаадчування ў хворых на гіпертанічную хваробу. Па-ранейшаму гэтай групе метэазалежных хворых рэкамендуецца кантраляваць артэрыяльны ціск, рэгулярна прымаць лекавыя прэпараты, прызначаныя ўрачом, уключаючы заспакаяльныя сродкі.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік**
**БелНДІ кардыялогіі.**

**Згубленае пасведчанне ліквідатара наступстваў аварыі на ЧАЭС № 3323 серыі А, выдадзенае на імя НОВІКА Валянціна Васільевіча, лічыць несапраўдным.**

# АПОШНЯЯ АСОБА ЗОНЫ



(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).





ЁН БЫЎ апошняй Асобай зоны. Не выпадкова і даволі часта здзяйсняліся да яго паломніцтвы. Пра яго здымалі нават кіно, якое сам ён ніколі не бачыў (адкуль у адселенай зоне тэлевізар?).

Такія ўпэўненыя ў сабе асобы нячаста сустракаюцца ў нармальным жыцці, не кажучы пра чарнобыльскі край. Сваім пустэльніцтвам гэты стары рабіў выклік грамадству, маўляў, вы спужаліся радыяцыі, уцяклі, схаваліся, а я — жыву. Але свайго пункту гледжання ён нікому не навязваў.

Калі здарылася аварыя на ЧАЭС і вёска Пабужжа на Веткаўшчыне апынулася ў палоне радыяцыі, жыць у ёй забаранілі. Людзі з'ехалі, хоць было гэта на мяжы немагчымага. Толькі Аркадзь Набокін — настаўнік-пенсіянер — не знайшоў у сабе сіл адарвацца ад радзімы. Яго ўгаворвалі, папярэджвалі і нават пагражалі. Але стары вырашыў лепш стаць добраахвотным вязнем зоны, чым памерці ад тугі. Ён быў яшчэ фізічна моцны і не адчуваў уплыву радыяцыі на сваё здароўе. А каб нават і ў зоне не быць лішнім, заняўся фермерствам — жывёлагадоўляй. Пагалоўе ягонага малочна-мяснога статка, з якім, дарэчы, ён лёгка ўпраўляўся, налічвала часам 30 галоў. Стыхія здзічэласці і пустаты рабілася яму звыклай. Рэдка ў які дзень не праходзіў ён са сваім статкам па 5—10 кіламетраў.

Асобай ён быў заўсёды. З маладых гадоў выхоўваў у сабе гэтую якасць. Як-ніяк меў дзве вышэйшыя адукацыі. Нават у тым, што ў школу на працу за 7 кіламетраў заўсёды хадзіў пешшу, бачылася яго асаблівая натура. Людзі здаўна паважалі радавод Набокіных, і Аркадзь Паўлавіч, як кажуць, не зганьбіў сваіх продкаў, дастойна прайшоў вайну, гэтак жа годна сеяў разумнае, добрае, вечнае.

Жыццё ў суцэльнай адзіноце прымусіла яго з многім змірыцца. Быт старога быў амаль спартанскім. Ён сам сябе стрыг і мыў, гатаваў ежу і сам сябе весяліў, беручы часам у рукі баян. Ён спяваў. У голасе яго была такая невыносная туга. Але, відаць, толькі так ён мог выказаць сваю любоў да Бацькаўшчыны. Было Набокіну 82 гады.

І ўсё ж ён аказаўся безабаронным не перад радыяцыяй, не перад адзінотай і нават не перад сваёй старасцю — перад зламыснікамі, ад чыіх рук загінуў. На што паквапіліся?

Анатоль КЛЯШЧУК.
Фота аўтара.

# «БЕЛАРУСЬ» ПАТРЭБНА БЕЛАРУСІ!

*Выдавецтву «Беларусь» спаўняецца 75 гадоў. З яго дырэктарам Мікалаем КАВАЛЕЎСКІМ гутарыць журналіст Анатоль МЯСНІКОЎ*

**— Мікалай Аляксеевіч! Для пачатку, як кажуць, з юбілеем!**

— Дзякуй. Мне вельмі прыемна атрымаць віншаванне ад «Звязды», з якой мы разам робім агульную і так патрэбную на сённяшні дзень справу — працуем у імя беларускага нацыянальнага Адраджэння.

**— А як усё пачыналася тады, 75 гадоў назад?**

— Я мяркую, што ўсё было па-будзёнаму звычайна. 18 студзеня 1921 года ўрад Беларусі падпісаў пастанову аб стварэнні Дзяржаўнага выдавецтва рэспублікі. Пазней, у 1963-м, яно атрымала назву «Выдавецтва «Беларусь». Дарэчы, на базе гэтага выдавецтва ўзніклі галіновыя — «Народная асвета», «Ураджай», «Мастацкая літаратура», «Юнацтва» і іншыя.

**— Вы хочаце сказаць, што Дзяржвыд (і, натуральна, «Беларусь») стаялі ля вытокаў выдавецкай справы ў нашай рэспубліцы?**

— Менавіта так усё і было.

**— І якія асноўныя набыткі выдавецтва за гэтыя 75 гадоў?**

— Іх, скажу так, нямала. За гэты час выпушчана больш як 25,5 тысячы назваў кніг, агульны тыраж якіх склаў 440 мільёнаў экземпляраў.

**— Мікалай Аляксеевіч, аднак гэтыя дасягненні, якімі сапраўды можна і трэба ганарыцца, прыпадаюць, відавочна, на ўсе гады патроху. Але ж апошні час для вас, як, дарэчы, і для нас, хутчэй стаў часам выпрабаванняў і блуканняў па пакутах, чым перыядам поўнага ажыццяўлення планаў, задум і мараў. Ці не так?**

— Перабудовачныя працэсы, а дакладней — развал эканомікі натуральна ж не мог не закрануць і нашу галіну. Калі да пачатку 90-х гадоў мы выпускалі штогод у сярэднім па 250, то цяпер стабільна выдаём толькі 100 назваў выданняў. Мы вымушаны былі скараціць выпуск, аднак зараз выдаём той аптымальны аб'ём, які імкнёмся захоўваць з году ў год. Будзе захаваны ён і сёлета.

**— А як абстаяць справы з тыражамі выдання?**

— Гэта праблема сёння востра стаіць перад усімі дзяржаўнымі выдавецтвамі. Найперш падзенне тыражоў звязана са змяншэннем заказаў кніжнага гандлю. А гэта, у сваю чаргу, вядзе да павелічэння цаны на кніжкі. Атрымліваецца такім чынам замкнёнае кола, і на фоне змяншэння пакупніцкай здольнасці насельніцтва літаратура становіцца ўсё менш даступнай для чытача. Адным словам, сітуацыя на кніжным рынку сёння нездаровая, трывожная для агульнага стану культуры ў Беларусі.

Кніжны гандаль сам знаходзіцца ў цяжкім становішчы. Ён не можа браць для рэалізацыі шмат літаратуры: яна проста не разыходзіцца. Выдаўцы, не маючы аператыўнай аплаты за выдадзеную прадукцыю, не могуць папаўняць абаротныя сродкі і нарошчваць выпуск літаратуры. Адбіваецца на павышэнні цаны на кніжкі і рост кошту сыравіны, паліграфічных паслуг.

**— Сітуацыя трывожная, што тут і казаць. Але ж ці ёсць выйсце са становішча?**

— Хачу адразу зазначыць, што з боку дзяржавы прымаюцца значныя меры для таго, каб захаваць нацыянальнае кнігавыданне. Першнаперш гэтаму садзейнічаюць бюджэтныя датацыі на падтрымку беларускамоўнай літаратуры, а таксама дзіцячай, навукова-даведачнай літаратуры. Дзякуючы такім фінансавым ін'екцыям, цану на гэтыя выданні пэўным чынам удаецца зніжаць і рабіць іх больш даступнымі для чытачоў.

Асноўныя праблемы сённяшняга дня я падзяліў бы на тры групы. Нягледзячы на тую падтрымку, якая аказваецца кнігавыдаўцам, з боку дзяржавы не зусім прадуманыя, на мой погляд, правілы гульні для кнігавыдавецкай і кнігагандлёвай сфер. Вось што маецца на ўвазе. Уступілі мы ў адзіны мытны саюз з Расіяй. У Расіі прыняты і з 1 студзеня г. г. дзейнічае закон, які дае значныя льготы кнігавыдаўцам, паліграфістам і рэдакцыям перыядычных выданняў у падаткаабкладанні і змяншэнні ўсялякіх мытных пабораў. У нас пакуль што такія рашэнні не прыняты. І з улікам той падтрымкі, якую атрымалі кнігавыдаўцы Расіі, наша прадукцыя адразу ж становіцца больш дарагой, а як вынік — неканкурэнтаздольнай. Правілы ж гульні на адзінай мытнай прасторы для суб'ектаў гаспадарання павінны быць аднолькавыя... Тым больш, што па зместу і тэматыцы, паліграфічнаму афармленню нашы рускамоўныя выданні могуць з поспехам канкурыраваць на расійскім рынку, дзякуючы чаму маглі б расці і тыражы выданняў.

Другая група праблем звязана са становішчам кнігагандлю. У нас сёння назіраецца падыход да кнігагандлю, скажу так, як і да гандлю прамысловымі, харчовымі, іншымі таварамі. Нiколькі не ўлічваецца спецыфіка: кніга ўсё ж такі тавар асаблівы. Па-першае, ён не так хутка разыходзіцца, падзяляецца па тэматыцы, запатрабаваннях спажыўцоў. Па-другое, варта ўлічваць, што наш тавар заклікаиы задаволіць духоўныя патрэбы чалавека, павысіць ягоныя веды, культурны ўзровень. Адным словам, гэта спецыфічны гандаль. На месцах жа яго душаць арэнднымі падаткамі, адсутнасцю абаротных сродкаў. Праблема ж прыватызацыі можа наогул выцесніць гандаль кнігай калі не ў падсобныя памяшканні, дык у аддаленыя куточкі магазінаў і крамаў.

З боку дзяржавы, па майму цвёрдаму перакананню, павінен быць праяўлены свайго роду патранаж над кніжным гандлем, інакш і падтрымка кнігавыдання можа звесціся да таго, што з агульнага ланцуга будзе вырвана вельмі важнае і патрэбнае звяно, у выніку чаго ланцуг «выдаўцы—паліграфісты—кніжны гандаль» можа проста перастаць існаваць.

І трэцяя праблема — апошнія новаўвядзенні па заработнай плаце. Атрымліваецца так, што калі будуць прыняты тыя напрацоўкі, якія ўжо прапанаваны, то аб'ектыўна заработная плата ў выдавецтвах паменшыцца. Калі раней мы мелі права пэўны працэнт ад атрыманага прыбытку размяркоўваць на матэрыяльнае заахвочванне работнікаў (зазначу: пераважная большасць якіх — людзі з вышэйшай адукацыяй), то зараз на гэта маецца намер накласці абмежаванні. Уяўляеце: мы страцім у выніку гэтага высокакваліфікаваных спецыялістаў, якіх, дарэчы, у рэспубліцы толькі пачынаюць рыхтаваць, яны становяцца прафесіяналамі ў працэсе работы. Яны знойдуць сабе заробак, але, на жаль, не ў дзяржаўных структурах. Па гэтай прычыне многія выдавецтвы ўжо згубілі сваіх лепшых мастакоў, афарміцеляў: спецыялістаў, ад якіх патрабуецца і прыродны густ, і вялікія навыкі.

**— Ваша выдавецтва шматпрофільнае: яно выдае грамадска-палітычную, гісторыка-філасофскую, медыцынскую, навукова-тэхнічную, спартыўную літаратуру, календары, альбомы і г. д.**

— Усё правільна. Дзякуючы рознапланавасці тэматыкі, нам удаецца ў пэўнай меры ўтрымацца на плыву, больш-менш дастойна аплачваць працу нашых супрацоўнікаў.

Працы наперадзе шмат. Але наш калектыў гатовы да яе. У нас шмат сталых, вопытных і высокакваліфікаваных спецыялістаў, тонкіх знаўцаў сваёй справы. Ім любыя задачы і цяжкасці па плячы.

## БДУ чакае новага рэктара

Днямі па ўласнаму жаданню пакінуў пасаду рэктара Белдзяржуніверсітэта член-карэспандэнт Акадэміі навук, прафесар Фёдар Мікалаевіч Капуцкі.

10 студзеня Мікалаю Капуцкаму споўнілася 66 гадоў. Літаральна напярэдадні гэтага дня скончыўся падоўжаны тэрмін, на які ў сакавіку 1990 года Саветам універсітэта прафесар быў абраны на пасаду рэктара буйнейшай ВНУ краіны. Як паведаміў у гутарцы з нашым карэспандэнтам сам Фёдар Мікалаевіч, да 1 лютага ён будзе знаходзіцца ў водпуску. Але весці размовы аб выхадзе на пенсію, відаць зарана. Хутчэй за ўсё, у далейшым Мікалай Капуцкі будзе працаваць дарадцам у Міністэрстве адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь. Пакуль абавязкі кіраўніка БДУ выконвае першы прарэктар універсітэта Пётр Кухарчык. Пытанне, хто ўзначаліць ВНУ, павінна канчаткова вырашыцца ў самы бліжэйшы час.

Сяргей ГРЫБ.

## Тэмпы жыллёвага будаўніцтва зніжаюцца. І не першы год

Яшчэ калі дзяржава наша лічылася ўсяго толькі рэспублікай, у сярэднім (па статыстыцы з 1970 па 1991 год) штогод уводзілася ў эксплуатацыю недзе каля 70--80 тысяч жылых памяшканняў агульнай плошчай 4731 тысяча квадратных метраў. Найбольш паказальны 1987 год -- было ўведзена 5878 тысяч квадратных метраў агульнай плошчы. Калі перавесці гэтыя абсягі ў іншую форму вымярэння, то атрымаецца каля 100 тысяч кватэр і індывідуальных жылых дамоў.

Пачынаючы з 1992 года аб'ёмы жыллёвага будаўніцтва пачалі значна падаць. У 1994 годзе было ўведзена ў эксплуатацыю толькі 3262 тысячы квадратных метраў агульнай плошчы. А гэта складае 60,5 працэнта ад аб'ёму жылля, пабудаванага ў 1991 годзе, які папярэднічаў сучаснаму этапу развіцця эканомікі.

Як вядома з даных Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Рэспублікі Беларусь, за дзевяць месяцаў (са студзеня па верасень уключна) леташняга года ў эксплуатацыю ўведзена каля 13 тысяч жылых памяшканняў агульнай плошчай 838 тысяч квадратных метраў.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

## ЧАМУ «ЗВЯЗДА» ПІША ЧАСАМ НЕ ТАК, ЯК ІНШЫЯ ВЫДАННІ?

**Чаму вы заўсёды пішаце «ком»: Мінгарвыканком, выканком, райвыканком (ад слова «камітэт»), ваенком (ад слова «камісар»)? Трэба ж пісаць «кам».**

**САКОВІЧ Вадзім,** *Мінскі раён.*

У напісанні вышэйпералічаных слоў «Звязда» кіруецца «Правіламі беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (Мінск, 1959), паколькі новых ніхто не выдаваў. А «Правілы...» гэтыя сцвярджаюць (§ 135, стар. 65): «У апошняй частцы некаторых складанаскарочаных слоў пад націскам можа аднаўляцца этымалагічнае **о**, якога ў поўным слове не бывае, напрыклад: райком (раённы камітэт), нарком (народны камісар), селькор (сельскі карэспандэнт), парторг (партыйны арганізатар) і інш».

Што ж гэта за «этымалагічнае **о**»?

Этымалогія — гэта раздзел мовазнаўства, які вывучае паходжанне слоў. Дык вось, па паходжанню ўсе складанаскарочаныя словы з «ком» запазычаны з рускай мовы, г. зн. з'яўляюцца па сутнасці запазычанай лексікай. Яны трывала замацаваліся ў беларускай мове, асіміляваліся ў ёй, а пагэтаму ў напісанні і вымаўленні не мяняюць сваёй першапачатковай формы. «Звязда» не кіруецца тут ідэалагічным прынцыпам, як, на жаль, гэта зрабілі некаторыя іншыя выданні.

## З НІГЕРЫІ НІХТО НЕ ПІША?

***«Звязда» нейк давала на сваіх старонках падборку аб махлярах, дзе расказвала аб шматлікіх спосабах падману злачынцамі як простых спажыўцоў, так і супрацоўнікаў розных фінансавых устаноў. Пасля той публікацыі прайшоў час і, магчыма, з'явілася штосьці «свежанькае»? Мяне, у прыватнасці, цікавіць так званыя міжнародныя махляры.***

**Б. А.,** *Мінская вобласць.*

Што датычыцца міжнародных злачынцаў, то, як нам удалося даведацца, апошнім часам Нацыянальны цэнтр бяспекі Інтэрпола Беларусі праінфармаваў банкі аб новых прыёмах і метадах учынення злачынстваў. Так, напрыклад, пасольства Нігерыі ў Стакгольме зрабіла афіцыйнае папярэджанне аб існаванні так званых «нігерыйскіх пісьмаў» з прапановамі па утылізацыі таксічных адходаў у Нігерыі. З мэтай увесці ў зман патэнцыяльных дзелавых партнёраў аўтары фальшывых пісьмаў выкарыстоўвалі надуманыя адрасы і псеўданімы. Пры гэтым махляры спасылаліся на свае цесныя сувязі з мытнымі службамі і іншымі праваахоўнымі органамі Нігерыі.

## ШТО З БАНКАМ?

***Вядуцца размовы аб банкруцтве банка «Дукат», а што адбываецца на самай справе?***

**Валер КРЫЎЦОЎ,** *Гродзенская вобласць.*

Прагноз аб магчымым банкруцтве АКБ «Дукат», які давалі некаторыя спецыялісты, цалкам магчыма, у хуткім часе можа стаць рэальнасцю, што будзе пацверджана судовымі органамі. Справа ў наступным. Юрыдычная фірма «Бізнесконсалт» падала ў гаспадарчы суд Мінскай вобласці іск аб прызнанні эканамічна неплацежаздольнай гэтай банкаўскай установы краіны. Справа прынята да вытворчасці і назначана да першага слухання, якое адбудзецца 23 студзеня. Аб выніках справы «Звязда» паведаміць чытачам дадаткова.

## ЗАГАДКА КАСМАНАЎТА № 1

***Дзесьці чытала, што першы чалавек, які павінен быў адправіцца ў космас, — Бандарэнка, а не Гагарын. Чаму ўсё ж ён не паляцеў на касмічным караблі «Усход»?***

**Ірына ВАСІЛЕВІЧ,** *Берастаўіцкі раён.*

Са стартамі першых касмічных караблёў звязана вельмі шмат, падчас самых неверагодных, чутак і нават легенд. Аднак у гэтым выпадку рэчаіснасць аказалася самым што ні на ёсць суровай.

Прэзвішча касманаўта № 0 было Бандарэнка. Ён загінуў у канцы сакавіка 1961 года — за два тыдні да старта першага пілатуемага чалавекам карабля. У час апошніх перадстартавых выпрабаванняў у сурдабаракамеры, дзе знаходзіўся патэнцыяльны касманаўт № 1, узнік пажар. Люк камеры заклініла. У літаральным сэнсе слова на вачах спецыялістаў Бандарэнка заажыва згараў у баракамеры. Яго астанкі ў запаянай цынкавай труне выдалі родным — без усякіх тлумачэнняў. На надмагільнай пліце былі выбіты надпіс: «Першаму касманаўту СССР». Родныя зрабілі высновы: загінуў на старце. Аднак першы касманаўт СССР у космасе нікалі не быў.

## МАЛАДЫЯ МОГУЦЬ АТРЫМАЦЬ НОВУЮ ПРАФЕСІЮ Ў СПЕЦЫЯЛІЗАВАНЫМ ЦЭНТРЫ

***Ведаю, што ў Мінску дзейнічае цэнтр прафарыентацыі моладзі. Падкажыце, калі ласка, яго адрас.***

**Уладзімір,** *г. Навагрудак.*

Сталічны цэнтр прафарыентацыі моладзі знаходзіцца па адрасу: праспект Скарыны, 46. Тэлефон аддзела прафкансультацыі — 39-79-48, дырэктара — 32-12-12. Гарадскія цэнтры прафарыентацыі моладзі таксама ёсць у Наваполацку і Гродне.

## «КОКА» ЎТРЫМЛІВАЕ КАКАІН

***Сёння паліцы дзяржаўных і камерцыйных магазінаў літаральна ломяцца ад газіраваных напояў замежнай вытворчасці. Журналы, радыё і тэлебачанне завалены рэкламай кока- і пепсі-колы, якую чамусьці «выбірае» новае пакаленне і з вялікім задавальненнем ужываюць нават палярныя мядзведзі. А што азначаюць самі словы «кола» і «кока»?***

**В. ГРЫГОР'ЕЎ,** *г. Віцебск.*

Кола — гэта вечназялёнае дрэва з буйным лісцем і пладамі. Вырошчваюць гэта дрэва ў Нігерыі, Гане, Камеруне і іншых гарачых краінах. Жыхары Афрыкі даўно пачалі выкарыстоўваць насенне колы для падаўлення адчування смагі і голаду.

Кока — какаінавы куст, які шырока распаўсюджаны ў Афрыцы, Паўднёвай Амерыцы, Індыі, Цэйлоне. Паколькі ў лісцях кокі ўтрымліваецца амаль 1,5 працэнта какаіну — моцнага наркотыку, то яно знімае стому, прытупляе адчуванне голаду. Дарэчы, з-за гэтага рэчыва людзі і «выбіраюць» кока-колу, паступова прывыкаючы да яе.

## ДЛЯ ВЯЗНЯЎ ФАШЫСЦКІХ КАНЦЛАГЕРАЎ АМАЛЬ УСЕ ЛЬГОТЫ ЗАСТАЛІСЯ

***Да ўступлення ў дзеянне Указа Прэзідэнта «Аб упарадкаванні некаторых ільгот для асобных катэгорый грамадзян» я, як былы вязень фашысцкага канцлагера, меў права: на бясплатны праезд у грамадскім гарадскім і прыгарадным транспарце; бясплатнае атрыманне лекаў па рэцэптах урачоў; 50-працэнтную скідку на газ, тэлефон, электраэнергію... Якія з гэтых ільгот засталіся?***

**Фёдар РАМЕНЧЫК,** *г. Любань.*

Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Міністэрстве сацыяльнага забеспячэння, для былых вязняў фашысцкіх канцлагераў захаваліся ўсе льготы, за выключэннем 50-працэнтнай скідкі на аплату жылля.

## ДВА СТАГОДДЗІ ЛІТАРЫ «Ё»

***Праз год споўніцца роўна дзвесце гадоў, як нарадзілася літара «ё». Лёс яе і цяпер яшчэ не зусім зразумелы. Трэба яе пісаць абавязкова ці не? Дзве кропачкі над «е» шмат каму сапсавалі нерваў...***

**З пісьма маладзечанца Л. ЯФСТАФ'ЕВА.**

«Ё» — сёмая літара рускага алфавіта, яна ёсць таксама ў алфавітах многіх іншых моў, якія карыстаюцца кірыліцай, у т. л. і беларускай мовы.

Літара «ё» ўведзена ў карыстанне вядомым рускім вучоным, гісторыкам і грамадскім дзеячам Мікалаем Міхайлавічам Карамзіным у 1797 годзе — так сведчаць даведнікі.

Літара «ё» не з'яўляецца абавязковай, калі значэнне слова застаецца зусім зразумелым, напрыклад, «шел», «веселый» і да т. п., але яна пішацца звычайна для адрознення, вызначэння сэнсу слоў, напрыклад, «все» і «всё».

У самых розных слоўніках і дапаможніках, у даведачнай літаратуры літара «ё» пішацца для больш дакладнай перадачы напісання і вымаўлення вызначаемага слова.

У беларускай жа мове літара «ё» пішацца абавязкова на ўсіх выпадках, а частая яе адсутнасць у розных тэкстах, на шыльдах, у рэкламе і г. д. сведчыць або аб нізкай пісьменнасці выканаўцаў, або аб элементарным грэбаванні правіламі беларускай граматыкі.

І яшчэ цікавая дэталь. М. М. Карамзіну, калі была ўведзена ва ўжытак у рускай граматыцы літара «ё», было толькі 31 год. Але ж да таго часу ён задумаўся аб неабходнасці гэтай літары, распрацаваў правілы яе ўжытку, даказаў гэтую неабходнасць. І нарэшце, на «вышэйшым узроўні» літара «ё» была зацверджана. Хто з сённяшніх 30-гадовых можа пахваліцца нечым падобным?

## «ГОЛДЭНТ» НЕ ДЛЯ НАШЫХ ЗУБОЎ

***Ці праўда, што чысціць зубы пастай «Голдэнт» небяспечна для здароўя? Кажуць, што ў ёй знайшлі нейкія рэчывы, якія адмоўна ўплываюць на зубы.***

**Аліна БАРАВІК,** *Гродзенская вобл.*

Сапраўды, Дзяржстандартам Расіі і Дзяржкамсанэпіднагляда̄м адменена дзеянне сертыфіката адпаведнасці на індыйскую зубную пасту «Голдэнт».

Індыйцам наўрад ці спадабаецца заключэнне, якое зрабілі таксікологі. Згодна з ім, зубная паста «Голдэнт» валодае мясцовараздражняльным дзеяннем, у асобных партыях тавару ўтрыманне мікраарганізмаў у адным граме пасты — 4000 калоній пры норме 100.

Таксікалагічныя паказчыкі таксама перавышаюць норму. Экспертыза алюмініевых цюбікаў, у якія расфасавана зубная паста, паказала, што ўнутранае лакавае пакрыццё ў іх поўнасцю адсутнічае. Такім чынам, разам з пастай «Голдэнт» алюміній трапляе ў арганізм чалавека.

## КАБ АТРЫМЛІВАЦЬ ПЕНСІЮ ПА ШКОДНАСЦІ, ТРЭБА ПРАВЕСЦІ ЭКСПЕРТЫЗУ

***Я працую ў грузавым аўтапарку кавалём ручной коўкі. Ці маю я права пайсці на пенсію па шкоднасці? Да 1993 года было палажэнне, па якому кавалі мелі права на пенсію з пяцідзесяці гадоў.***

**С. ХАРТАНОВІЧ,** *г. Ліда.*

Як паведамілі карэспандэнту газеты ва ўпраўленні экспертызы працы Міністэрства працы, прафесія каваля ручной коўкі ўваходзіць у спіс шкодных. Аднак, перш чым адказаць, ці маеце вы права на пенсію па шкоднасці, мясцовым упраўленнем экспертызы працы павінна быць дадзена заключэнне. У вашым выпадку вам асабіста трэба звярнуцца ў абласное ўпраўленне (яно знаходзіцца ў Гродне па вуліцы Ажэшкі, 3). Камісія дасць ацэнку і, калі прызнае ўмовы працы шкоднымі, накіруе дакументы ў сабес. Тады ваша пытанне будзе вырашана станоўча.

## НЕПЕРАМОЖНАЯ ХВАРОБА

***Памятаю, некалі вяліся размовы аб тым, што ў нас пераможаны туберкулёз. Аднак цяпер усё часцей сутыкаюся з інфармацыяй, што ў Беларусі расце колькасць захварэнняў менавіта на туберкулёз. Дык у чым жа справа?***

**Ала ЛЕЎЧАНКА,** *Барысаў.*

Як паведамілі нашаму карэспандэнту спецыялісты-медыкі, сапраўды, канец стагоддзя адзначаны ростам захворванняў на туберкулёз, і не толькі ў Беларусі. Сусветная арганізацыя аховы здароўя аб'явіла яго «глабальным» захворваннем. Даследчыкі прагназіруюць 90 мільёнаў зноў захварэўшых і 30 мільёнаў — памёршых за дзесцігоддзе з 1990 па 2000 год, калі кантроль за хваробай і метады яе лячэння не будуць палепшаны.

Самы вялікі рост захворвання прыпадае на краіны Афрыкі, Паўднёва-Усходняй Азіі і заходняй часткі Ціхага акіяна. У Злучаных Штатах за апошнія 8 гадоў колькасць зноў захварэўшых на туберкулёз павялічылася на 14 працэнтаў.

Медыкі адзначылі новую ўласцівасць гэтай хваробы —устойлівасць да лекавага ўздзеяння. Прычым смяротнасць сярод тагіх «новых» інфіцыраваных у сем разоў вышэй, чым у выпадках са «звычайным», вылечваемым туберкулёзам.

Найбольш спакойнымі ў адносінах да туберкулёзу названы Вялікабрытанія і Канада.

## ЧАМУ АДКЛЮЧЫЛІ ВОСЬМЫ КАНАЛ?

**Гэта яшчэ адно пытанне нашага чытача В. Саковіча з пасёлка Лясны Мінскага раёна. *«Вядома, апошнім часам 8-ы канал далёка не той, што быў гады два назад, калі дэманстраваў фільмы ледзь не праз тыдзень пасля іх выхаду ў Галівудзе, але ўсё роўна ён мае права на жыццё...»***

На жаль, сёння мы не зможам даць адказ на пытанне, калі адновіць свае выхады ў эфір тэлевізійны 8-ы канал. Ён, нагадаем, спыніў сваё вяшчанне 31 снежня, прычына — заканчэнне тэрміну дзеяння дагавора паміж МКТ і Рэспубліканскім радыётэлевізійным перадаючым цэнтрам. Для таго, каб заключыць новы дагавор, неабходны дазвол Міністэрства сувязі і інфарматыкі, які пакуль не атрыманы. Акрамя таго, некалькі тыдняў назад указам Прэзідэнта Беларусі створана Дзяржаўная камісія па радыёчастотах. Яна і разгледзе пытанні прадастаўлення эфіру розным тэлекампаніям.

## НІДЭРЛАНДЫ НЕ ДАЧАКАЛІСЯ

***Калі будзе ўведзена адзіная еўрапейская валюта, калі і дзе пачнуць яе выпуск і як яна будзе выглядаць?***

**Пётр П.** *г. Віцебск.*

Па рашэнню ЕС, адзіная валюта будзе ўведзена з 1 студзеня 1999 года. Не дачакаўшыся афіцыйнага ўводу еўра (так называецца будучая адзіная еўрапейская валюта), Нідэрландскі манетны двор выпусціў па падпісцы 100 тысяч першых манет вартасцю 5 еўра. Гэтыя манеты, безумоўна, уяўляюць асноўную каштоўнасць для нумізматаў. На адным баку манеты — выява сімвала Еўропы (круг з зорачак) і голуба з галінкай міру ў дзюбе на фоне шлема бога гандлю Меркурыя. Манета прысвечана знакамітаму нідэрландскаму мараходу Вілему Баранцу, у гонар якога адно з мораў названа Баранцавым, і які зімоўшы амаль 400 гадоў назад, у 1596-97 гг. на Новай Зямлі падчас палярнай экспедыцыі. На другім баку манеты — барэльеф В. Баранца, выява карабля з ветразем у ільдах і белага мядзведзя. Надпіс: Вілем Баранц. Новая Зямля. 1596—97.

## ХТО БОЛЬШ ДАЕ?

***Газеты часта пішуць аб запазычанасці рэспублікі іншым краінам свету, аб даўгах за нафту, газ і інш. Мяне ж цікавіць такое пытанне. Хацелася б ведаць, якія краіны-крэдыторы найбольш вылучаюцца па колькасці і сумах крэдытаў краінам, якія развіваюцца.***

**Уладзімір СТРЭЛЬСКІ,** *Мінск.*

Пальма першынства сярод краін-крэдытораў належыць Японіі, чые крэдыты краінам, якія развіваюцца, у першую чаргу азіяцкім, дасягнулі 236 мільярдаў долараў. За Японіяй ідзе ЗША, — 147 мільярдаў долараў, прычым палова гэтых грошай укладзена ў эканаміку лацінаамерыканскіх краін. Трэцяе месца займае Германія, якая прадаставіла пазыкі на суму 106 мільярдаў долараў, з іх 46 мільярдаў — дзяржавам Усходняй Еўропы. Крыху ад Германіі адстае Францыя, якая прадаставіла пазыкі на суму 103 мільярды долараў, ге даўжнікамі ў асноўным з'яўляюцца краіны Афрыкі і Азіі.

## ПЕНСІІ ІНДЭКСУЮЦЬ. АЛЕ ПРЫ ПЭЎНЫХ УМОВАХ

***Адкажыце, калі ласка, чаму заработная плата індэксуецца, а пенсія — не?***

**Валянціна Іванаўна ГРЫБЯНКОВА,** *г. Магілёў.*

Паважаная Валянціна Іванаўна! Як паведамілі нам у Міністэрстве сацыяльнай абароны насельніцтва, індэксацыя пенсій цяперашнім заканадаўствам прадугледжана. Але тут існуе адзін нюанс.

Справа ў тым, што індэксацыя праводзіцца толькі ў тым выпадку, калі сярэдні заробак рабочых і служачых у краіне ўзрос не менш як на 15 працэнтаў.

Патлумачым. Напрыклад, вядома, што індэксацыя пенсій, дапамог і іншых сацыяльных выплат адбылася ў красавіку мінулага года. У параўнанні з красавікам заработная плата рабочых і служачых павялічылася на 15 працэнтаў толькі ў чэрвені. Таму наступны раз праіндэксаваныя пенсіі былі выплачаны ў жніўні. З таго часу і да новага года ўзяць наступны «пятнаццаціпрацэнтны бар'ер» зарплата не здолела. Адпаведна, не праводзілася ў гэты перыяд і індэксацыя пенсій.

## ІМ КАХАННЕ, А НАМ — СМУТАК

***Чаму БТ перапыніла паказ стужкі «Маё каханне, мой смутак»? Дырэкцыя тэлебачання нават не паклапацілася папярэдзіць гледачоў, якім палюбіўся гэты серыял.***

**Я. МЯЛЕШКА,** *г. Ашмяны.*

Спяшым супакоіць гледачоў: не хвалюйцеся, нічога страшнага не адбылося. Як паведамілі газеце ў Дзяржтэлерадыёкампаніі Беларусі, перапыненне трансляцыі серыяла адбылося выключна з-за перабудовы праграмы тэлебачання.

Цяпер «Каханне і смутак» будуць выдавацца порцыямі па дзве серыі кожны выхадны і святочны дзень. Так што не забудзьцеся ўключыць тэлевізар ужо сёння ў абедзенны час. Серыял працягваецца.

**Выпуск пытальніка падрыхтавалі: Жанна КАТЛЯРОВА, Сяргей ПРОТАС, Анатоль СЛАНЕЎСКІ, Ігар ШЧУЧЭНКА.**

# ВЫХАД АДЗІН — ІСЦІ НАПЕРАД, НАРОШЧВАЦЬ ЭКАНАМІЧНЫ ПАТЭНЦЫЯЛ

***Даклад намесніка прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь С.С.Лінга на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 17 студзеня 1996 года***

Паважаны Старшыня Вярхоўнага Савета, паважаныя дэпутаты! Дакументы па праекту і прагнозу бюджэту, унесеныя для разгляду і зацвярджэння Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь, распрацаваны на аснове папярэдняга аналізу вынікаў работы народнай гаспадаркі за 1995 год, прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996 год, з улікам шэрага намячаемых мерапрыемстваў па рэфарміраванню эканомікі, удасканаленню грашова-крэдытнага механізма, паглыблення інтэграцыйных працэсаў з Расіяй і іншымі дзяржавамі.

Асноўнай асаблівасцю развіцця эканомікі Рэспублікі Беларусь у 1995 годзе з'явілася далейшае пагаршэнне знешніх умоў гаспадарання. У мінулым годзе працягваўся рост цэн на энерганосьбіты, а таксама сыравіну, матэрыялы і камплектуючыя вырабы, пастаўляемыя з Расійскай Федэрацыі. Цана на нафту павялічылася за год на 20—25 працэнтаў, на металы — ад 30 да 50 працэнтаў, на камплектуючыя вырабы — на 40—70 працэнтаў. Хуткі рост цэн пераарыентаваў некаторых нашых таваравытворцаў на закупку сыравіны і матэрыялаў з краін далёкага замежжа. Адначасова, у 1995 годзе, назіраўся таксама рост заработнай платы ў доларавым эквіваленце ад 30 долараў у пачатку года да 80 долараў к канцу года. Рост матэрыяльных затрат і заработнай платы істотна знізілі рэнтабельнасць практычна ва ўсіх сферах народнай гаспадаркі. Разам з тым больш дэталёвы аналіз вынікаў работы галін і прадпрыемстваў дае падставы зрабіць выснову, што многія прадпрыемствы змаглі рост гэтых затрат поўнасцю ці часткова пакрыць за кошт выкарыстання наяўных рэзерваў па зніжэнню сабекошту прадукцыі, гэта значыць адбываецца адаптацыя прадпрыемстваў да рэальных умоў вытворчасці.

Найбольш актыўна ў параўнанні з 1994 годам працавалі прадпрыемствы-экспарцёры. У доларавым вылічэнні за 11 месяцаў мінулага года экспарт павялічыўся на 72 працэнты і дасягнуў 3,8 мільярда долараў ЗША.

Нарошчванне экспартнага патэнцыялу дазволіла ў асноўным забяспечыць рэспубліку энергетычнымі і іншымі рэсурсамі, якіх не хапае, за кошт іх імпарту. Тэмпы росту імпарту былі крыху ніжэйшыя, чым экспарту, што дало магчымасць, паводле папярэдніх даных, скараціць адмоўнае сальда знешнегандлёвага абароту з 550 мільёнаў долараў прыблізна да 400 — 450. Скарачэнне адмоўнага гандлёвага сальда — гэта яшчэ адзін крок да стварэння незалежнай нацыянальнай эканомікі. Толькі дадатнае сальда ў знешнегандлёвым абароце можа сведчыць аб эканамічнай гатоўнасці дзяржавы існаваць самастойна. На жаль, у гэтым напрамку нам яшчэ трэба будзе прайсці нялёгкі шлях.

Павелічэнне сярэдняй заработнай платы дазволіла ў мінулым годзе істотна скараціць міжгаліновы дыспарытэт цэн. Закупачныя цэны на малако, напрыклад, павялічыліся з 32 долараў у 1994 годзе да 98 долараў у 1995 годзе, на буйную рагатую жывёлу, адпаведна, з 240 да 500 долараў. Аналагічнае становішча па іншых відах харчавання. Калі б мы не зрабілі такіх крокаў, рэспубліка не змагла б зняць мытную граніцу і ўвайсці ў адзіную мытную прастору з Расіяй і Казахстанам.

Праводзімая ў рэспубліцы жорсткая грашова-крэдытная і бюджэтная палітыка, у спалучэнні з падтрымкай таваравытворцаў, дала магчымасць знізіць узровень інфляцыі з 30—40 працэнтаў у месяц да 3-4 працэнтаў да канца года. Гэта значыць можна весці размову аб кантралюемай эканамічнымі метадамі інфляцыі. Яе зніжэнне ў спалучэнні з іншымі мерамі дазволіла прыпыніць абясцэньванне абаротных сродкаў, станоўча адбілася на ўмовах гаспадарання і зніжэнні працэнтнай стаўкі па крэдытах. Далёка ззаду засталіся палохаючыя ўсіх працэнтныя стаўкі ў 300—400 працэнтаў гадавых.

Упершыню, за некалькі апошніх гадоў, перасталі катастрафічна зніжацца рэальная зарплата і рэальныя грашовыя даходы насельніцтва. Суадносіны тэмпаў росту заработнай платы і індэкса спажывецкіх цэн за мінулы год, у параўнанні з 1994 годам, склалі 94,4 працэнта.

Прыняты рэальныя меры па фарміраванню адзінай мытнай эканамічнай прасторы ў рамках СНД. Гэтыя і іншыя фактары садзейнічалі таму, што ў параўнанні з 1994 годам, прыкладна ў 2-2,5 раза замарудзіліся тэмпы зніжэння аб'ёмаў вытворчасці. Зніжэнне валавога ўнутранага прадукту ў 1995 годзе склала каля 10 працэнтаў, у тым ліку ў прамысловасці — 11,5, сельскай гаспадарцы — каля 5 працэнтаў.

Сярод фактараў, якія сёння абумоўліваюць крызісны спад вытворчасці, трэба выдзеліць высокія адпускныя цэны вытворцаў і нізкую якасць айчыннай прадукцыі, абмежаванасць плацежаздольнага попыту насельніцтва, страту рынкаў збыту з-за прамых пралікаў у маркетынгавай палітыцы асобных прадпрыемстваў.

Хваля эканамічных цяжкасцей практычна ў аднолькавай меры захліснула ўсе прамысловыя прадпрыемствы, але і ў аднолькавай сітуацыі працоўныя калектывы павялі сябе па-рознаму. Адны кіраўнікі ўпарта шукаюць і знаходзяць шляхі пераадолення цяжкасцей, другія — разгубіліся. Хто, напрыклад, не ведае ў якіх цяжкіх умовах апынуўся індустрыяльны гігант «БелАЗ» (генеральны дырэктар Марыеў). Але калектыў не здаўся. Тут праведзены вялікія маркетынгавыя работы, з улікам запатрабаванняў рынку створаны новыя машыны, у тым ліку і тыя, што раней былі не ўласцівы гэтаму прадпрыемству. На бягучы год заключана больш дагавораў на пастаўку прадукцыі як у краіны СНД, так і ў краіны далёкага замежжа.

Вытворчае аб'яднанне «Віцебск» (генеральны дырэктар Баброў) сканцэнтравала выдзеленыя сродкі на распрацоўку і асваенне новых вырабаў. У выніку распрацаваны і ставіцца на вытворчасць каляровы тэлевізар, які карыстаецца попытам і канкурэнтаздольны.

На жаль, нямала выпадкаў, калі фінансавая падтрымка дзяржавы выкарыстоўваецца нерацыянальна і станоўчага эфекту не дае. У мінулым годзе, напрыклад, нямала сродкаў было ўкладзена ў Баранавіцкі баваўняны камбінат, аднак карэннага змянення да лепшага пакуль не адбылося. Тое ж самае можна сказаць у адрас Мінскіх трактарнага і аўтамабільнага заводаў, аб'яднання «Гарызонт», Гомельскага аб'яднання «Карал» і некаторых іншых. Мы зрабілі адпаведныя высновы і маем намер у бягучым годзе ўзмацніць кантроль за выкарыстаннем выдзеленых бюджэтных сродкаў, не дапускаць іх распылення, дзейнічаць дакладна ў рамках прыярытэтных напрамкаў і аказання дапамогі гэтым галінам народнай гаспадаркі.

Карыстаючыся выпадкам, хачу закрануць праблему суадносінаў дзяржаўнага рэгулявання эканомікі і самастойнасці дзяржаўных прадпрыемстваў, якія працуюць у рэжыме гаспадарчага разліку. Пераход ад адміністрацыйна-каманднай сістэмы да рыначнай эканомікі прадугледжвае паступовую замену інструментаў адміністрацыйнага ўздзеяння на рыначны механізм. Вельмі складаным момантам пры гэтым з'яўляецца вызначэнне аптымальных граніц рэгулявання на кожным этапе рэфарміравання эканомікі і яе развіцця. Але жыццё ўжо дало адказ на шэраг пытанняў і пацвярджае, што нельга пускаць на самацёк рэфарміраванне эканомікі. Трэба кіраваць гэтымі працэсамі, кантраляваць іх і ў сферы адносінаў уласнасці, і ў сферы крэдытна-грашовай палітыкі, і ў сферы даходаў, і ў сферы цэнавай палітыкі, ды, уласна кажучы, ва ўсіх сферах развіцця эканомікі. Пры неўмяшанні адбываецца расцягванне ўласнасці, расслаенне і крыміналізацыя грамадства. Таму, на аснове глыбокага аналізу працэсаў, якія адбываюцца ў нас у эканоміцы і грамадстве, Прэзідэнтам выстаўлены аб'ектыўныя патрабаванні разумных суадносінаў эканамічных і адміністрацыйных метадаў кіравання па рэгуляванню працэсаў рэфарміравання эканомікі з тым, каб павысіць яе эфектыўнасць у інтарэсах насельніцтва нашай рэспублікі.

У мінулым годзе, ажыццяўляючы дзяржаўнае рэгуляванне аплаты праз устанаўленне мінімальнай заработнай платы, стаўкі першага разраду Адзінай тарыфнай сеткі, ажыццяўляючы пэўны кантроль за выкананнем галіновых тарыфных пагадненняў, урад практычна не ўмешваўся ў фарміраванне Фонду аплаты працы на гасразліковых дзяржаўных прадпрыемствах. І цяпер вынікі паказваюць, што амаль трэцяя частка прадпрыемстваў, маючы няўстойлівае ці цяжкае фінансавае становішча, дапусціўшы зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці, у той жа час істотна перавышала тарыфную стаўку першага разраду пры вызначэнні аплаты і тым самым яшчэ больш пагаршала сваё фінансавае становішча. Для прадухілення выплат заработнай платы, якая перавышае дзяржаўную тарыфную сетку на такіх прадпрыемствах Кабінет Міністраў быў вымушаны 21 снежня 1995 года прыняць Пастанову, якая забараняе выплачваць заработную плату ў межах дапушчанага перавышэння аж да ліквідацыі запазычанасці па разліках з бюджэтам, за энерганосьбіты, стабілізацыі фінансавага становішча. Гэта пастанова датычыцца не ўсіх прадпрыемстваў, а менавіта прадпрыемстваў-даўжнікоў, якія набралі даўгоў і не разлічваюцца, але рэгулярна выплачваюць заработную плату, фактычна незаробленую.

Вельмі складаным быў 1995 год для прадпрыемстваў сельскай гаспадаркі: адбіліся неспрыяльныя ўмовы надвор'я, нізкія закупачныя цэны на сельгаспрадукцыю, аднак і тут можна прыводзіць дыяметральна процілеглыя прыклады па выніках гаспадарчай дзейнасці.

Я думаю, інфармацыі на гэту тэму дастаткова, але на асобных прыкладах можна было б спыніцца. Адно з самых вострых пытанняў для нас — захаванне прамысловага, высокатэхналагічнага патэнцыялу ў сельскай гаспадарцы, і перш за ўсе жывёлагадоўчых комплексаў і птушкафабрык, дзе з найбольшай эфектыўнасцю выкарыстоўваюцца ўкладзеныя сродкі.

Вельмі сур'ёзную трывогу апошнім часам выклікаў стан птушкагадоўлі: галіна засталася без імпартных кармоў, сваёй зямлі практычна не мае, усё гэта на завазных кармах, і іх адсутнасць пагражала наогул спыненнем прадпрыемстваў, гібеллю цэлай галіны. У выніку мераў, якія прымаліся кіраўніцтвам птушкапрома, Міністэрствам сельскай гаспадаркі, самімі прадпрыемствамі на месцах па адшуканню рэсурсаў, па выкарыстанню перадавых тэхналогій, звязаных з інтэнсіўным вырошчваннем птушкі, атрыманы вынікі, якія ўсяляюць надзею, што гэта галіна будзе жыць і забяспечваць харчаваннем насельніцтва нашай рэспублікі. На Гомельскай бройлернай фабрыцы выгадавана 170 тысяч галоў птушкі з прыбаўленнем у вазе 38—42 грамы ў суткі з затратамі кармоў — 2 кілаграмы 200 грамаў на 1 кілаграм прыбаўлення ў вазе, на Светлагорскай фабрыцы — 60 тысяч, 36—40 грамаў — 2-3,5 кілаграма, на Смалявіцкай фабрыцы і птушкафабрыцы «Дружба» — па 40 тысяч з прыбаўленнем у вазе 33-34 грамы і затратамі 2,5 кілаграма, на Скідальскай — 56 тысяч птушак з прыбаўленнем у вазе 40—42 грамы, з затратамі кармоў — 2,2 кілаграма. Звярніце ўвагу, на гэтых фабрыках рэнтабельнасць вытворчасці ў вельмі цяжкіх умовах склала 20 працэнтаў. Думаю, што гэты вопыт дастойны вывучэння і пераймання, так канкрэтна і напорыста трэба дзейнічаць і іншым кіраўнікам прадпрыемстваў.

Улічваючы крытычную сітуацыю ў сельскай гаспадарцы, урад імкнуўся выкарыстоўваць найменшую магчымасць, каб аказаць дапамогу гэтай галіне. На працягу года адшукана, накіравана з бюджэту ў выглядзе розных выплат 2,4 трыльёна рублёў. Акрамя таго, быў створаны па рашэнню Вярхоўнага Савета фонд пазабюджэтнай падтрымкі вытворцаў сельгаспрадукцыі, з яго зрасходавана 1,3 трыльёна рублёў, да гэтага трэба прыбавіць таварныя крэдыты ў выглядзе дызельнага паліва на суму 337 мільярдаў рублёў. На працягу года выдзяляліся сродкі на закупку маладняку, мінеральных угнаенняў, на пагашэнне крэдыторскай запазычанасці па камбікармах для птушкафабрык і комплексаў, зніжана цана газу, пастаўляемага цяплічным камбінатам. Як бачыце, дапамога была істотнай. Але, на вялікі жаль, магчымасці ўрада па аказанню падтрымкі галінам народнай гаспадаркі былі ў мінулым годзе вельмі і вельмі абмежаваныя.

**Цяпер аб асноўных прагнозных паказчыках эканамічнага развіцця на 1996 год**

Паважаныя дэпутаты! Прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі на 1996 год распрацаваны на аснове аналізу, існуючай эканамічнай сітуацыі, прапрацаваны ў міністэрствах і іншых цэнтральных органах кіравання, на прадпрыемствах і ў арганізацыях, у аблвыканкомах і ў Мінскім гарвыканкоме. Аб'ём валавога ўнутранага прадукту прагназіруецца ў памерах 178—180 трыльёнаў рублёў, што складае 100-101 працэнт да чакаемага ўзроўню 1995 года. Супольны індэкс цэн у цэлым па народнай гаспадарцы ў разліку праз валавы прадукт — у 1,5 раза з сярэднямесячнай інфляцыяй на ўзроўні 2,5 працэнта. Аб'ём вытворчасці прамысловай прадукцыі захоўваецца на ўзроўні бягучага года, а валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі — з ростам у 1,5-2 працэнты, аб'ём капітальных укладанняў са змяншэннем на 9-10 працэнтаў.

Улічваючы сітуацыю, што складваецца ў эканоміцы, інвестыцыйную палітыку ў 1996 годзе, прадугледжваецца ажыццяўляць на аснове наступных прынцыпаў: паслядоўная цэнтралізацыя інвестыцыйнага працэсу, павышэнне долі ўласных крыніц накапленняў прадпрыемстваў — захаванне бюджэтнага фінансавання пераважна для сацыяльна значных аб'ектаў, якія не маюць уласных крыніц фінансавання, размяшчэнне абмежаваных капукладанняў строга ў адпаведнасці з дзяржаўнымі мэтавымі праграмамі і выключна на конкурснай аснове.

У 1996 годзе на 8,5 працэнта павялічыцца аб'ём экспарту, але нягледзячы на гэта дадатнае гандлёвае сальда пакуль не будзе забяспечана. І прагназіруецца дэфіцыт на ўзроўні 350 мільёнаў долараў.

Плануецца павелічэнне перапрацоўкі нафты за кошт пастаўкі яе па схеме часовага ўвозу. Для прыцягнення неабходных інвестыцый плануецца на базе нафтаперапрацоўчых прадпрыемстваў Беларусі і нафтавых кампаній Расіі стварыць тры акцыянерныя кампаніі.

Развіццё машынабудаўнічага комплексу ў 1996 годзе прадугледжвае асваенне новай канкурэнтаздольнай прадукцыі, расшырэнне рынкаў збыту. Частку гэтай прадукцыі вы ўжо бачылі на свае вочы — гэта аўтобусы, тралейбусы, прыборы, станкі. На Трактарным заводзе, напрыклад, асвойваецца выпуск універсальна-акучвальнага трактара МТЗ-1221 магутнасцю 130 конскіх сіл, прымяненне якога амаль на 30 працэнтаў скароціць удзельны расход паліва.

**(Заканчэнне на 9-й стар.).**

## Мікалай КУЗЬМІЧ: «У НАШАЙ ЗДОЛЬНАСЦІ ЎЗДЗЕЙНІЧАЦЬ НА КУРС БЕЛАРУСКАГА РУБЛЯ МОЖАЦЕ НЕ СУМНЯВАЦЦА»

**Паведамленні аб маючых адбыцца змяненнях у валютнай палітыцы краіны ў сродках масавай інфармацыі парадзілі нямала чутак і нават паніку на валютным рынку. Інтэрв'ю Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі Белдзяржтэлерадыёкампаніі, у якім ён пазнаёміў з асобнымі фрагментамі свайго ўказа наконт гэтага, знізіла напал пачуццяў. У ім кіраўнік дзяржавы паставіў і шэраг практычных пытанняў. Пракаменціраваць іх карэспандэнту БЕЛТА згадзіўся выконваючы абавязкі старшыні праўлення Нацыянальнага банка рэспублікі Мікалай КУЗЬМІЧ.**

***— Мікалай Андрэевіч, абменны курс нашага рубля з гэтага часу будзе фарміравацца з улікам расійскіх метадаў рэгулявання. Якія з іх мы бяром на ўзбраенне?***

— За выключэннем устанаўлення крайняй верхняй і ніжняй граніцы абменнага курса беларускага рубля на першую палову бягучага года практычна ніякіх. Прэзідэнцкі Указ «Аб некаторых мерах па ўдасканаленню грашова-крэдытнай палітыкі» ахоплівае больш шырокі круг пытанняў. Яго ключавымі момантамі з'яўляюцца наступныя палажэнні.

Па-першае, устанаўленне на перыяд да 1 ліпеня 1996 года ўжо названага гранічнага змянення курса: 11300—13100 рублёў за доларЗША. Гэтыя колькасныя параметры выбраны не выпадкова — яны разлічаны з макраэканамічнага прагнозу развіцця эканомікі краіны ў бягучым годзе. Згодна з ім, гадавая інфляцыя прагназіруецца на ўзроўні 34 працэнтаў, у першай палавіне года можна чакаць 15—18 працэнтаў. Адсюль максімальна дапушчальная дэвальвацыя беларускага рубля не больш за 13-14 працэнтаў.

Па-другое, указам аднаўляецца абавязковы продаж паступленняў на рахункі прадпрыемстваў у свабодна канверсоўнай валюце і расійскіх рублях на Міжбанкаўскай валютнай біржы. Але, у адрозненне ад практыкі, якая існавала да ліпеня мінулага года, у ёй прадугледжаны сур'ёзныя змяненні. Перш за ўсё пры фармальным 100-працэнтным продажы ўводзіцца парадак, пры якім дазваляецца не прадаваць валютныя паступленні, атрыманыя ад экспарту прадукцыі ўласнай вытворчасці прадпрыемстваў з замежнымі інвестыцыямі (не менш за 30 працэнтаў у статутным фондзе), набытыя на ўнутраным валютным рынку, у выглядзе прыцягнутых сродкаў (укладаў, дэпазітаў, крэдытаў), энерга- і газазабяспечвальных арганізацый у лік плацяжоў ад спажыўцоў і накіраваных на куплю энерганосьбітаў, пераразмеркавання валютнай выручкі паміж канечнымі прадпрыемствамі-экспарцёрамі і іх пастаўшчыкамі, а таксама накіраваныя суб'ектамі гаспадарання на набыццё сыравіны, матэрыялаў і камплектуючых для ўласнай вытворчасці і г.д. Паводле нашых падлікаў, рэальны абавязковы продаж складзе не больш за 50 працэнтаў валютнай выручкі экспарцёраў.

Па-трэцяе, указам устанаўліваецца абавязковы 10-працэнтны збор з пакупнікоў валюты на Міжбанкаўскай валютнай біржы, уся сума якога будзе накіроўвацца ў спецыяльна ствараемы Дзяржаўны фонд падтрымкі экспарцёраў. Ад яго выплаты вызваляюцца імпарцёры энерганосьбітаў, збожжа, кармавых дабавак, прэміксаў — гэта значыць жыццёва важнай для краіны прадукцыі, а таксама пакупнікі, якія ажыццяўляюць канвертацыю аднаго віду СКВ ці расійскіх рублёў у другі. Гэты ж 10-працэнтны збор прадугледжаны і пры ажыццяўленні бартэрных аперацый. Такім чынам, указам прадугледжаны даволі істотныя змяненні ў галіне валютнага рэгулявання і экспартна-імпартных аперацый. Магу дадаць, што праект указа абмяркоўваўся даволі доўга і цяжка, паколькі ўсе мы разумелі: усякае змяненне «правілаў гульні» — працэс, хваравіты для ўсіх яе ўдзельнікаў. Галоўная цяжкасць сёння — гэта практычная рэалізацыя палажэнняў указа, звязаных з кантролем за рухам валютных сродкаў.

***— На ваш погляд, якім чынам «валютны калідор» будзе перашкаджаць інфляцыйным тэндэнцыям?***

— Перш за ўсё праз зніжэнне ўзроўню інфляцыйных спадзяванняў. Прадпрыемствы атрымалі арыенцір, у адпаведнасці з якім могуць планаваць свае даходы і расходы, не зніжаючы канкурэнтаздольнасці сваёй прадукцыі за кошт апераджальнага росту цэн на яе.

***— Тэрмін «валютны калідор» зразумелы больш за ўсё спецыялісту. А як яго асэнсаваць простаму грамадзяніну, якога ў першую чаргу цікавяць уласныя выгады ад яго ўвядзення?***

— Мы гаворым аб гранічным змяненні курса на працягу бліжэйшага паўгоддзя. І тым самым мы гаворым грамадзянам, што курс долара ў краіне будзе не больш за 13.100 беларускіх рублёў на 1 ліпеня. І няхай грамадзяне самі вырашаюць, што ім лепш рабіць: ці купляць тавары працяглага карыстання, ці захоўваць зберажэнні ў цвёрдай валюце або ў беларускіх рублях у банку. Паводле нашых разлікаў, апошняе будзе больш прыбытковым.

***— Ці зможа Нацыянальны банк вытрымаць рамкі ўказанага гранічнага змянення курса беларускага рубля? Таму што, паводле паведамленняў экспертаў валютнага рынку, ён вымушаны быў прадаць апошнім часам значную частку сваіх валютных рэзерваў.***

— Сапраўды, пачынаючы са жніўня мінулага года мы пастаянна падтрымлівалі стабільны курс нашага рубля за кошт валютных інтэрвенцый на біржы. Але адначасова Нацыянальны банк меў сур'ёзныя паступленні валюты з іншых крыніц. І мы завяршылі 1995 год з істотным прыростам сваіх валютных рэзерваў. Таму ў нашай здольнасці ўздзейнічаць на курс беларускага рубля можаце не сумнявацца.

**Міхаіл ЖУРАВОВІЧ, БЕЛТА.**

***— Чаму экспертныя медыцынскія камісіі адмаўляюць ветэранам падраздзяленняў асаблівай рызыкі ва ўстанаўленні прычыннай сувязі іх захворванняў з удзелам у выпрабаваннях і зборцы ядзернай зброі, а таксама ў ліквідацыі аварыі на атамных аб'ектах?***

**Намеснік старшыні Беларускага камітэта ветэранаў падраздзяленняў асаблівай рызыкі Л. МАЁРАЎ**

— На разгляд Рэспубліканскага міжведамаснага экспертнага савета ў 1995 годзе паступіла 16 спраў для вызначэння сувязі захворванняў з выпрабаваннем ядзернай зброі. 11 спраў разгледжана. Сувязь устаноўлена па адной справе. Па 10 справах сувязь не ўстаноўлена, 5 спраў яшчэ разглядаюцца. Прычынай адмовы з'яўлецца тая акалічнасць, што захворванні ўзніклі ў аддалены тэрмін (праз 25—30 гадоў) і гэтыя захворванні агульныя. Звязаць іх з уздзеяннем радыяцыйнага фактара практычна немагчыма.

***— У нашай сям'і дзіцяці 2 гады 7 месяцаў. У яго дыягназ: ДЦП функцый ніжніх канечнасцей, дзіця-інвалід. Мы стаім на ўліку ў дзіцячай паліклініцы і хацелі б прайсці лячэнне ў санаторыі. Дзіця маленькае, аднаго яго не адправіш у санаторый. У Бабруйск, як нам адказалі, пуцёўкі для маці і дзіцяці не паступаюць. Ці паступаюць увогуле такія пуцёўкі ў нашу рэспубліку і куды звяртацца?***

**ДАРАФЕЙ Наталля Пятроўна,** *г. Бабруйск.*

— У санаторыі «Беларусь» г. Друскінінкай, у аддзяленні для дзяцей з бацькамі, ёсць ложкі для дзяцей-інвалідаў, якія хварэюць на дзіцячы цэрэбральны параліч. Прымаюцца дзеці ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў. Яны знаходзяцца ў аддзяленні разам з адным з бацькоў. 90 працэнтаў кошту пуцёўкі аплачвае Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі. Пуцёўкі паступаюць ва ўпраўленні аховы здароўя аблвыканкамаў. Адтуль па заяўках раённых і гарадскіх аддзелаў аховы здароўя накіроўваюцца па месцы жыхарства хворых, дзе распаўсюджваюцца па рашэнню санаторна-курортных адборачных камісій. На жаль, магчымасці такіх аддзяленняў абмежаваныя. На месцах існуюць чэргі на выдзяленне пуцёвак для дзяцей-інвалідаў з суправаджальнікам.

***— У якім парадку трэба запаўняць пасыльны ліст на Урачэбна-працоўную экспертную камісію? На мой погляд, ад гэтага залежыць група інваліднасці.***

**Інвалід II групы ШУТАЎ Мікалай Аўраамавіч,** *г. Магілёў.*

— Пры запаўненні накіравання ў МРЭК (пасыльнага ліста) лечачы ўрач паліклінікі абавязаны запісаць усе захворванні пацыента. Пры гэтым у графу «Асноўны дыягназ» заносіцца тыя захворванні, якія даюць права на ўстанаўленне або змяненне групы інваліднасці. МРЭК групу інваліднасці вызначае ў залежнасці ад стану здароўя хворага. Калі ў інваліда праца ўзнікла іншае захворванне, якое дае права на ўстанаўленне групы інваліднасці (такой жа або больш высокай), група вызначаецца ў залежнасці ад фактычнага стану здароўя. Прычынай інваліднасці застаецца «працоўнае калецтва», а працэнты страты прафесіянальнай працаздольнасці ўстанаўліваюцца ў залежнасці ад ступені шкоды, якую нанесла здароўю выробчая траўма.

***— Чаму цяжка хворы чалавек (якому жыць засталося, магчыма, не больш года), каб атрымаць пенсію па інваліднасці, вымушаны хадзіць па кабінетах многіх урачоў? У такім разе пенсіі можна і недачакацца.***

**КАНДРАШЭВІЧ Алена Аляксееўна,** *г. Мінск.*

— Існуе вызначаны парадак накіравання на міжраённую экспертную камісію. Захворванні, якія могуць быць выяўлены ў хворага побач з асноўным, могуць паўплываць на рашэнне МРЭК. У сувязі з гэтым неабходна прайсці поўны аб'ём даследаванняў.

***— Чаму ўрачы ў паліклініцы не прымаюць людзей, якія не хочуць праходзіць прафілактычны агляд (флюараграфію, аналізы і інш.)?***

— Прафілактычныя агляды — не капрыз урачоў, а метад выяўлення многіх захворванняў (рак, туберкулёз і інш.) на ранняй стадыі. Пацыент не заўсёды дастаткова інфармаваны, да якога ўрача трэба звярнуцца.

***— Я працую настаўніцай. Чаc ад часу нас прымушаюць наведваць жаночыя назіральныя кабінеты з мэтай выяўлення венерычных захворванняў. Вялікія чэргі і санітарныя ўмовы гэтых кабінетаў выклікаюць апасенне за стан здароўя пацыентаў. Да таго ж, усё гэта стала платным.***

*г. Мінск* (прозвішча не названа).

— Зыходзячы з таго, што звяртаецца настаўніца, размова, відавочна, ідзе пра абавязковыя перыядычныя агляды настаўнікаў. Камісіі, якія праводзяць такія агляды, працуюць на гаспадарчаразліковай аснове. Галоўныя ўрачы абавязаны прыняць меры да скарачэння чэргі і паляпшэння агульнага парадку.

***— Больш за 30 гадоў я хварэю на гіпертанічную хваробу. На падставе гэтага ў мяне ўзнікла бяссонніца. Лячылася ў розных медыцынскіх установах, а палёгкі няма. Як толькі перастаю прымаць таблеткі — зноў не магу спаць. Можа вы параілі б, куды звярнуцца, каб пазбавіцца ад бяссонніцы?***

*Інеса ДРАБЫШЭЎСКАЯ:*

# «РЭФОРМА АХОВЫ ЗДАРОЎЯ ЎЖО ПАЧАЛАСЯ»

**Ахова здароўя з'яўляецца адной з самых важных сфер жыцця любога грамадства, у любой краіне. Сёння на пытанні чытачоў «Звязды» адказвае міністр аховы здароўя Рэспублікі Беларусь Інеса Міхайлаўна Драбышэўская — менавіта на яе плячах ляжыць адказнасць за здароўе нацыі. Ні адно пытанне з тых, што былі зададзены па тэлефоне або дасланы на адрас рэдакцыі, не засталося без увагі. На многія з іх чытачы атрымалі адказ непасрэдна з вуснаў міністра, яшчэ на некаторыя будуць дасланы афіцыйныя адказы.**



**САЛАНЕВІЧ Л. К.,** *г. Нясвіж.*

— На мой погляд, вам неабходна звярнуцца і атрымаць кансультацыю ўрача-псіхатэрапеўта.

***— Чаму хоць частка гуманітарнай дапамогі не даходзіць да гарадскіх паліклінік? Пенсіянеры, якія ідуць на працэдуры, вымушаны несці з сабой шпрыцы, вату, бінты і іншае.***

**ВАСЮКОЎ Васіль Іванавіч,** *г. Мінск.*

— Справа ў тым, што мы не займаемся гуманітарнай дапамогай. Тую маленькую яе часцінку, што праходзіць праз міністэрства, мы размяркоўваем па бальніцах і паліклініках, а тую, што ідзе па фондах, яны размяркоўваюць самі.

***— Але да паліклінік не даходзіць. Вось, напрыклад, у 31-й гарадской паліклініцы няма шпрыцаў 0,5, у некаторых іншых таксама няма. Як быць?***

— Шпрыцы ёсць, аднак у паліклінік не хапае сродкаў, каб закупіць іх у неабходным аб'ёме (патрацілі на нейкія іншыя лекі).

***— І другое пытанне. Чаму ўчастковыя ўрачы не мяняюць час ад часу свае ўчасткі, а гадамі сядзяць на адным месцы? Няхай бы хоць раз у тры гады перазаджалі.***

— Тут я з вамі не магу пагадзіцца. Урач, які працяглы час працуе на адным участку, уваходзіць у ролю амаль сямейнага ўрача. Участковы тэрапеўт ведае свой участак, ведае, на што хварэюць у яго людзі, ведае амаль кожную сям'ю... А леравесці яго на новы — трэба вывучаць стан здароўя кожнага чалавека на ўчастку з самага пачатку. Мы, наадварот, ідзём па шляху замацавання ўрачоў за ўчасткамі, каб урач мог назіраць за пацыентам на працягу яго жыцця, ведаць, на што ён хварэе, як жыве, яго звычкі, і на падставе гэтага знаходзіць аптымальны падыход да яго лячэння.

***— Ці будзе праводзіцца вітамінізацыя дзяцей імпартнымі вітамінамі з мікраэлементамі, якія выводзяць шкодныя рэчывы? У мяне ўнучка 12 гадоў, пастаянна хварэе, а купіць у камерцыйнай аптэцы вітаміны я не магу.***

**Галіна Пятроўна КАРЛАВА,** *г. Мінск.*

— Справа ў тым, што вітамінізацыя дзяцей праводзіцца па паказаннях і калі ў гэтым, на думку спецыяліста-педыятра, існуе неабходнасць. Наогул, вітамінізацыя праводзіцца не для вывядзення шкодных рэчываў, а калі мы бачым, што арганізм аслаблены, што трэба правесці агульнаўмацавальнае мерапрыемства. Акрамя вітамінізацыі пры неабходнасці дзяцей, якія пакутуюць на нейкія хранічныя захворванні, накіроўваюць на санаторнае лячэнне.

***— Яшчэ пытанне. Дзе можна праверыць прадукты на радыенукліды?***

— Прадукты на радыенукліды можна праверыць у раённым цэнтры гігіены і эпідэміялогіі. Акрамя гэтага ва ўсіх буйных гарадах на арганізаваных рынках існуюць пункты кантролю за утрыманнем радыенуклідаў у прадуктах. Кожны пакупнік мае права патрабаваць прад'яўлення сертыфіката якасці на любы прадукт на рынку.

***— Сёння шмат чаго не хапае, аднак самы вялікі дэфіцыт — гэта лекі. Справа ў тым, што ў забруджанай зоне па рэцэпту ўрача лекі выдаюць бясплатна. Гэтых лекаў, як правіла, у аптэках няма. Зараз зрабілі камерцыйныя аддзелы пры аптэках, у якіх жыццёва неабходныя лекі (валакардзін, карвалол) каштуюць вельмі дорага.***

**ЗАХАРАНКА Алена Васільеўна,** *г. Слаўгарад.*

— Я ведаю гэту сітуацыю. На жаль, Міністэрства аховы здароўя мае вялікія даўгі і не можа разлічыцца за ўжо выдадзеныя па бясплатных рэцэптах лекі. Для тых, у каго ўжо зусім няма выйсця, мы адкрылі вось гэтыя камерцыйныя аддзелы. Нічога іншага пакуль мы зрабіць не можам. Запазычанасць фармацыі за выдадзеныя па бясплатных рэцэптах медыкаменты на сённяшні дзень складае 70 мільярдаў рублёў. Зараз у міністэрстве распрацоўваецца новая канцэпцыя аховы здароўя. У ёй прадугледжваецца шэраг палажэнняў, якія дапамогуць вырашыць гэту праблему. А сёння мы будзем арыентавацца дабрачынныя фонды на аказанне гуманітарнай дапамогі гэтым раёнам.

***— Ці можна выклікаць на дом урача захварэўшаму пляменніку-студэнту, які жыве ў мяне, але не прапісаны па дадзенаму адрасу? І другое пытанне. Зараз лютуе грып. Ці могуць дзеці, у прыватнасці школьнікі, атрымаць полівітаміны з гуманітарнай дапамогі, бо тое, што прадаецца ў аптэках, не кожнаму даступна?***

**І. СІЛЬЧАНКА,** *г. Мінск.*

— Па першаму пытанню. Урача выклікаць, канешне, можна. Па вітаміны з гуманітарнай дапамогі трэба звяртацца ў гуманітарныя фонды, якія іх атрымліваюць. Мы з гуманітарнай дапамогі атрымліваем толькі тое, што паступае па дзяржаўных каналах. Гэтыя медыкаменты мы адразу размяркоўваем па рэгіёнах ці адрасна па бальніцах.

***— Гуманітарная дапамога, якую прывозяць розныя фонды, як паказала практыка, амаль не даходзіць у паліклінікі, не даходзіць на месцы. Нейкім чынам дзяржава павінна кантраляваць і гэтую сістэму.***

**(Прозвішча неразборліва.)**

— Кантраляваць можна на падставе закона ці якога-небудзь падзаконнага акта. Кантроль могуць ажыццяўляць або праваахоўныя органы, або падатковая інспекцыя. Мы са свайго боку сочым за тым, каб медыкаменты, якія паступаюць як гуманітарная дапамога, былі зарэгістраваны і не маглі нанесці шкоды здароўю.

***— Я жыву ў Валожынскім раёне, у нас у вёсцы каля 130 дзяцей і амаль усе яны хворыя на шчытападобную залозу. Вёска знаходзіцца ў забруджанай зоне ад 1 да 5 кюры. Дзеці ні разу не аздараўляліся летам. Зімой іх звычайна накіроўваюць у адзін і той жа санаторый пад Брэстам, які не спецыялізуецца менавіта на лячэнні шчытападобнай залозы.***

**Жанна Уладзіміраўна ЦЕРАН,** *Валожынскі раён.*

— Па-першае, мы закранаем адразу два моманты: лячэнне і аздараўленне. Санаторый — гэта лячэбная база. Аздараўленне — гэта лагер, вываз кудысьці за межы забруджанай зоны, чыстыя прадукты і г. д. Для накіравання на лячэнне ў санаторый неабходныя паказанні ў хворага. Парадак афармлення праводзіцца ў паліклініках па месцы жыхарства. З нашых 18 дзіцячых санаторыяў спецыяльныя, які праводзіць далечванне і рэабілітацыю дзяцей з хворай шчытападобнай залозай, пакуль няма.

***— У нашым раёне (вуліца Будзённага) ёсць камерцыйная аптэка Белмедінфарм «П'ер Фабр», дзе заўсёды можна набыць па даступнай цане неабходныя лекі. Ці будзе міністэрства падтрымліваць стварэнне такіх аптэк па Мінску і рэспубліцы?***

**Аляксандр КАШАВЫ,** *Мінск.*

— «П'ер Фабр» мае дзве аптэкі. Другая, маленькая, знаходзіцца на вуліцы Першамайскай. Гэта аптэкі аднайменнай французскай фірмы. Ёсць яшчэ ў нас аптэкі Белфарм. Аднак па цэнах перавагу трэба аддаць «П'ер Фабр». Аптэкі карыстаюцца папулярнасцю. Адкрыць іх было няпроста. Яны выдатна працуюць, у іх карэктная, гібкая сістэма цэн, якія мяняюцца ў залежнасці ад абставінаў амаль кожны дзень. Канешне, мы будзем падтрымліваць такія аптэкі, адкрываць новыя. За кошт іх мы забяспечылі насычэнне рынку.

***— У якім стане сёння знаходзіцца псіхіятрыя ў Беларусі? У Расіі ёсць Незалежная псіхіятрычная асацыяцыя, якая праводзіць незалежны псіхіятрычны агляд. Ці ёсць падобная структура ў Беларусі?***

**(Прозвішча неразборліва.)**

— На сённяшні дзень у Беларусі створана вялікая колькасць рознага роду асацыяцый, у тым ліку і медыцынскіх, аднак незалежнай асацыяцыі ўрачоў-псіхіятраў няма. Рэформа псіхіятрычнай службы патрэбна, і яна будзе праведзена. Сёння гэта служба існуе ў такім стане, як і ў былым Саюзе. Аднак ніякіх жорсткіх рэпрэсіўных метадаў ізаляцыі хворых і інш., мы не выкарыстоўваем.

***— Будынак анкадыспансера ў горадзе Бабруйску вельмі стары, і людзі там знаходзяцца ў вельмі складаных умовах. Ці шукаецца выйсце з гэтай сітуацыі?***

**Іван Аляксандравіч,** *г. Бабруйск.*

— Я асабіста наведала Бабруйскі анкадыспансер, бачыла, у якіх умовах знаходзяцца людзі. Мы прапрацавалі магчымасць рэканструкцыі аднаго з будынкаў былога ваеннага гарадка, які знаходзіцца там жа, і перанясення ў гэты будынак анкалагічнага дыспансера.

***— Дзе ў Мінску можна атрымаць кваліфікаваную дапамогу псіхолага?***

**Галіна ФІЛІМОНАВА,** *Мінск.*

— Атрымаць дапамогу псіхолага — гэта значыць зняць нейкі стрэс, напружанне, развеяць нейкія сумненні. Іншымі словамі, атрымаць псіхаэмацыянальную падтрымку ад спецыяліста. На жаль, у былым Саюзе прафесіі ўрачоў-псіхолагаў не існавала, спецыялістаў у гэтай галіне не рыхтавалі. І толькі нядаўна ў Гродне мы адкрылі факультэт, які рыхтуе па спецыяльнасці «урач-псіхолаг». Першы выпуск будзе праз два гады. А пакуль такога роду праблемы вырашаюць урачы-псіхіятры: псіха-неўролаг, псіхатэрапеўт. Аднак слова «псіхіятр» адпужвае людзей. А ўрачоў-псіхолагаў, якія рыхтаваліся менавіта па гэтай праграме, пакуль не маем.

***— Нярэдка даводзіцца сутыкацца з грубымі адносінамі ўрачоў да пацыентаў. Здараліся выпадкі, калі доктар прысутнічаў на рабочым месцы ў нецвярозым стане. Як вырашаецца гэта праблема?***

**Мікалай ГАЛУБОЎСКІ, Вячаслаў САСНОЎСКІ,** *Мінск.*

— На жаль, усе пералічаныя негатыўныя моманты існуюць на практыцы. Тут справа ў тым, што ўрачы не заўсёды прытрымліваюцца сваёй прафесіянальнай этыкі, і ў чыста чалавечым фактары. Усё залежыць ад унутранай культуры чалавека. Ёсць такія паняцці, як «этыка ўрача» і «этыка пацыента». Аднак усе мы — як урачы, так і хворыя — не можам пахваліцца ўсеагульнай выдатнай выхаванасцю. І, як вынік, узаемныя абразы, абразы аднаго з бакоў. Гэту праблему нельга вырашыць адным махам, будзем працаваць над ёй. Аднак з упэўненасцю можна сказаць адно: калі спецыялісты будуць стаяць у чарзе на атрыманне працы, а за вялікай грубых адносінаў яе можна будзе страціць, з этыкай у іх будзе ўсё ў парадку. Хачу дадаць, што сёння медыцынскай грамадскасцю шырока абмяркоўваецца Кодэкс этыкі ўрача. На мой погляд, ён павінен павысіць маральны патэнцыял медработнікаў.

***— Якія рэформы аховы здароўя намечаны і ці будзе павышана медыкам зарплата?***

**(Прозвішча неразборліва.)**

— Рэформы аховы здароўя ў нас ужо пачаліся, і пачалася менавіта з рэформы фармацыі: мы ўвялі living разнаўкладнасць эканомікі нашай фармацыі, розныя напрамкі фінансавання закупак медпрэпаратаў. Калі б дзяржава магла і далей забяспечыць поўнасцю бюджэтнае фінансаванне, то рэфарміраваць трэба было б толькі часткова, па некалькіх асобных напрамках. Зараз мы разам з Сусветнай арганізацыяй аховы здароўя з улікам вопыту страхавой медыцыны і яе развіцця ў Расіі, Прыбалтыцы, краінах былога сацлагера на Захадзе, намагаемся выпрацаваць максімальна прыдатную для Беларусі мадэль. Мы ідзём па шляху ўвядзення платных медыцынскіх паслуг. Зараз усе гэтыя дакументы знаходзяцца ў Кабінеце Міністраў на зацвярджэнні. Мы заканчваем выпрацоўку сістэмы работы ўрача агульнай практыкі, праз якога мы зможам у будучым перайсці на сістэму сямейных урачоў. Рыхтуем сістэму падрыхтоўкі памочніцаў урачоў для тых бальніц, якія на сённяшні дзень працуюць як сацыяльныя, рыхтуем медыцынскіх сясцёр з вышэйшай адукацыяй для бальніц сястрынскага догляду. Мы пачынаем мабільна працаваць у плане летняга перыяду. У гэты перыяд паступленне хворых рэзка памяншаецца. Каб ложкі ў бальніцах не пуставалі, мы іх закрываем, фінансаванне на іх не выдзяляем, медработнікаў адпускаем у адпачынак. Гэта таксама рэформа з мэтай захавання бюджэтных сродкаў. Рэформы ідуць.

У завяршэнне хачу сказаць, што вялікім творчым калектывам урачоў і навукоўцаў-медыкаў закончана дапрацоўка канцэпцыі развіцця аховы здароўя.

**«Прамую лінію» падрыхтавалі Сяргей ПРОТАС.**

## Міхаіл БАКУМЕНКА

# СКАРБЫ беларускіх магнатаў

Славілася і бібліятэка князёў Радзівілаў, якая захоўвалася ў Нясвіжскім замку, дзе налічвалася больш за 200 тысяч тамоў, амаль на ўсіх еўрапейскіх мовах. Акрамя рэдкіх і старажытных кніг, бібліятэка мела рукапісы базіліянцаў, дамініканцаў, бенедыктынцаў, якія захоўваліся разам з рукапіснымі каштоўнымі фаліянтамі антычных паэтаў і мысліцеляў. Залы бібліятэкі ў Нясвіжы былі ўпрыгожаны бюстамі старажытных філосафаў, выраблenымі на радзівілаўскай мануфактуры ў Свержане. Як пісаў Уладзіслаў Сыракомля ў кнізе «Падарожжа па маіх былых ваколіцах», спасылаючыся, праўда, на неправераныя даныя нясвіжскай карціннай галерэі, у першай палове XVII стагоддзя ў Нясвіжы мог пабываць Рэмбрант.

Бібліятэку дапаўняў сваімі скарбамі Нясвіжскі архіў, у якім налічвалася больш як 500 тысяч розных дакументаў, гістарычных актаў, пісьмаў, грамат. Усе гэтыя дакументы былі сабраны з 1551 года, калі Мікалай Радзівіл Чорны атрымаў права захоўвання ў Нясвіжы дзяржаўнага архіва Вялікага княства Літоўскага. Вось чаму ў архіве захоўваліся асабістыя пісьмы каралёў Людовікаў XV і XVI, Карла XII, Багдана Хмяльніцкага, Пятра I. Што характэрна — дакументы архіва былі выкананы на старабеларускай, польскай, лацінскай і іншых мовах.

Трагічным аказаўся лёс рукапісаў Радзівілаўскага летапісу, упрыгожанага 617 ілюстрацыямі. У 1671 годзе ён трапіў у бібліятэку Кёнігсберга, а ў 1761 годзе, калі рускія войскі занялі горад, рукапіс у якасці трафея быў перададзены ў бібліятэку Расійскай акадэміі навук у Пецярбургу.

Вялікая калекцыя старажытных рукапісаў, геаграфічных карт Беларусі, Літвы і Польшчы, бібліятэка з рэдкім зборам кніг захоўвалася ў Шчорсах. Там жа была перапіска Багдана Хмяльніцкага з польскімі гетманамі, арыгіналы пісьмаў Хмяльніцкага да казакоў, дзённік польскага пасольства ў Расіі за 1686 год, дзённік Марыны Мнішак. У гады першай сусветнай вайны бібліятэка была вывезена ў глыб Расіі, а затым перададзена Кіеўскаму універсітэту...

Не толькі Радзівілы, але і іншыя магнаты Беларусі стваралі велічныя палацы з раскошным убранствам унутры. Багацце і ўлада давалі ім магчымасць утрымліваць не толькі сотні служывых людзей, але і ўзброеныя арміі да 6-7 тысяч чалавек. Многія гарады былі ўласнасцю магнатаў. Ні адна краіна Еўропы не ведала такіх рэзкіх кантрастаў, як Беларусь XVIII стагоддзя. Так, у Снове (цяпер вёска ў Нясвіжскім раёне Мінскай вобласці), дзе сяляне жылі ў курных хатах, у 1827 годзе быў пабудаваны палац для маршала Рдултоўскага са ста пакояў і залаў. У Слоніме — прасторны аднапавярховы палац князя М. Агінскага са ста шаснаццаці пакояў і залаў. Так што жыццё беларусаў было розным...

Аб тыповым багацці і раскошы беларускай і польскай шляхты і магнатаў у Рэчы Паспалітай пісаў немец Вільгельм Шлемюлер, які ў 1752 годзе прыбыў з нявысветленай місіяй на гродзенскі сейм і бачыў там каля сотні вельмі раскошных карэт, якія ў адзіным картэжы кіраваліся да каралеўскага замка. Кожнага магната суправаджала багата апранутая світа слуг. Асаблівая ўвага звярталася на гарманічны падбор коней, іх склад і масць.

«Хто не бачыў чырвоных коней, няхай едзе ў Гродна, — пісаў Шлемюлер, — там ён убачыць іх мноства. Не толькі высокія саноўнікі, але і паслы, і шляхта шасцёра ездзяць, здабываюць з асаблівым стараннем аднамасных коней; чым больш рэдкая і асаблівая была масць, тым больш цанілі каня. Белыя, з арабскай галавой і бліскучымі вачыма і ў яблыках; коні, якія па расфарбоўцы напамінаюць тыграў — такія асабліва цаніліся. Са здзіўленнем глядзіш на шасцёрку, а за ёю ідзе другая, яшчэ больш прыгожая, а за ёю яшчэ сотня іншых, кожная па свойму непараўнальная. Убачыш тысячы самых адборных коннікаў, упрыгожаных багатымі рамянямі, бліскучымі ад залатых, сярэбраных блях, цудоўныя каляскі, па-мастацку распісаныя, прывезеныя з Францыі. Збруя на конях шаўковая, упрыгожаная серабром. Экіпаж кожнага саноўніка акружае не менш як трыста шляхцічаў на конях, не лічачы асабістай аховы, гайдукоў, казакоў, лакеяў...»

З каралеўскім конным дваром сапернічаў конны двор князёў Радзівілаў. Рускі ваенны пісьменнік В. Бранеўскі, які разбіраўся ў конях, наведаўшы Нясвіж у пачатку XIX стагоддзя, пісаў: «Прызнаюся, я не чакаў знайсці такіх коней, такой канюшні і такой чысціні. У доўгай высокай галерэі, падтрымліваемай калонамі, выфарбаванымі пад чырвонае дрэва, стаялі да 50 англійскіх коней, адзін лепш за другога, адзін другога даражэй. Пасярэдзіне канюшні пышны дыван, усюды люстэркі, накурана пахам, як у гасцінай, на падлозе няма ні пылінкі...»

Пабываўшы на канюшні, перанясёмся на каралеўскі прыём. Той жа Шлемюлер маляўніча апісаў прыезд польскага караля Аўгуста III у 1752 годзе на гродзенскі сейм, а затым і каралеўскі абед: «Збаны, блюды і талеркі, а таксама лыжкі, нажы і відэльцы — сярэбраныя. На сярэдзіне стала — цудоўная і вялізнага памеру сярэбраная ваза, зверху якой сядзелі чатыры арлы з распраўленымі крыламі». Посуд дапаўнялі цудоўныя рушнікі і сурвэткі. Двойчы ў гадзіну ўвесь посуд замяняўся. За здароўе караля і каралевы кожны з гасцей піў стоячы, пад гукі труб, барабанаў і гарматныя стрэлы. Магнаты і шляхта, якія прысутнічалі на абедзе, былі апрануты ў багатае адзенне па польскай і французскай модзе: кунтушы тканыя золатам і серабром, расшытыя шаўковымі кветкамі. Моладзь апраналася ў адзенне, толькі што прывезенае з Францыі, якое ззяла чыстым золатам... Панства выпісвала сабе адзенне прама з Парыжа, за мяжой заказвалі сабе залаты і сярэбраны посуд, дарагія іспанскія і венгерскія віны...»

(Працяг. Пачатак у №№ 11—12)



Больш за ўсё мануфактур было ў сядзібах князёў Радзівілаў: мануфактуры па апрацоўцы металу, вытворчасці дываноў і габеленаў, шкла і шклянога посуду, фарфору і фаянсу, мэблі. Але самай вядомай мануфактурай была слуцкая, якая выпускала вядомыя паясы з шоўку, серабра і золата...

Усё было пад сілу беларускім умельцам. Аднак дзеля ісціны трэба прызнаць, што славу беларускім мануфактурам стваралі не толькі яе карэнныя жыхары. Вядома, напрыклад, што вытворчасць слуцкіх паясоў у 1592 годзе пачаў турэцкі армянін Ян Маджарскі (Аванес Маджаранц). Слуцк (а ён старэй за Маскву на 31 год), які ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў», стаў асабліва вядомым з таго часу, калі па загаду князя Міхаіла Казіміра Радзівіла была заснавана фабрыка паясоў. Князь, які ні ў чым не ведаў адмовы, пажадаў, каб для яго маляўнічыя паясы ткалі майстравыя туркі і персы, якіх ён вывез з Блізкага Усходу і чыё майстэрства славілася ва ўсім свеце.

З Нясвіжа ў Слуцк перавезлі абсталяванне, і фабрыка пачала выпускаць паясы з залатых, сярэбраных і шаўковых нітак. Сакрэты ткацтва выведвалі на розных фабрыках, у тым ліку ў горадзе Станіславе, куды князь накіроўваў сваіх майстроў Яна Гадоўскага і Тамаса Хаецкага. Хутка сакрэты вытворчасці асвоілі майстры-беларусы, і на фабрыцы не засталося ніводнага іншаземца.

Сапраўдным, вядомым «слуцкім» пояс стаў тады, калі акрамя каштоўных нітак яго ўпрыгожылі ўзорным шляком і багатым, чыста беларускім раслінным арнаментам, які амаль ніколі не паўтараўся. З ткацкага станка пояс пераходзіў на спецыяльны каток, дзе, пасля апрацоўкі станавіўся як бы адлітым з адзінага кавалка металу. З унясеннем у малюнак пояса матываў беларускага народнага арнаменту, кветак слуцкага краю — незабудак, валошкаў, іншых раслін, пояс набыў сапраўды нацыянальны выгляд...

Самым вядомым майстрам-умельцам з беларусаў быў Васіль Барсук. За год фабрыка выпускала не больш двухсот паясоў. Каштавалі яны вельмі дорага і, як правіла, станавіліся прыналежнасцю вельмі багатых людзей. У 1796 годзе цана пояса была ад 50 да 100 рублёў, па тым часе гэта вельмі вялікія грошы. І тым не менш, іх ахвотна куплялі не толькі ў Беларусі, але і ў Рэчы Паспалітай, на Украіне і ў Расіі...

Лепшыя майстры слуцкай персіярні ўмелі рабіць двух- і чатырохбаковыя паясы. Яны мелі два ці чатыры бакі і на кожным з бакоў быў свой малюнак. Адзін і той жа пояс можна было насіць як будзённы, святочны, вясельны і жалобны. Паводле падлікаў даследчыкаў, усяго было выраблена каля 10 тысяч унікальных, непаўторных слуцкіх паясоў.

Мода на паясы мінала, і попыт на іх пачаў падаць. У 1793 годзе на мануфактуры працавалі 28 станкоў і 60 майстроў, у 1828 — адзін станок і 2 майстры. У 1844 годзе мануфактура ўвогуле была закрыта.

Слава аб слуцкіх паясах ішла па ўсім свеце. Іх паказвалі ў музеях Лондана, Нью-Йорка, Парыжа, Амстэрдама, Варшавы, іншых гарадоў. Вялікі збор паясоў у Маскоўскім гістарычным музеі, Ленінградзе, Кіеве, Чарнігаве, Вільнюсе. Да 1939 года вялікі збор слуцкіх паясоў захоўваўся ў фамільным замку князёў Радзівілаў у Нясвіжы. Перад Вялікай Айчыннай вайной яны былі перададзены ў Мінск і зніклі адтуль пасля захопу сталіцы Беларусі нямецка-фашысцкімі войскамі.

Ганарыліся князі Радзівілы не толькі слуцкімі паясамі. У XVIII стагоддзі ў Нясвіжы мясцовы майстар па гадзінніках Яона Якабсан вынайшаў лічыльную машыну, на якой можна было рабіць складанне і адыманне. І сёння гэта машына захоўваецца ў музеі імя М. В. Ламаносава ў Пецярбургу.

Вынаходкі прыцягвалі і асоб княжацкага звання. Над вынаходствам філасофскага каменя працаваў Марцін Радзівіл, вядомы натураліст XVIII стагоддзя, які праводзіў фізічныя і хімічныя доследы па ператварэнню любога металу ў золата. Аднак Іеранім Радзівіл аб'явіў яго пярэваратнем і ўзяў у апеку ўсю яго ўласнасць...

Князі Радзівілы і пасля сваёй смерці жадалі быць у раскошы. З гэтай мэтай у красавіку 1586 года Мікалай Хрыстафор Радзівіл Сіротка загадаў разбурыць касцёл, будаўніцтва якога было амаль завершана, каб на гэтым жа месцы пабудаваць новы, з каменю, спраектаваны італьянскім манахам-архітэктарам Янам Бернардоні. Пабудаваны за дзевяць гадоў (з 1584 па 1593 год), ён быў першым храмам у стылі барока на Беларусі і адначасова сямейнай пахавальняй князёў Радзівілаў.

Уладзіслаў Сыракомля, апісваючы Нясвіжскі фарны касцёл, падкрэсліваў, што тут на кожным кроку можна сустрэць гістарычныя рэліквіі, выдатныя творы мастацтва.

У паўпадвальным памяшканні касцёла сёння знаходзяцца 70 пахаванняў княжацкай сям'і. На падлозе стаяць у два рады зусім аднолькавыя труны з бярозавых дошак, афарбаваных у цёмна-карычневы колер, са свінцовымі пломбамі і адбіткам на іх радзівілаўскага герба. Асобную ганаровую камеру ў пахавальні займае сям'я Кацярыны Сабескай, сястры польскага караля Яна Сабескага, якая прынесла дому Радзівілаў не толькі свой пасаг, але і вялікую частку маёмасці брата-караля.

Радзівілы звычайна хавалі нябожчыкаў у сціплым адзенні, без упрыгажэнняў і каштоўнасцей. Але, нягледзячы на гэта, у пахавальню некалькі разоў пранікалі шукальнікі скарбаў. Аднымі з першых па-варварску пагаспадарылі ў пахавальні шведы ў 1706 годзе. Яны перамрэслі ўсе пахаванні, разрабавалі ўсё, што можна было вынесці і вывезці.

У час руска-шведскай вайны князь Кароль Радзівіл выступаў на баку Пятра I супраць Карла XII, а кароль Польшчы Аўгуст II Дужы лавіраваў паміж двума лагерамі. Ён то кідаўся ў абдымкі Пятра I, то, здраджваючы яму, уцякаў да Карла XII. Падзяліліся на два лагеры і магнаты. Сапегі прымкнулі да шведскага караля, Агінскія і Вішнявецкія — да Пятра I. Вяльможы праследавалі свае карыслівыя інтарэсы, пакутнікам заставаўся просты народ...

10 мая 1705 года шведы, узяўшы Нясвіжскі замак, утапілі 21 пушку, спалілі склады, разбурылі ўмацаванні. Амаль усё было разрабавана, усе пабудовы, акрамя касцёлаў, спалены.

З наступленнем міру малады нашчадак радзівілаўскага роду Міхаіл Казімір Рыбанька не спяшаўся аднаўляць разбураныя шведска-рускай вайной замкі і гаспадарку. Ён адправіўся ў трохгадовы вояж па заходнееўрапейскіх сталіцах, «марнатравіць жыццё», задавальняючыся еўрапейскай раскошай і экзотыкай, бавячы час на шматлікіх маскарадах, балях і святах.

Аднак Радзівілы не закінулі Нясвіж, і праз дваццаць гадоў горад і замак зноў былі адбудаваны. Усё XVIII стагоддзе ішло яго далейшае ўзвелічэнне і добраўпарадкаванне.

Касцёл, які застаўся цэлым і непашкоджаным, быў акружаны чуткамі і легендамі. У 1771 годзе калегія фарнага езуіцкага касцёла ў Нясвіжы запатрабавала майстроў з варшаўскага сабора святога Яна для рэстаўрацыі мастацкага палатна «Тайная вячэра». Мастакам спатрэбіліся мадэлі апосталаў. Ім прадаставілі 12 апосталаў з золата і серабра. Якім жа было іх здзіўленне, калі яны ўбачылі поўную ідэнтычнасць статуй і кампазіцыі «Тайнай вячэры» Леанарда да Вінчы ў міланскім манастыры Санта-Марыя дэ ла Грацыя. Майстры былі ўзрушаны, але факт гэты ніяк растлумачыць не маглі...

Вельмі багатая радзівілаўская бібліятэка, дзе былі сабраны творы грэчаскіх і лацінскіх пісьменнікаў антычнасці, акружэнне высокаадукаваных людзей, добра падрыхтаваныя выкладчыкі — усё спрыяла таму, каб у свой час Леў Сапега яшчэ ў маладым узросце акрамя роднай беларускай цудоўна авалодаў польскай, нямецкай, лацінскай і часткова грэчаскай мовамі...

У тыя дні і гады, калі малады Сапега пазнаваў навукі, Беларусь, называючыся Вялікім княствам Літоўскім, Рускім і Жамойцкім, пастаянна адчувала ваенна-палітычны ціск сумежных дзяржаў. Па гэтай прычыне ў снежні 1568 года ў Любліне сабраўся агульны сейм Польшчы і Вялікага княства, які закончыўся аб'яднаннем дзвюх дзяржаў у ваенна-палітычны саюз — унію — Рэч Паспалітую, што заканадаўча афармілася з 1 ліпеня 1569 года.

У 13-гадовым узросце Леў Сапега разам з дзецьмі Мікалая Радзівіла Чорнага адправіўся ў Германію ў Лейпцыгскі універсітэт, дзе вывучаў гісторыю рымскага і царкоўнага права, творы Платона і Арыстоцеля, сярэдневяковых гісторыкаў і філосафаў, пранікся ідэямі Лютэра, Кальвіна і стаў прыхільнікам пратэстантызму. Праўда, у далейшым, пасталеўшы і ўспамінаючы свае студэнцкія гады, ён гаварыў: «Быў я тады падвергнуты спакусам і дурны як авечка, асабліва калі вучыўся ў нямецкіх ератычных школах».

Атрымаўшы адукацыю ў Германіі, Леў Сапега вярнуўся ў 1572 годзе на радзіму — хутка пасля смерці апошняга і бяздзетнага караля з роду Ягелонаў — Сігізмунда II Аўгуста. Беcкаралеўскі перыяд закончыўся ў 1576 годзе выбраннем на трон сяміградскага ваяводы Стэфана Баторыя. Апякун і заступнік Льва Сапегі, князь Радзівіл Мікалай Рыжы, імкнучыся ўсюды мець сваіх людзей, прызначыў Сапегу на службу пры каралеўскім палацы...

У 1579 годзе, з пачаткам вайны Рэчы Паспалітай з Маскоўскай Руссю, Леў Сапега на свае ўласныя грошы сфарміраваў гусарскі полк, стаўшы яго камандзірам, і паспяхова ваяваў, вызначыўшыся ў баях за Вялікія Лукі, Завалоч і пры асадзе Пскова.

(Працяг будзе).

# САКРЭТ НЕЗГАСАЛЬНАСЦІ,

## або Чаму Тамара Раеўская не любіць слова «зорка»



**НА ЗДЫМКУ: Тамара Раеўская. Люты 1972 года. Колькі б ёй ні было гадоў, для многіх яна — як на гэтым фота.**

У 1962 годзе, у адным з кабінетаў будынка па вуліцы Рэвалюцыйнай, дзе тады размяшчалася Беларускае радыё, зазвінеў тэлефон. Размова, што адбылася далей, на першы погляд, здаецца самай што ні на ёсць звычайнай, але ніхто з удзельнікаў яшчэ не ведаў аб яе лёсаноснасці...

Зараз, праз тры з лішкам дзесяткі гадоў, можна толькі ўяўляць, што адчула маладзенькая медсястра, калі павольна-павольна паклала трубку. Радасць, надзею, трывогу? Ці ўсё гэта адначасова, вірліва, раптоўна? Так, гавораць, бывае ў сне, калі, імгненна асэнсаваўшы адарванасць ад зямлі, адчуваеш заміранне сэрца ад магчымага падзення.

Калегі па працы з трэцяй мінскай бальніцы амаль выпадкова пачулі пра абвешчаны радыё конкурс маладых талентаў. І ёй, медсястрычцы, што так добра спявала, параілі, амаль загадалі: «Патэлефануй!»

У трубку адказалі: конкурс ужо скончыўся, учора быў апошні дзень. І дадалі нечакана: «Добра, прыходзьце заўтра».

Што было ў голасе той дзяўчыны, што прымусіла сабраць яшчэ раз — дзеля яе адной, незнаёмай, невядомай тады нікому — паважаную, аўтарытэтную камісію?

Апраналі яе ўсім аддзяленнем, а былы галоўны ўрач, Вольга Дзмітрыеўна Жукоўская, благаславіла на шчасце. А яшчэ праз некалькі хвілін дзяўчына назвала камісіі сваё імя, якое потым доўга не будзе сходзіць з вуснаў і афіш:

— Раеўская...

*Тамара Рыгораўна Раеўская — чалавек, які здольны здзіўляць. Пры гэтым ты раптам асэнсоўваеш усю глыбіню і даўнасць гэтага здзіўлення. Калі бачыш, як ставяцца да яе людзі: нават для незнаёмых з ёй асабіста гэта жанчына — больш чым спявачка. Калі прыгадваеш, як маці некалі павялічвала гук радыё: «От люблю: Раеўская!..» Як улюбёная ў музыку сяброўка кажа: «Яна — мая другая мама. Творчая». І зусім не здзіўляешся, што на канцэрты той, хто на сцэне больш за трыццаць гадоў, ходзіць моладзь.*

*У чым ён, сакрэт гэтай прыцягальнасці? На гэта пытанне я не магу адказаць ужо два гады — з часу, калі амаль выпадкова адбылася наша першая сустрэча. Дарэчы, аб першых сустрэчах...*

— Дзе вашы ноты? — пацікавілася камісія.

— Ноты? Але ж я думала, тут такія музыканты, што сыграюць усё і без нот!

На наступнае пытанне адказ гучыць фантастычна і сёння: «Я спяваю ўсё». Так, усё! Фальклор, папулярныя мелодыі, оперу, аперэту... На слых, па памяці! У яе сям'і ўсе любілі акампаніраваць сабе на самых розных інструментах. Музычная сям'я ваеннага афіцэра!

Пасля выканання хуценька развучанай па нотах песні раптам заапладзіравалі. Усё журы і музыканты з аркестра...

*Сёння Тамара Раеўская, заслужаная артыстка БССР, не любіць слова «зорка»: «У ім вельмі шмат бліскучага. Занадта шмат!»*

*Занадта? Для яе?*

*Хаця, аб чым гэта я: «зорак» жа зараз у нас нібыта шмат. Так шмат, што, здаецца, не відаць неба! І вось слова стала нейкім зямным, штодзённым, крыху зашмальцаваным — ад частага ўжывання «всуе...»*

*І калі ўспамінаеш, як некалькі разоў давялося адмовіць некаторым «зоркам» у інтэрв'ю (ці проста злавіць сябе на адчуванні іх, «зорак», непрыцягальнасці) — вельмі дзіўна пачуць:*

*— Дзякуй! — так у чарговы раз заканчвалася наша тэлефонная размова. Дзякуй? За што?! За маю чарговую спробу зрабіць яе сваёй гераіняй! Спроба зноў няўдалая, і зноў яе, Тамары Рыгораўны, тлумачэнні здаюцца мне перапрашэннямі, нават спачувальнымі... супакойваннямі.*

*Божа, дзе, ад каго такое пачуеш?! Неперадавальна гучыць. І толькі ад Раеўскай.*

*І вось... Сяджу ў яе ўтульнай, святочнай — не па-мяшчанску! — кватэры. Частуюся гарбатай і спечаным ёю для мяне смачным пірагом. Слухаю... Хаця не: здаецца мне, я сама вельмі шмат, занадта шмат гавару. І нічога не магу зрабіць! З ёй хочацца гаварыць, як з маці.*

...Самае шчаслівае імгненне — гэта калі стаіш на сцэне і чуеш... цішыню. Гэта цішыня, з якой вось-вось народзіцца нешта, здаецца, новае, ніколі раней не бачанае, не чутае. Новыя гукі, рух паветра — новае жыццё...

— Я бачу кожны твар. Я адчуваю, як б'юцца сэрцы. І як гэта біццё зліваецца ў адно, і як зала дыхае, як адна жывая істота. І тады сэрцы нашыя пачынаюць біцца ва унісон...

Колькі гадоў, колькі канцэртаў — столькі разоў даводзілася перажываць вось гэта. Цуд? Цуд.

— Я нават не ведаю, з чым можна гэтую цішыню параўнаць!

Напэўна, ні з чым. Хаця, не ведаю чаму, імгненна і падсвядома ўзнікае асацыяцыя з цішынёй... у храме. У час, калі яшчэ не пачалася служба і, здаецца, нікога-нікога няма. Здаецца...

*У маіх родных мясцінах не раз даводзілася чуць ад людзей: «Тамара Раеўская — наша зямлячка». Мне называлі нават вёску, з якой яна родам. Звычайна кожны раз — іншую. Але заўсёды — з гордасцю.*

*Калі я гавару аб гэтым Тамары Рыгораўне, яна ўсміхаецца...*

*Ёй кажуць так усюды!*

*Па ўсёй Беларусі, у які б горад, у якую б вёску яна ні прыехала. Усюды свая, усюды — «зямлячка». І яна згаджаецца: «Так, я ваша, у нас з вамі адна зямля — Беларусь». І песня з яе рэпертуару, памятаеце: «Люблю цябе, Белая, Белая Русь...»*

*Аднойчы Раеўскай патэлефанаваў адзін гісторык і сказаў, што «Белая Русь» — гэта няправільна. Трэба інакш... Чаго чалавек хацеў ад спявачкі, засталося незразумелым.*

*Як звычайна, палітыкі ўсё зблытаюць за шмат гадоў, а на пытанні адказваць — мастакам!*

*Зрэшты, калі ўжо гаварыць аб спрадвечным: «Спачатку было слова», — паслухаем далей...*

«Слова ў песні — гэта пачатак. Гэта — сэнс. Не бывае жыцця без сэнсу, а песня — гэта маленькае жыццё. Мелодыя, вядома, таксама вельмі важная. Але калі слова нясе сэнс, мелодыя — гэта сама душа. У іх гармоніі тоіцца вялікая сіла!..»

Напэўна, з Тамарай Раеўскай нялёгка працаваць. Яна вельмі патрабавальная. Усюды ёй хочацца знайсці гармонію, на ўсё яна мае свой незалежны погляд. Бывала не раз, што прапаноўвала аўтарам песні крышачку змяніць твор, звычайна з ёй пагаджаліся. Гармонію Раеўская (аб гэтым не раз даводзілася чуць ад самых паважаных прафесіяналаў) адчувае бездакорна!

Пакінуўшы не так даўно апошняе месца працы, яна адмовілася заехаць забраць грошы: «На гэтыя грошы лепш купіце сабе некалькі добрых слоўнікаў». Потым шкадавала, што пагарачылася, была нетактоўнай: «Ведаеш, там таленавіты кіраўнік, усё ён робіць нядрэнна, — але памылкі!»

Па-мойму, усё правільна. Не трэба шкадаваць, сказана ж справядліва!

А яна — шкадуе... Ёй шкада ўсіх і заўсёды. Нібы дзяцей.

Варта прыгадаць, што самой Тамары Рыгораўне доўга не давалі ніякіх званняў. Праўда, яна не любіць «звацца» (памятаеце: «занадта шмат бліскучага»?) Бо самым лепшым званнем заўсёды было для яе чэснае імя.

Калегі крыўдавалі за няўвагу да Раеўскай з боку ўладаў. Не раз хадзілі па інстанцыях, прасілі за яе. І Раеўская магла б стаць заслужанай артысткай нашмат раней, варта было толькі згадзіцца, дадаць адзін радок у дакумент пра бацьку. Бацьку, афіцэра, які ў час вайны трапіў у палон, вывезлі на Поўнач... І вось дачцэ было прапанавана дапісаць усяго адзін сказ: аб тым, што сям'я з бацькам не жыла...

У артыстычных колах вядомы і такі выпадак. У будынку, дзе знаходзіўся кабінет Пятра Міронавіча Машэрава, кампазітара Яўгена Глебава, што загаварыў пра Раеўскую, спыталі: «А што гэта Райскі цягне ў артысткі сваю дачку?»

Барыс Іпалітавіч Райскі, тагачасны дырыжор эстраднага аркестра, сам некалі здзівіўся, калі ўпершыню пачуў яе прозвішча; потым іх нейкі час блыталі: дырыжор Раеўскі, спявае Райская...

«Калі ў вас уся інфармацыя на гэткім жа ўзроўні, — адказаў чыноўнікам Яўген Аляксандравіч, — то я вам спачуваю».

*Сям'ю сваіх бацькоў Раеўская назвала музычнай. Сваю ўласную — медыцынскай. Да гэтай пары любіць сваю першую прафесію. І мужа свайго некалі сустрэла на працы. Ім яна заўсёды ганарылася. Усім гаварыла: муж — урач. І быццам забывалася дадаць: прафесар, загадчык кафедры.*

*У гэтай сям'і не толькі ніколі не было праблемы накшталт «якую люстру павесіць, каб выглядаць не горш за іншых». У ёй увогуле ніхто не імкнуўся ні «звацца», ні «выглядаць»... Тут проста заўсёды разам спявалі і смяяліся, перажывалі і... Пералічыце ўсе фарбы з палітры жыцця, параўнайце словы «побач» і — «разам».*

*І жыццё было светлым. І ім па-добраму зайздросцілі. І госці прыходзілі ў іх дом, каб сагрэцца душою...*

*Сын Тамары Рыгораўны стаў урачом, пайшоў па слядах таты. Як маці, ён улюбёны ў музыку. І, як усе ў сям'і, — у кнігі. Колькі ў гэтым доме кніг!*

*...Мужу Тамары Рыгораўны стала дрэнна пазалеташняй вясной. Дома больш нікога не было. Выклікаў сабе «хуткую». Упаў... Урач адразу сказала: «Навошта вы тут ляжыце? Потым — што ў яго інфаркт. Ён не сказаў, што сам урач. І адразу зразумеў, чым гэта ўсё скончыцца. Яго не стала...*

*Навошта Бог дапусціў такое — ніколі, ніколі не зразумею.*

«...Я не толькі памятаю сваё дзяцінства. Я бачу яго ў фарбах і адчуваю ў пахах...» У вёсцы на Магілёўшчыне, дзе вырасла Тамара Рыгораўна, напэўна, гэтак жа стукаецца ў акно яблынька-пепінка — першы ўспамін з яе маленства. Яны раслі, мацнелі калісьці з яблынькаю разам. А потым яблыньку сагнуў, ледзь не зламаў вецер. Яна выстаяла. Надыдзе вясна — апранецца ў вясельны белы ўбор з кветак.

Найкаштоўнейшы ўбор!

І — мужная яблынька...

Нібы маленькі сімвал беларускай душы — той зямлі, дзе нарадзілася і жыве, аб якой спявае Тамара Рыгораўна. Наша зямлячка, душа і сумленне.

Слова «зорка» я абяцала не вымаўляць — вось тут, сёння, зараз. Але, баюся, што і без яго Тамара Рыгораўна Раеўская пакрыўдзіцца на мяне.

Чаму?

Таму што яна вельмі не любіць, калі яе «занадта» хваляць. Крыху шкада, што яе сакрэту разгадаць я так і не здолела.

Напэўна, усё сапраўднае і каштоўнае ў жыцці — проста. Але чамусьці неспасціжна. Загадкава.

**Таццяна СНІТКО.**
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

*АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ*

# МАЛІТВА

В осенню 1994 г. Генадзь Бураўкін пры сустрэчы з Эдуардам Ханком перадаў вершаваны тэкст і прапанаваў напісаць песню, тэматычна блізкую да тых, што гучалі на эстрадзе.

У сумеснай працы паэта і кампазітара нарадзіліся вакальныя творы. Іх з прыхільнасцю сустрэлі слухачы і доўгі час выконваюць эстрадныя калектывы. Песня «Завіруха» (другая назва — «Белы снег») займала трывалае месца ў рэпертуары «Верасоў», неаднаразова перадавалася па радыё і тэлебачанні як з Мінска, так і з Масквы; яна ўвайшла ў «Популярный справочник-песенник» (ён перавыдаваўся ў канцы 80-х гг. у Маскве і змяшчаў нотны матэрыял і кароткія звесткі пра найбольш папулярныя савецкія і замежныя песні і іх аўтараў). Ансамбль «Сябры» выконваў «Жар-птушку». Запамінальная мелодыя песні «Конь незацугляны», якую спяваюць «Песняры».

Цяпер перад кампазітарам паўстала нялёгкая задача: стварыць песню, падобную на малітву. Аналагічныя творы ўжо гучалі і палюбіліся на Беларусі. Падчас урачыстасцей выконвацца песні «Малітва за Беларусь» (першапачатковая назва «Авэ, Марыя») Ігара Лучанка, «Малітва» Алега Моўчана.

Адметнае і выкананне гэтых твораў. Голас Алесі ўспрымаецца як ласкавы праменьчык, што ляціць-радуе людзей, абуджае іх душы. Спеў Уладзіміра Мулявіна — гэта спеўмаленне, спеў-прысяга тутэйшага спрадвечнага працаўніка, які асэнсаваў сваё прадвызначэнне і цяпер урачыста абвяшчае перад Богам і людзьмі пра сваё служэнне роднаму краю.

Эдуарду Ханку трэба было адшукаць такую мелодыю, каб новая песня арганічна далучылася да ўжо напісаных калегамі і ў той жа час заставалася б арыгінальнай.

Аналізуючы характар створаных песень, выразнасць іх мелодый, манеру выканання, кампазітар вырашыў працаваць у рэчышчы сваіх тэарэтычных высноў (ён даследуе праблемы савецкай эстрады і падрыхтаваў да друку кнігі па яе гісторыі). І кампазітарскае чуццё падказвала прадоўжыць меладычны кірунак. «Малітва за Беларусь» І. Лучанка — звонкі, пералівісты кліч анёла, які разносіцца ў прасторы, напаўняе радасцю край, запальвае ў сэрцах яго насельнікаў агеньчык светлай надзеі на будучыню і ўпэўненасці ў сабе. Гэтыя добрыя якасці — надзея і ўпэўненасць — выспяваюць у душах людзей і выліваюцца ў своеасаблівыя песні. Гэта якраз і выявілася ў «Малітве» А. Моўчана. Эдуард Ханок прадоўжыў меладычную хвалю, што ішла з космасу на зямную прастору (кліч анёла), дасягнула яе, выклікала адпаведны рэзананс (спеў-прысяга, спеў-прысвячэнне): цяпер яна зноў узнімалася ўверх, узлятаючы пяшчотна-трывожна. Новы твор — гэта яшчэ трапяткая, але ўжо ўсвядомленая малітва-просьба юнай змены, будучыні роднага краю. Каб засярodзіць увагу на крыжовым шляху Беларусі, выразна пазначаным у тэксце, каб закрануць пачуцці яе насельнікаў, падштурхнуць іх да асэнсавання лёсу роднай зямлі, кампазітар звярнуўся да інтанацый рэвалюцыйных песень, да трывожных мелодый грамадзянскіх войнаў, спалучыў іх з сучаснымі вобразна-выяўленчымі сродкамі.

...У мінскім Палацы спорту ішоў святочны канцэрт, прысвечаны 50-годдзю Перамогі над фашызмам. На сцэну выйшла тоненькая, сярэдняга росту, апранутая ў чорнае дзяўчынка. Пад акампанемент фартэпіяна яна запела. Па-дзіцячы даверліва, шчыра і пранікнёна яна прасіла Бога абараніць родны край, зберагчы яго ў любові і мудрасці. Словы, мелодыя, голас краналі прысутных на ўрачыстасці. Падчас працяглых апладысментаў пад моцным уражаннем песні на сцэну заспяшалася жанчына-ветэран і перадала юнай артыстцы кветкі.

Песню «Малітва» на верш Генадзя Бураўкіна выконвалі кампазітар Эдуард Ханок, які акампаніраваў на фартэпіяна, і яго дачка Святлана.

Гэтак жа ўсхвалявана, праз мелодыю і голас успрымаючы боль і трывогу Беларусі, віталі песню і масквічы, перад якімі неаднаразова выступалі кампазітар і юная спявачка...

У жыцці нічога не бывае выпадковым. Усё ўзаемаабгрунтавана. Усё мае прадаўжэннеразвіццё, лагічнае завяршэнне. Тое, што ў нашай краіне адначасова ўзніклі і гучаць песнімалітвы — творы эстраднага выканання, сведчыць, што праблемы, якія захлістваюць грамадства, часткова вырашаны. Яны знайшлі паэтычнае, кампазітарскае, мастакоўскае ўвасабленне. Творцы, надзеленыя дарам ад Прыроды, ад Бога, падалі свой голас: склалі песні-малітвы, дзе тэкст, мелодыя, манера выканання ў непарыўнай сувязі, у арганічным суладдзі. У суладнасці з родным краем, з усёй грамадою павінна адбывацца поўнае вырашэнне ўзнікшых праблем.

Прыслухаемся да песні сяброў, песняроў, да мелодыі зямлі беларускай!

**Міхась ШАВЫРКІН.**



## МАЛІТВА

**Верш Генадзя БУРАЎКІНА** — **Музыка Эдуарда ХАНКА**

Мы здалёку ўбачылі свабоду
І яшчэ не вырваліся з пут.
Божа, не дай майму народу
Пошасці, няпраўды і пакут.

У чужым нялюдскім землятрусе
Хіба ў нечым мелі мы віну?
Божа, адвядзі ад Беларусі
Здраду, вераломства і вайну.

Смутнаю парою нелюдзімай,
Калі ўсё вакол ідзе на злом,
Божа, захіні маю Радзіму
Мудрасцю, спакоем і цяплом.

# ВЫХАД АДЗІН — ІСЦІ НАПЕРАД, НАРОШЧВАЦЬ ЭКАНАМІЧНЫ ПАТЭНЦЫЯЛ

**(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.).**

Вытворчасць тавараў народнага спажывання прагназіруецца з ростам на 1 працэнт, чакаецца стабілізацыя выпуску практычна ўсёй наменклатуры прадуктаў харчавання.

У аграпрамысловым комплексе будуць прыняты меры па павелічэнню вытворчасці асноўных відаў прадукцыі раслінаводства і жывёлагадоўлі, а таксама па развіццю харчовай прамысловасці.

З улікам прагнозу аб'ёмаў вытворчасці, індэксаў змянення цэн і з улікам прынятых рашэнняў па фінансавай падтрымцы сельгасгалін у 1996 годзе аграпрамысловаму комплексу будзе выдзелена каля 4,3 трыльёна рублёў, што крыху вышэй за ўзровень 1995 года. У мэтах аказання дадатковай дапамогі аграрнаму сектару ўносіцца прапанова аб захаванні парадку фарміравання рэспубліканскага пазабюджэтнага фонду з тым, каб накапіць там каля 2,6 трыльёна рублёў і накіраваць гэтыя сродкі на правядзенне пасяўной кампаніі, закупку тэхнікі, абсталявання і на патаненне працэнтных ставак па атрымліваемых банкаўскіх крэдытах. Асноўнымі напрамкамі інвесціравання ў АПК з'яўляюцца будаўніцтва і забеспячэнне ўводу ў дзеянне магутнасцей па аб'ектах, звязаных з мэтавымі праграмамі: «Цукар», «Алей», «Вытворчасць прадуктаў харчавання для дзяцей ранняга ўзросту», «Ахова і рацыянальнае выкарыстанне зямель», добраўпарадкаванне фермерскіх гаспадарак. На гэтыя мэты прадугледжана накіраваць з рэспубліканскага бюджэту 1 трыльён 129 мільярдаў рублёў.

Цяпер Кабінет Міністраў распрацоўвае дзяржаўную праграму рэфарміравання аграрнага комплексу. У ёй прадугледжана пераўтварэнне маёмасных і зямельных адносінаў, стварэнне прававых і арганізацыйна-эканамічных умоў для раўнапраўнага развіцця ўсіх формаў гаспадарання. Далейшае развіццё знойдуць пытанні акцыяніравання перапрацоўчых прадпрыемстваў. Вызначаюцца прынцыпы цэнаўтварэння і дзяржаўнай падтрымкі развіцця сельскагаспадарчай вытворчасці. Разглядаюцца таксама пытанні падатковай і бюджэтнай палітыкі. У бліжэйшы час гэты праект з'явіцца ў друку і пасля шырокага абмеркавання будзе дапрацаваны і разгледжаны ўрадам.

Асноўныя арыенціры ў сацыяльнай сферы прагнозу на 1996 г. — павышэнне ўзроўню пакупной здольнасці насельніцтва, рэгуляванне занятасці і змякчэнне працэсу выслабанення работнікаў, а таксама адрасная падтрымка маламаёмных слаёў насельніцтва. Плануецца, што ў бягучым годзе ў дзяржаўную службу занятасці па дапамогу звернуцца каля 370 тысяч чалавек. Садзейнічанне ў працаўладкаванні будзе аказана амаль 96 тысячам чалавек, іх можна будзе працаўладкаваць, звыш 20 тысяч пройдуць прафесіянальную перападрыхтоўку з выплатай стыпендый, амаль 230 тысячам чалавек будзе аказана матэрыяльная падтрымка шляхам выплаты дапамог па беспрацоўю. Трэба будзе распрацаваць і ажыццявіць праграму стварэння рабочых месцаў. Неабходна вельмі сур'ёзна папрацаваць над расшырэннем сферы паслуг, развіццём малога бізнесу, таму што інакш такая колькасць беспрацоўных практычна немагчыма, гэта даказана вопытам нашых суседзяў.

У 1996 годзе памер сярэдняй месячнай заработнай платы рабочых, служачых і калгаснікаў павялічыцца ў 1,5 раза і складзе 1.157.000 рублёў. Грашовыя даходы на душу насельніцтва ўзрастуць на 44 працэнты, сярэдні размер пенсій да 524 супраць 339 тысяч у 1995 годзе.

Чакаецца, што сярэдні памер дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце ад 3 да 16 гадоў, у выніку прынятых заканадаўчых актаў павялічыцца ў 1,7 раза. Ва ўмовах росту тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі будзе дзейнічаць механізм фінансавай падтрымкі насельніцтва ў выглядзе безнаяўных жыллёвых субсідый. У мінулым годзе ўжо 108 тысяч сем'яў атрымалі субсідыі на агульную суму звыш 12 мільярдаў рублёў.

Бадай, самай важнай і вострай сацыяльнай праблемай у рэспубліцы з'яўляецца жыллёвая праблема. У адпаведнасці з Нацыянальнай жыллёвай праграмай урад прыняў рашэнне аб прынцыповым змяненні ў бягучым годзе сістэмы фінансавання жыллёвага будаўніцтва. За кошт усіх крыніц фінансавання плануецца ўвесці каля 2,8 мільёна квадратных метраў агульнай плошчы жылля, аб'ём капітальных укладанняў на гэтыя мэты перавысіць 6,6 трыльёна рублеў, але сума гэта ў супастаўных цэнах усё-такі ніжэйшая за ўзровень мінулага года. Захоўваюцца абавязацельствы дзяржавы па забеспячэнню жыллём грамадзян, якім неабходна сацыяльная абарона і якія маюць у адпаведнасці з заканадаўствам ільготы на атрыманне жылля. Другая частка насельніцтва, якая стаіць на кватэрным уліку, зможа пабудаваць або купіць кватэру за кошт уласных сродкаў пры фінансавай падтрымцы дзяржавы ў выглядзе аднаразовай і бязвыплатнай субсідыі. У праекце бюджэту на 1996 год на гэтыя мэты прадугледжваецца 1,4 трыльёна рублёў, у тым ліку 900 мільярдаў на фінансаванне будаўніцтва для грамадзян, якія карыстаюцца льготамі, і 500 млрд. рублёў — на субсідзіраванне будаўніцтва або куплю жылля. Вядома, дзяржава не можа прадаставіць субсідыі адразу і ўсім чаргавікам, таму рашэнні аб іх выдзяленні будуць прымацца на месцах з улікам магчымасцей мясцовых бюджэтаў і матэрыяльнага становішча сем'яў.

### Аб праекце бюджэту на 1996 год

Паважаныя дэпутаты! Пры распрацоўцы праекта бюджэту мы кіраваліся наступнымі прынцыпамі: забеспячэнне нізкіх тэмпаў інфляцыі, скарачэнне падатковай нагрузкі на юрыдычных асоб у мэтах стымулявання вытворчасці, умацавання даходнай часткі бюджэту, сацыяльная накіраванасць расходаў бюджэту і скарачэнне датацый. Даходы кансалідаванага бюджэту ў 1996 годзе прагназіруюцца ў памеры 58 трыльёнаў рублеў, расходы — 62,9, гэта значыць дэфіцыт — 4,9 або 2,7 працэнта ад валавога ўнутранага прадукту. Для пакрыцця дэфіцыту бюджэту прадугледжваецца выкарыстоўваць як унутраныя, так і знешнія крыніцы фінансавання, у тым ліку крэдыты Нацыянальнага банка — 1,9 трыльена, дзяржаўныя казначэйскія абавязацельствы — 850 мільярдаў, паступленне сродкаў, атрыманых ад прыватызацыі, — 450 мільярдаў рублёў.

Напаўненне дзяржаўнага бюджэту прадугледжваецца ажыццявіць за кошт прамых і ўскосных падаткаў. Дзеючая сістэма падаткаў, а таксама абавязковых плацяжоў у пазабюджэтныя фонды мае патрэбу ў значным удасканаленні. Неабходна скараціць колькасць такіх плацяжоў, спрасціць метады вылічэння. Гэтыя прынцыпы падатковага заканадаўства закладваюцца ў распрацоўваемым Падатковым кодэксе, яны ж адлюстраваны і ў тых дапаўненнях да падатковага заканадаўства, якое прапануецца для разгляду адначасова з праектам дзяржаўнага бюджэту на 1996 год.

Прапануемыя меры па ўдасканаленню плацяжоў дазволяць скараціць колькасць абавязковых плацяжоў (спаганяемых з юрыдычных асоб) з 20 да 15, а таксама знізіць стаўкі асобных падаткаў і іншых плацяжоў.

### Што ж прапануецца канкрэтна?

Па-першае, адмяніць падатак на паліва. Гэта дазволіць спрасціць сістэму падаткаабкладання, ліквідаваўшы многаступенчаты механізм падаткаабкладання нафтапрадуктаў, які аказаўся неэфектыўным.

Па-другое, значна знізіць стаўкі акцызаў на асобныя віды тавараў, а ў асобных выпадках адмяніць акцызы наогул. Напрыклад, прапануецца знізіць акцызы на шыны для легкавых аўтамабіляў з 30 да 10 працэнтаў, віно пладоваягаднае — з 50 да 25 працэнтаў, тытунёвыя вырабы айчыннай вытворчасці — з 55 да 20 працэнтаў.

Па-трэцяе, адмяніць у саставе падатку на нерухомую маёмасць падатак на незавершанае будаўніцтва.

Па-чацвёртае, прапануецца таксама знізіць у два разы стаўкі адлічэнняў плацяжоў у фонд на ўтрыманне ведамаснага жылога фонду, а таксама замяніць шматлікія абавязковыя плацяжы ў цэнтралізаваныя фонды міністэрстваў і ведамстваў адным відам плацяжу пры змяншэнні саміх адлічэнняў.

Прапануецца таксама зменшыць больш як у два разы стаўку збору на ўтрыманне пажарнай службы і знізіць на 2 працэнтныя пункты надзвычайны падатак.

Замест дарожнага фонду прапануецца ўвесці дарожны збор у бюджэт з мэтавым выкарыстаннем яго на будаўніцтва і рамонт аўтадарог, адпаведна гэта дае магчымасць знізіць стаўку з 1 да 0,8 працэнта. Такім чынам, гэтыя і іншыя меры аслабяць для суб'ектаў гаспадарання падатковы цяжар з 50,7 працэнта да 46,3 працэнта ад валавога ўнутранага прадукту.

Але хачу напомніць, што зніжэнне падатковай нагрузкі выклікае неабходнасць скарачаць і расходную частку бюджэту.

Таму, разам са скарачэннем колькасці падаткаў, прапануецца зменшыць колькасць ільгот, якімі цяпер карыстаюцца асобныя катэгорыі плацельшчыкаў.

Непрадуманая, устарэлая сістэма льгот па падатках дыскрэдытуе не толькі падатковую сістэму, правакуе розныя злоўжыванні.

У той жа час урад прапануе расшырыць падатковыя льготы, накіраваныя на стымуляванне вытворчасці, расшырэнне будаўніцтва жылля, аўтамабільных дарог.

Даходы бюджэтнай сістэмы Рэспублікі Беларусь у 1996 годзе прагназіруюцца ў памеры 58 трыльёнаў рублёў ці з ростам у 1,5 раза, у тым ліку даходы рэспубліканскага бюджэту — 37,2 трыльёна рублёў.

Удзельная вага ўсіх даходаў і паступленняў дзяржбюджэту ў валавым унутраным прадукце складзе 32,3 працэнта.

Асноўнымі крыніцамі даходаў бюджэту працягваюць заставацца ўскосныя падаткі: падатак на дабаўленую вартасць — 27,4 працэнта ад агульнай сумы даходаў. За кошт падатку на прыбытак у бюджэт паступіць 21 працэнт даходаў, акцызы складуць 10,8 працэнта, падаходны падатак з насельніцтва — 8,1 працэнта; надзвычайны падатак вызначаны ў суме 3,8 трыльёна рублёў і разлічаны са стаўкі падатку, зніжанай на 2 пункты.

З улікам павышэння з 1 ліпеня 1995 года мытных пошлін і збораў, а таксама прагнозных ацэнак аб'ёму экспартна-імпартных аперацый даходы ад знешнеэканамічнай дзейнасці вызначаны ў суме 5,3 трыльёна рублёў, ці з ростам супраць бягучага года ў 2 разы. У адпаведнасці з узгадненнем з урадам Расійскай Федэрацыі, у мэтах лібералізацыі знешнеэканамічнай дзейнасці, павышэння зацікаўленасці вытворцаў і стымулявання экспарту тавараў, а таксама згодна з пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 29.09.95 № 536, экспартныя пошліны зніжаны ў сярэднім на 30 працэнтаў.

З 1 студзеня 1996 г. плануецца ўвесці экалагічны падатак за перапрацоўку нафты. Паступленні яго складуць 130 мільярдаў рублёў. Зямельны падатак разлічаны ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам шляхам прымянення каэфіцыента (3,4 раза), які ўлічвае ўзровень інфляцыі да снежня 1994 года. Плануемая лічба — 1,1 трыльёна рублёў.

Расходы кансалідаванага бюджэту вызначаны зыходзячы з задачы правядзення ў 1996 годзе жорсткай фінансавай палітыкі, паступовага зніжэння дэфіцытнасці бюджэту, што абумовіла правядзенне стараннай інвентарызацыі расходнай часткі бюджэту.

Улічваючы немагчымасць поўнага задавальнення патрэбнасцей усіх галін эканомікі, фінансавая падтрымка аказана прыярытэтным, найбольш перспектыўным напрамкам, здольным умацаваць вытворчы патэнцыял краіны і адначасова павялічыць паступленні даходаў у бюджэт.

Паважаныя дэпутаты Вярхоўнага Савета!

У прадстаўленых вам матэрыялах змяшчаецца падрабязная інфармацыя па асобных відах расходаў.

Таму спынюся толькі на некаторых асаблівасцях расходных артыкулаў.

У 1996 годзе на фінансаванне дзяржаўных капітальных укладанняў выдзелена 7,6 трыльёна рублёў (рост у 1,3 раза). Улічваючы абмежаванасць фінансавых рэсурсаў бюджэту, капітальныя ўкладанні прадугледжваюцца толькі на ўводзімыя важнейшыя аб'екты і будоўлі сацыяльнага і вытворчага прызначэння.

Асігнаванні з бюджэту на датацыі і кампенсацыю розніцы ў цэнах будуць захаваны толькі па паліву, жыллёва-камунальных і транспартных паслугах, рэалізуемых насельніцтву. Яны складуць амаль 2 трыльёны рублёў або менш чым у мінулым годзе на 20 працэнтаў.

Расходы на фінансаванне ўстаноў і мерапрыемстваў па адукацыі і падрыхтоўцы кадраў прадугледжаны ў суме 11,8 трыльёна рублёў — 176,3 працэнта да ўзроўню 1995 г.; на ўтрыманне і развіццё сеткі культурна-асветных устаноў — 0,9 трыльёна рублёў; на ўтрыманне сродкаў масавай інфармацыі — 0,75 трыльёна рублёў; на фінансаванне аховы здароўя — 10,9 трыльёна рублёў — 175,8 працэнта да ўзроўню 1995 г.

У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб асновах дзяржаўнага сацыяльнага страхавання», уведзенага ў дзеянне з 1 красавіка 1995 года, сацыяльныя пенсіі павінны фінансавацца за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту. У сувязі з гэтым захавана выплата штомесячнай кампенсацыі ў памеры 50 тысяч рублёў непрацуючым пенсіянерам, якія атрымліваюць сацыяльныя пенсіі, расходы на гэтыя мэты складуць 150 мільярдаў рублёў.

У цэлым па раздзелу «Сацыяльнае забеспячэнне» расходы на 1996 год вызначаны ў суме 3,6 трыльёна рублёў — 187,1 працэнта да ўзроўню 1995 г.

Расходы на выплату дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце ад 3 да 16 (18) гадоў, ажыццяўляюцца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўных дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей». Праектам бюджэту на 1996 год прадугледжана 706,7 тысячы атрымальнікаў гэтых дапамог, агульная сума расходаў на іх выплату складзе 520 мільярдаў рублёў. Акрамя гэтага, прадугледжаны штомесячныя грашовыя кампенсацыі сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей і атрымліваюць штомесячныя дзяржаўныя дапамогі ў суме 540 мільярдаў рублёў.

Расходы на навуку ў 1996 годзе прадугледжаны ў памеры 1,2 трыльёна рублёў — 170,2 працэнта да ўзроўню 1995 г.

Асігнаванні на абарону і на ўтрыманне органаў унутраных спраў закладзены ў праекце бюджэту на ўзроўні фактычнага выканання за 1995 год.

Нельга не закрануць такую праблему, як расходы на папраўча-працоўныя ўстановы МУС. Яны складаюць на бягучы год 0,5 трыльёна рублёў. З гэтай велізарнай сумы 66 працэнтаў ідзе на ўтрыманне зняволеных. Пры гэтым месцы зняволення перапоўнены, дрэнна забяспечаны работай. Я ўжо не буду гаварыць аб эфектыўнасці арганізаванага там выхаваўчага працэсу.

Напрошваецца вывад — трэба пераглядаць дзеючае заканадаўства, больш рацыянальна выкарыстоўваць дзяржаўныя сродкі.

Можа, выкарыстаць вопыт Польшчы, дзе за пэўныя правапарушэнні шырока практыкуюць спагнанне буйных грашовых штрафаў і вызваленне пад залог.

У 1996 годзе на мерапрыемствы па ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС прадугледжаны асігнаванні ў суме 4,6 трыльёна рублёў, у тым ліку на капітальныя ўкладанні — 1,9 трыльёна або 145 працэнтаў да ўзроўню 1995 г., на мэтавыя мерапрыемствы і праграмы — 0,5 трыльёна рублёў, на льготы і кампенсацыі — 2,2 трыльёна рублёў.

У аснову праекта плана пакладзена рэалізацыя Законаў Рэспублікі Беларусь «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС», «Аб прававым рэжыме тэрыторый, што падвергліся радыеактыўнаму забруджванню ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС».

Ліквідацыя вынікаў чарнобыльскай катастрофы па-ранейшаму застаецца цяжкім грузам для падаткаплацельшчыкаў. Расходы па гэтаму артыкулу роўныя ўсёй суме падаткаў з насельніцтва. Дзесяты год рэспубліка (спачатку з дапамогай Саюза, затым адна, толькі з нязначнай гуманітарнай дапамогай іншых дзяржаў) спрабуе пазбавіць сябе ад цяжкіх вынікаў гэтай катастрофы, якія не маюць аналагаў у свеце. Паступова расходы на гэтыя мэты можна змяншаць. Калі ва ўмовах СССР прымаўся чарнобыльскі закон, у рэспубліцы разлічвалі на саюзную дапамогу і ўвялі шэраг ільгот, ад якіх цяпер трэба было б адмовіцца. Перш за ўсё гэта датычыць даплаты ў зоне 1—5 кюры, якая складае 6—9 тысяч рублёў у месяц на чалавека. Такая неістотная, на першы погляд, даплата на аднаго жыхара з ахопам больш чым 1,5 мільёна чалавек патрабуе многіх мільярдаў рублёў, таму прапануецца выслабаняемыя сродкі накіраваць на ўтрыманне медыцынскіх устаноў, на добраўпарадкаванне пасёлкаў для перасяленцаў, на стварэнне для іх новых рабочых месцаў.

Плацяжы па працэнтах за замежныя крэдыты і плацяжы па пагашэнню асноўнага доўгу складуць 119,8 мільёна долараў ЗША, што менш у параўнанні з выкананнем у 1995 годзе на 7,6 мільёна долараў.

Некаторае скарачэнне расходаў па пагашэнню асноўнага доўгу звязана з завяршэннем у 1995 годзе пагашэння крэдыту ЕС.

На 1996 год рэспубліканскі бюджэт па даходах вызначаны ў суме 37,2 трыльёна рублёў і па расходах — 42,2 трыльёна рублёў, з дэфіцытам 2,7 працэнта ад валавога ўнутранага прадукту, што складае 4,9 трыльёна рублёў.

Даходы рэспубліканскага бюджэту сфарміраваны за кошт:

— 50 працэнтаў адлічэнняў ад падатку на дабаўленую вартасць (па г.Мінску ў памеры 75 працэнтаў);

— 70 працэнтаў адлічэнняў ад акцызаў;

— 100 працэнтаў акцызаў і падатку на дабаўленую вартасць, спаганяемых пры ўвозе тавараў на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь;

— 60 працэнтаў адлічэнняў ад падатку на прыбытак прадпрыемстваў, аб'яднанняў і арганізацый усіх формаў уласнасці;

падатку на нерухомую маёмасць;

— 25 працэнтаў адлічэнняў ад аплаты за зямлю і 40 працэнтаў ад платы за зямлю ў гарадах;

поўнага залічэння даходаў ад знешнеэканамічнай дзейнасці, надзвычайнага падатку.

Кіруючыся дзеючым заканадаўствам, у адпаведнасці з якім прадастаўлена права самастойнага фарміравання мясцовых бюджэтаў мясцовым Саветам, складзены разліковыя паказчыкі па даходах і расходах мясцовых бюджэтаў.

Аб'ёмы мясцовых бюджэтаў на 1996 год вызначаны разлікова ў памеры 27,1 трыльёна рублёў без дэфіцыту.

Паводле прагнозу на 1996 год у бюджэты абласцей і горада Мінска залічаецца 47,6 працэнта ад агульнага аб'ёму бюджэтных даходаў.

Аб'ёмы даходаў мясцовых бюджэтаў сфарміраваны за кошт адлічэнняў ад агульнарэспубліканскіх падаткаў і даходаў у суме 12,5 трыльёна рублёў, што складае 46 працэнтаў ад агульнага аб'ёму даходаў, замацаваных даходных крыніц у суме 8,3 трыльёна рублёў, ці 30,6 працэнта, сродкаў з рэспубліканскага бюджэту ў суме 6,3 трыльёна рублёў, ці 23,4 працэнта. У параўнанні з планам 1995 года ўдзельная вага датацый з рэспубліканскага бюджэту мясцовым бюджэтам скарочана на 0,7 пункта.

Пры складанні разлікаў па мясцовых бюджэтах захаваны парадак залічэння падаткаў і даходаў, за выключэннем падатку на прыбытак, які дзейнічаў у 1995 годзе.

У разліках на 1996 год устаноўлены нарматывы адлічэнняў у мясцовыя бюджэты ад падаткаў на прыбытак і на даходы ў памеры 40 працэнтаў.

У адпаведнасці з Законам «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь» на 1996 год захоўваецца прынцып фарміравання рэгіянальных бюджэтаў, які заключаецца ў давядзенні іх аб'ёмаў да мінімальнага памеру, што гарантуе сярэднерэспубліканскую бюджэтную забяспечанасць на аднаго жыхара. На 1996 год сярэднерэспубліканскі нарматыў бюджэтнай забяспечанасці прыняты ў суме 2,1 мільёна рублёў. Для гэтых мэтаў неабходна выдзяленне сродкаў з рэспубліканскага бюджэту ў суме 3,9 трыльёна рублёў.

Акрамя таго, для фінансавання расходаў мясцовых бюджэтаў у 1996 годзе прадугледжваецца дадаткова выдзеліць з рэспубліканскага бюджэту 2,4 трыльёна рублёў.

Пры фарміраванні разлікаў па расходах на 1996 год захавана сацыяльная накіраванасць мясцовых бюджэтаў.

На фінансаванне расходаў па народнай гаспадарцы прадугледжваецца накіраваць 5,7 трыльёна рублёў, або 21 працэнт ад агульнага аб'ёму мясцовых бюджэтаў, на фінансаванне сацыяльна-культурных устаноў і мерапрыемстваў па сацыяльнай абароне — 19,3 трыльёна рублёў, або 71,2 працэнта.

Паважаныя дэпутаты! Няма сумнення ў тым, што рэспубліка сёння падышла да новага этапа эканамічнай рэформы. Трэба ўзмацніць ролю дзяржавы ў захаванні распрацоўваемых і прымаемых эканамічных правілаў. Неабходна забяспечваць комплекснасць і збалансаванасць эканамічнага рэфарміравання.

Для таго, каб макраэканамічная стабілізацыя стала незваротным працэсам, неабходна павысіць эфектыўнасць вытворчасці.

Калі ўзяць такія дастаткова канкрэтныя праблемы, як неплацяжы, недахват абаротных сродкаў, згортванне інвестыцыйнай дзейнасці, рост дэбіторскай і крэдыторскай запазычанасці, то заўсёды выяўляецца ўсе тая ж праблема слабай кіруемасці эканомікай, праблема ўзгаднення эканамічных інтарэсаў.

Нямала трэба зрабіць у галіне ўдасканалення заканадаўчай базы. Неабходна ўзнімацца на новы этап яе развіцця. На гэта справядліва звярнуў увагу Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка ў сваім выступленні перад дэпутатамі Вярхоўнага Савета трынаццатага склікання.

Прынятыя Законы аб прадпрыемстве, аб банкруцтве, прадпрымальніцкай дзейнасці ў многіх выпадках ужо ўстарэлі. Яны ўнутрана супярэчлівыя і непаслядоўныя.

У заканатворчай дзейнасці акрэсліваецца неабходнасць пераходу ад разрозненых заканадаўчых актаў, якія не стыкуюцца адзін з адным, да распрацоўкі прадуманай працуючай сістэмы.

Рэальнае становішча спраў сёння такое, што без работы не застанецца ні заканадаўчая ўлада, ні выканаўчая.

Дзякуй за ўвагу.

# А потым я-а-ак бабахне!

АНАТОЛЬ АРСЕНЬЕВІЧ Ш., падпалкоўнік у адстаўцы, які расказаў гэту гісторыю, запэўніваў, што ўсё — чыстая праўда, адбылося гэта ў канкрэтнай вёсачцы пад Мінскам, дзе адзін яго саслужывец сядзеў на гаўптвахце разам з лейтэнантам, які трапіў туды за гэтую самую «аперацыю». Мне здаецца, што гэтая гісторыя хутчэй за ўсё адносіцца да жанру армейскага фальклору, але чаго ў жыцці не бывае? Таму выбачайце: за што купіў — за тое і прадаю.

А справа была так. Група падрыўнікоў на чале з лейтэнантам прыбыла па выкліку мясцовых уладаў у наваколле невялікай вёсачкі, дзе былі знойдзены ці то снарады, ці то яшчэ якая брыдота, якой нямала засталося з вайны на беларускай зямлі. Месца, дзе заталася небяспечнае жалеза, абгарадзілі вяроўкамі з флажкамі, а работу вырашылі пачаць на наступны дзень раніцай. Час быў летні — усталявалі палатку, распалілі вогнішча, наварылі кашы з тушонкай. У разгар трапезы да салдат завітаў мясцовы дзядок з падарункам — трохлітровым слоікам цёплага малака. Аказаўся ён жвавым і гаваркім. Расказаў, як сам ваяваў, дзе пабываў і што бачыў. А потым звярнуўся да старшага з маленькай просьбай. Маўляў, ці не мог бы ён выдзеліць чалавекі дватры яму ў дапамогу? Бычка трэба зарэзаць, а ў вёсцы мужчын не засталося, аднаму яму не справіцца.

Лейтэнант зразумеў дзядулю, высветліў, хто з салдат жыў у вёсцы і займаўся калі-небудзь такой работай. Знайшліся такія. Іх і накіраваў лейтэнант у распараджэнне мясцовага жыхара.

Па дарозе той расказаў, што бычка завуць Салаўём, трымаў яго выключна на племя, паколькі на цэнтральную сядзібу ў неабходных выпадках вадзіць кароў далёка. Зразумела, пракат бычка рабіўся не за так: хто плаціў грашыма, хто натурай. Толькі за апошнія гады кароў у вёсцы стала менш, не пад сілу старым даглядаць жывёлу. І трымаць Салаўя ўжо няма сэнсу — толькі корм пераводзіць. Прыходзіцца пускаць на мяса.

Калі каманда прыбыла на дзедаў двор, у салдат выцягнуліся твары. Ля плота стаяў здаравенны бык вагой пад тону, з грывай, як у белавежскага зубра, і з рагамі, здольнымі знесці дом. З таўшчэзнай шыі звісаў цяжкі жалезны ланцуг, другі канец якога быў абматаны вакол слупа.

— Ну ты і прыдумаў, баця! — абурыўся адзін з салдат. — Розум зусім страціў? Падступацца да тваёй «птушачкі» з нажом — усё роўна што ісці на танк з шашкай. Каб яго скруціць, рота спатрэбіцца. Ды і то калі знойдуцца смяротнікі.

— Чаму ты яго не адвёз на бойню? — умяшаўся другі салдат. — Там бы з ім хутка разабраліся.

— Ды спрабаваў, — хмура апраўдваўся гаспадар, — два разы. Фургон спецыяльна для жывёлы наймаў. Не ідзе, зараза, хоць забі. Ён увогуле ціхі, але як упрэцца — з месца не зрушыш.

— Ды з ружжа уляпіць яму між вачэй — і справе канец, — прапанаваў трэці.

Дзед ад усяго гэтага грэбліва адмахнуўся.

— Ага, самі не здагадаліся. З якога ружжа ты праб'еш гэту мазгаўню? Раніш толькі на сваю бяду... Тут гранатамёт патрэбен.

Гранатамёта ў салдат не было. Толькі ўзрыўчатка, нажы ды прыборы. Пачалі раіцца, што рабіць, як выручыць дзеда. Не трымаць жа яму на самай справе да смерці гэтага «малыша» — Салавейчыка. Нябось жарэ за пяць кароў.

— Давайце вось што, — прапанаваў адзін з салдатаў. — Прывяжам да рога ўзрывацель, аглушым, а потым ужо звяжам ногі і перарэжам горла.

Ён дастаў з падсумка бліскучую штуковіну, падобную на аловак, і паказаў дзеду.

Той з сумненнем пакруціў у руках цацку, аддаў назад.

— Не падыдзе. Гэта твая фіговіна толькі пагладзіць яго па шэрсці. Вось «лімонку» б — іншая справа.

Думка спадабалася.

— Ану, Коля, гані да лейтэнанта — папрасі толавую шашку, — загадаў адзін з салдатаў маладзейшаму таварышу. — Растлумач талкова — навошта. Скажы, што ўсё зробім акуратна, як у аптэцы. На адкрытай мясцовасці выбух пойдзе ўбок, крыху галаву пашкодзім, але чорт з ёй.

Праз гадзіну, засопшыся, Колька з'явіўся з бруском толу. Велічны Салавей спакойна падпусціў да сябе дзеда і аднаго з падрыўнікоў, не звяртаючы ніякай увагі на іх маніпуляцыі. Шашку моцна прыматалі ізаляцыйнай стужкай да магутнага рога, а потым падпалілі шнур. Толькі тады людзі адбеглі ад яго на добрую адлегласць, а ў нос ударыла едавітым дымам. Салавей захваляваўся, закруціў галавой, спрабуючы скінуць нечаканаы падарунак, затанцаваў на месцы. Але шашка трымалася моцна. Адчуваючы, што справа дрэнь, Салавей тузануў ланцуг так, што слуп выскачыў з зямлі разам з плотам, і рвануў да выратавальнага стойла. У варотах крыху захрас, але гэта не спыніла ўцекача. Папярочкі трэснулі як запалкі, і Салавей знік з вачэй у глыбіні хлява.

Сітуацыя выйшла з-пад кантролю. Гаспадар схапіўся за галаву і штосьці прашаптаў пра карову і авечак. А потым я-а-ак бабахнула! Сцены хлява вытрымалі, а вось дах спачатку ўздула да неба, а потым ён рухнуў уніз. І амаль адразу пачаўся пажар — запалала сена на палатках і ў другой палавіне хлява. Спецыялісты па выбуховых справах у першыя хвіліны яшчэ мітусіліся вакол агню, штосьці бессэнсоўна выкрыкваючы, але ўсё гэта было марна. Хлеў згарэў за некалькі хвілін. А разам з ім і Салавей, карова і двое авечак. Ніхто з іх нават голас не падаў — відаць, аглушыла выбухам. Пасля пажару дзед сярод вугалькоў і галавешак знайшоў невялічкі шматок рабой шкуры Салаўя ды яшчэ чорныя косці.

Вечарам на пажарышча прыйшоў лейтэнант. Гаспадар не захацеў з ім размаўляць. Зачыніўся з гора ў хаце. І правільна зрабіў: не ўмееш — не бярыся.

**Георгій ГРАМЫКА, ул. кар. «Труда».**

*Міколас ОРБАКАС:*

# НЕ ШКАДУЮ, ШТО РАЗВЁЎСЯ З ПУГАЧОВАЙ

**Цыркачу Міколасу Орбакасу нядаўна стукнула 50. Гэты двухметровы літовец — самы першы муж Алы Пугачовай, бацька Крысціны Орбакайтэ. Ён развёўся з Алай многа гадоў назад і з таго часу захоўваў зарок маўчання. «Экспресс - газета» — першае выданне, якому ўдалося ўзяць у яго інтэрв'ю.**

**АЛА ВЫБРАЛА МЯНЕ**

— Кажуць, вы з Алай на гастролях пазнаёміліся?

— Пасля трэцяга курса мы паехалі на заробкі. Знайшлі зухаватага адміністратара Мішу Плоткіна, кіраўніка ВІА «Лійся, песня» (ён цяпер у ЗША). Плоткін нас вазіў, мы зараблялі грошы. І вось неяк аднойчы Алекс Няпомняшчы (дырэктар і прадзюсер А. Б.) прыводзіць мілую кволую дзяўчынку. Завуць Алай. Голас — проста магія. Мы ўзялі яе да сябе ў групу. Знешнасцю яна, прама скажу, не вызначалася, але характар быў свойскі. А калі садзілася за раяль... Карацей, пазнаёміліся мы ў сакавіку 1969 года і ўжо ў кастрычніку адправіліся ў ЗАГС. Памятаю, як доўга стаялі ў чарзе ў Грыбаедаўскі палац шлюбаў. Так доўга, што хацелася плюнуць на ўсё і пайсці.

— У Пугачовай да вас быў хто-небудзь?

— Быў ваенны, афіцэр па прозвішчу Раманаў, імя не запомніў. Ён служыў дзесьці ў Алжыры, слаў ёй адтуль падарункі, віншавальныя тэлеграмы. І здарылася такая вясёлая гісторыя. Бацькі Алы жылі ў старым драўляным доме, у пакойчыку 14 метраў на шасцярых... І вось мы з Алай распісаліся, сядзім за сталом з шампанскім, тортам і ружамі: абмяркоўваем з бацькамі наша сямейнае будучае. Раптам адчыняюцца дзверы — і на парозе з'яўляецца яе сябар. І ў яго ў руках таксама шампанскае, торт і ружы. Крыху спазніўся! Я іх пакінуў удваіх. Не ведаю, аб чым гаварылі, але Ала ўсё ж выбрала мяне.

— Жыццё з Алай Пугачовай не нагадвала пекла?

— Ад? Не. Мне стукнула 23, ёй 19 гадоў — цудоўная розніца. Мы разумелі адзін аднаго. Праз паўтара года нарадзілася Крысціначка, вось дзе з'явіліся праблемы. Яна ад'язджала з аркестрам Алега Лундстрэма на месяц, на два. Пайшлі замежныя турнэ: Польшча, Балгарыя, Чэхаславакія. А дачка на мне. З ёю трэба было займацца, вадзіць у садзік, гуляць, выхоўваць. Ала ніколі не засяроджвала ўвагу на шлюбе. Вырашыла прысвяціць сябе мастацтву. За чатыры гады мы ні разу не пасварыліся. Былі сцэны рэўнасці, але ў цэлым давяралі адзін аднаму. Далі бог, не памятаю, хто першы напісаў заяву на развод.

**КРЫСЦІНА — ГЭТА МАЁ ДЗІЦЯ**

— Не шкадуеце, што разваліся з Пугачовай?

— Не... Не шкадаваў і цяпер не шкадую. Праўда, спачатку Ала не давала мне сустракацца з дачкой, але потым сама пачала званіць: «Дзяўчынка сумуе». Крысціна — маё дзіця, і я стараўся з усіх сіл, каб разлад не адбіўся на яе псіхіцы. Вадзіў у пяць гадоў у музычную школу, дапамагаў рабіць урокі. Гэта было складана, я ж працаваў у цырку. Бедная Зінаіда Архіпаўна — мама Алы, — ёй таксама дасталося.

— Крысціна была таленавітым дзіцем?

— Вучылася лёгка, а што датычыць музыкі — проста разумніца. Гамы ганяла з заплюшчанымі вачамі.

А пасля фільма «Чучала» стала вядомай. Яна і цяпер купаецца ў промнях славы, такая крутая, але мяне не забывае. Нядаўна ў госці прыязджала. У яе выдатныя адносіны з маім сынам. Мне кажуць на вуліцы: «Твая дачка так ногі задзірае — жах». Яны не разумеюць, што гэта сцэна, ігра, акцёрства.

— А ўнука Мікіту яна вам не прывозіць?

— Не. Не атрымліваецца ў нас...

— А праўда, што з Уладзімірам Праснякова ым у Крысціны не ўсё «о'кей»? Быццам яны на мяжы разводу?

— У моладзі бываюць заскокі. Але, напэўна, усё будзе добра.

**ГРЭХ СМЯЯЦЦА НАД ФІЛІПАМ**

— Калі вы апошні раз сустракаліся з Алай?

— У 1991 годзе. Яна нечакана пазваніла ў тры гадзіны ночы. Да яе прыехала наша агульная сяброўка Таццяна Садаф'ева, з якой я не бачыўся дзесяць гадоў. І я ўначы паімчаў на Цвярскую. Успаміналі мінулае, пілі добры каньяк.

— Як вы адняслiся да яе апошняга шлюбу?

— Ніяк. Ведаючы яе характар, усяго можна чакаць. Але смяяцца над ёю і Філіпам — грэх. Мая Марына таксама маладзей за мяне на 19 гадоў.

— Чым займаецца ваша жонка?

— Яна ў мінулым паветраная гімнастка, працавала ў цырку. Пасля аперацыі на пазваночніку працуе разам са мной у філармоніі. Нашаму сыну Фабі 10 гадоў, вучыцца ў трэцім класе. Мы жывём небагата, але вельмі дружна. У мяне няма машыны, няма харомаў з антыкварыятам, затое ёсць дача за 150 вёрст ад Масквы, у Алексіне. Там я вырошчваю бульбу, усялякую зеляніну.

— Цяпер ходзяць упартыя чуткі, быццам Ала зноў збіраецца быць маці. Нядаўна, напрыклад, стала вядома, што яна заказала Юдашкіну сукенку на памер большую. Што думаеце наконт гэтага?

— Дай ім Бог. Кожны чалавек мае права на шчасце.

**Сяргей САМАХВАЛАЎ, «Экспрэс-газета».**

*НЕВЕРАГОДНАЕ*

# РАКАВЫЯ ПРАДКАЗАННІ

*Прароцтвы і прадказанні сустракаюцца значна часцей, чым прынята думаць. Аб гэтым гутарка з правадзейным членам Міжнароднай акадэміі энергаінфармацыйных навук Барысам Шапіра-Тулінымм*

*...У 1889 годзе адзін малавядомы мастак намаляваў карціну: сярод хаосу, нагрувашчвання фігур на чырвонай пляме ў цэнтры праступае твар чалавека. Карціна выклікае адчуванне катастрофы, смяротнай пагрозы. Тыя ж, хто бачыў гэты твар праз паўстагоддзя, не маглі зблытаць яго ні з якім іншым: маленькія вусікі, чолка, характэрны нос. У год, калі была напісана карціна, нарадзіўся будучы фюрэр...*

**— Барыс Яўсеевіч, як жа атрымалася, што мастак змог як бы зазірнуць у будучыню?**

— Чым больш чалавек уваходзіць у стан натхнення, тым шырэй атрымліваемая ім інфармацыя, у тым ліку і пра будучыню. Прычым не толькі аб важных гістарычных падзеях, але і аб сваім жыцці. Напрыклад, па ўспамінах сучасніка, Пушкін многае ведаў пра свой лёс. Спецыялісты лічаць, што ў вядомай «Пікавай даме» зашыфравана дата смерці геніяльнага паэта. Памятаеце: «тройка, сямёрка, туз»?.. Трыццаць сёмы год, першы месяц... Сапраўды, дуэль адбылася 27 студзеня 1837 года ў 11 раніцы...

**— Атрымліваецца, што магчымасць бачання будучага — прэрагатыва таленавітых людзей?**

— Гэта складанае пытанне, у рэшце рэшт, таленавітым можа быць і дворнік. Ёсць гістарычны зафіксаваны прыклад, калі просты рыбак Антон Йохансан у 1907 годзе прадказаў гібель «Тытаніка» (карабель пацярпеў крушэнне ў красавіку 1912 года). Ён прадбачыў і смерць свайго брата. А ў 1913 годзе гаварыў, што будзе вялікая вайна, у якой Германія пацерпіць паражэнне, і нават збіраўся ехаць у Берлін, каб папярэдзіць канцлера. У 1920 годзе ў Стакгольме выйшла кніга пра гэтага рыбака...

**— Я чуў, што гібель «Тытаніка» была прадказана і ў нейкім фантастычным творы таго часу?**

— У 1898 годзе (за пятнаццаць гадоў да рэальных падзей) аўтар навукова-папулярных кніг Морган Робертсан апісаў пабудову вялікага карабля «Тытан» водазмяшчэннем каля 70 тыс. тон, даўжынёй 800 футаў, які мог размясціць на сваім борце 3000 пасажыраў. Цікавая падрабязнасць: пісьменнік меркаваў, што гэтага гіганта будуць прыводзіць у рух тры вялікія вінты. А гінуў гэты карабель па фантазіі аўтара, наткнуўшыся на айсберг. Дастаткова параўнаць характарыстыкі рэальнага карабля «Тытанік»: водазмяшчэнне — 66 тыс. тон, даўжыня — 825,5 фута, на борце сапраўды размяшчаліся 3000 пасажыраў, і гэты гігант рухалі тры веславальныя вінты... Ну а факты яго сутыкнення з айсбергам і гібелі ўсім вядомы.

**— Як жа ўсё-такі магчыма прадбачанне будучага? Многія прадстаўнікі традыцыйных навук схільныя лічыць, што проста некаторыя людзі валодаюць развітой інтуіцыяй і падсвядома ўспрымаюць скрытыя тэндэнцыі развіцця той ці іншай сітуацыі... Але дакладнае «пападанне» ў дату, дэталёвае апісанне будучых падзей...**

— Феномен прароцтва рэальна існуе і зафіксаваны ў мностве фактаў. А вось як гэта адбываецца і чаму магчымы такія «скачкі ў часе» — незразумела. Ёсць розныя тэорыі. Але ўсе яны ў канчатковым выніку ўпіраюцца ў такія катэгорыі, як час і прастора. Гэта значыць размова ідзе аб глабальным разуменні будовы нашага свету. Філосафы і вучоныя спрабуюць гэта пытанне вырашыць, але пакуль яно застаецца адкрытым...

**— Зразумела. А як вы ставіцеся да гадання на картах?**

— Спачатку крыху гісторыі: адкуль наогул з'явіліся сучасныя ігральныя карты? У старажытнасці чалавецтва пазнала нейкую сістэму сімвалаў, якая ў свой час была закумулявана ў Егіпце ў храмах Ізіды на залатых пласцінах у выглядзе пэўных адлюстраванняў. Гэта сістэма вядома нам цяпер як карты Тора. Частка гэтых адлюстраванняў (так званыя малодшыя арканы) былі потым пераведзены дзеля іх захавання ў сімвалы нашых ігральных карт. Так што, гуляючы, скажам, у прэферанс, «дурня» або ачко, мы ўсё роўна трымаем у руках гэту сакральную нітку.

**— І як гэта суадносіцца з гаданнем?**

— Карты самі па сабе — таксама нейкі інструмент, які з дапамогай старажытных сімвалаў дапамагае хоць бы на момант раз'яднаць свядомасць і падсвядомасць і паспрабаваць пранікнуць у яго глыбіні. Варажбітка, уласна, і не гадае, а «выцягвае» тую інфармацыю аб мінулым або будучым, якой валодае падсвядомасць чалавека.

**— Барыс Яўсеевіч, сапраўды можна гадаць па руцэ?**

— Можна. Хоць, зноў жа, многае залежыць ад кваліфікацыі хіраманта.

Справа ў тым, што на целе чалавека ёсць некалькі зон, якія, скажам так, звязаны з Космасам. Здаўна людзі зразумелі, што існуе нейкая залежнасць паміж карцінай зорнага неба і лініямі на нашых руках... Няма дзвюх аднолькавых рук. У момант нараджэння чалавека карціна зорнага неба была такой і толькі такой, і агульная энергетыка зорнага неба будзе прачытвацца ў правалах, буграх і лініях нашай далоні, некаторыя з якіх па містычнай традыцыі называюцца гэтак жа, як і планеты.

**— Мяркуем, два немаўляці нараджаюцца практычна адначасова. Карціна зорнага неба ў гэты момант для абодвух аднолькавая. Ці азначае гэта, што лініі рук будуць падобнымі?**

— Яшчэ адзін магутны фактар, які аказвае ўплыў на іх фарміраванне, — спадчыннасць.

**— Але ж чалавек на працягу жыцця мяняецца?**

— Карціна нашых рук таксама мяняецца. Я, напрыклад, ужо дзесяць гадоў пільна вывучаю з гэтага пункту гледжання свае рукі, і змяненні даволі значныя. А гэта ёсць вынік змянення ходу нашага лёсу.

**— Калі мы гаворым аб «счытванні» лёсу па лініях рук, мне адразу ўспамінаецца прыняты падсвядомы жэст прывітання: паднятая рука з раскрытай далонню. Або сяброўскае раскрыццё абдымкаў... А з псіхалогіі вядомы жэсты скрытнасці: рукі ў кішэнях, за спінай, скрыжаваныя...**

— Так. Раскрытая далонь, звернутая да другога чалавека, — вы паказваеце як бы свой «код», падсвядома гаворачы: «Я табе давяраю. Вось глядзі, хто я». У Бібліі, у кнізе Іова, сказана: «Бог налажыў пячатку на руку чалавека, каб кожны ведаў па справах яго».

**— Апошнім часам зноў у моду ўвайшлі рознага роду соннікі. Ведаю многіх людзей, у якіх першая справа раніцай — тлумачэнне свайго сну... Скажыце, прарочыя сны — рэальнасць?**

— Я думаю, кожны чалавек так ці інакш іх перажывае. І кожны можа расказаць сваю гісторыю аб тым, як бачанае ім у сне збылося. Але тлумачэнне сноў — складаная справа. Адразу разабрацца, прарочы сон ці не, яшчэ цяжэй. Аднак ёсць адзін момант, на які можна звярнуць увагу: лічыцца, што прарочымі снамі становяцца тыя, у якіх з намі сустракаюцца памёршыя бацькі. Вельмі важна прыслухоўвацца да іх слоў. Гэта заўсёды некаторае папярэджанне аб тым, што павінна адбыцца... Пытанне аб снах такое шырокае, што пра яго можна пагаварыць асобна.

**— І ўсё ж: навошта патрэбны прадказанні? Проста з цікаўнасці?**

— З аднаго боку, чалавеку сапраўды заўсёды цікава ведаць, што з ім можа адбыцца. Але з другога, прароцтвы — элемент уздзеяння, у тым ліку і спосаб атрымання ўлады.

**«СПІД-Інфо»**










Малюнкі Марыны ГАРЭЛАВАЙ і Леаніда РАЗЛАДАВА.

# УСХОДНІ ГАРАСКОП НА БУДУЧЫ ТЫДЗЕНЬ

**З Дэлі перадае кар. ІТАР—ТАСС Леанід КОТАЎ**

КАЗЯРОГАЎ чакае ўпартая праца, пачатак уласнага бізнесу. Смела пускайцеся ў фінансавыя аперацыі, сябры дапамогуць вам. Пасля экзаменаў тым Казярогам, якія вучацца, астролаг абяцае прыемны адпачынак, асабліва тым, хто правядзе яго з дамай сэрца.

Акрамя выбівання грошай, у ВАДАЛЕЯ наперадзе сустрэча з вялікім мастацтвам і рамантычнае спатканне. Жанчынам прыгатаваны клопаты аб сваім знешнім выглядзе, умацаванні цела і духу. Маладым дзяўчатам зоркі абяцаюць перамогу ў конкурсах прыгажосці. Той, хто мае намер выехаць у замежнае турне, хай спадзяецца на прагноз астролага — спонсары не падвядуць і аплацяць усе вашыя расходы.

Занятых на дзяржаўнай службе РЫБ начальства адзначыць прэміяй і паабяцае павышэнне. Магчымая камандзіроўка акажацца паспяховай. Едзьце смела — у вашым доме будуць панаваць мір і спакой. І наогул, тыдзень для Рыб пройдзе надзвычай паспяхова. Праўда, 27 студзеня вас дома можа хтосьці нечакана наведаць, і хоць гэты візіт наўрад ці будзе непрыемным, усё ж падрыхтуйцеся да яго.

АВЕНАМ зоркі рэкамендуюць устрымацца ад траты грошай. Ім «свеціць» незапланаванае падарожжа з расходамі. Калі ўжо моцна прыцісне — пазычце грошы ў знаёмых і сяброў — у вас будзе магчымасць вярнуць доўг. Бізнесменам трэба пачакаць з новымі кантрактамі, бо можна «апячыся».

У ЦЯЛЬЦОЎ — дактароў, юрыстаў, архітэктараў з'явіцца выгадная кліентура. Моладзі трэба пачакаць з новымі пачынаннямі, лепш заняцца спортам. Астатнім Цяльцам таксама не грэх крыху развеяцца. Студэнтам не рэкамендуецца далёка закідваць падручнікі — потым будзе цяжка нагнаць.

БЛІЗНЯТЫ прарвуцца да поспеху ва ўсіх сваіх справах. Тыя, што шукаюць работу, атрымаюць выгадныя прапановы і могуць «закасваць рукавы». Справы ў сям'і пойдуць на лад, калі вы прадэманструеце цікавасць да хатніх спраў. Жанчынам зоркі падрыхтавалі бурныя падзеі. Не выключаны размовы з бацькамі, паспрабуйце тонка перавесці іх на нейтральны лад. Паклапаціцеся таксама аб уласным здароўі.

РАКУ давядзецца сур'ёзна папрацаваць і быць уважлівым, каб пазбегнуць памылак. У сямейным бізнесе магчымы канфлікты са сваякамі-кампаньёнамі. Ёсць нават рызыка страціць работу. У хатніх гаспадынь ад стомленасці могуць узнікнуць праблемы са здароўем, праўда, невялікія. Парады Раку: пазбягайце сямейных сварак і трымайцеся далей ад канфліктаў з роднымі. У вас чакаецца складаны перыяд, таму не губляйце вытрымкі.

Бізнес у ЛЬВА абяцае пайсці ўгору, але не рабіце новых капіталаўкладанняў, пакольні можна прагарэць. Не адмаўляйцеся ад дзелавой паездкі — яна будзе паспяховай. Сямейнае жыццё абяцае ціхую ідылію з дамашнімі, сустрэчу з важным госцем і невялікі «сабантуй». Устрымайцеся ад бурных і эмацыянальных любоўных прыгод. На час, вядома.

ДЗЕВА даб'ецца поспехаў на службе. Вас чакаюць павышэнне па рабоце і ўзнагарода за доблесную працу. Жанчын у кар'еры чакае ўзлёт. Шанцаванне будзе спадарожнічаць спартсменам, студэнтам. Для Дзеў магчымы цікавыя падарожжы за мяжу і запрашэнні папрацаваць за граніцай.

ШАЛЯМ не мінаваць рашэння фінансавых праблемаў, павышэння на пасадзе, у воінскім званні і розных узнагарод. Патрабуйце павышэння жалавання, і вам не адмовяць. Шалям астролагі гарантуюць поспех у каханні.

Вострае саперніцтва на працы чакае СКАРПІЁНА. Магчыма нават змена роду заняткаў. Не вельмі рэзультатыўным чакаецца ўдзел у розных выпрабаваннях — тэстах, экзаменах. Не будуйце вялікіх планаў на гэты тыдзень — яны не збудуцца. Проціпаказаны вам таксама сур'ёзныя пакупкі. Адмоўцеся ад далёкіх паездак і не чакайце многага ў адносінах з каханым чалавекам.

Для СТРАЛЬЦОЎ будзе нялішнім задумацца аб жыцці. Магчыма пакіданне дзяржслужбы і пераход на вольны хлеб. Пад ціскам абставінаў не выключана расчараванне ва ўласных здольнасцях. Аднак не прымайце паспешлівых рашэнняў, вельмі хутка ў вас усё зменіцца да лепшага. Дома чакаюцца складанасці ва ўзаемаадносінах са старэйшымі, але і гэта пройдзе. У паветры для вас пачне лунаць рамантычны водар, папярэджваючы аб прыемных падзеях на сардэчным фронце.

## КРЫЖАВАНКА

**Перакладзіце на беларускую мову наступныя словы.**



**Па гарызанталях**: 3. Крыльцо. 6. Нашествие. 7. Оладья. 10. Единица. 11. Грядка (в телеге). 13. Залог (грам.). 15. Слякоть. 18. Тоска. 19. Тюря. 20. Жесть. 21. Взятка. 22. Течь. 25. Совет. 26. Плакса. 27. Бечева, канат. 28. Край (доски). 29. Угроза. 31. Узел (с вещами). 33. Склока. 34. Вереск.

**Па вертыкалях**: 1. Враньё. 2. Потёк. 4. Керосин. 5. Мечта. 6. Ботва. 8. Горбушка. 9. Бросок. 12. Наслаждение. 13. Пруд. 14. Аист. 15. Вилы. 16. Отава. 17. Гряда. 23. Лежебока. 24. Туча. 25. Борозда. 29. Сарай (для сена). 30. Топливо. 32. Тмин. 33. Кувшин.

**Даслаў крыжаванку Дзмітрый БРОДСКІ.**
*Асіповіцкі раён, в. Ліпень.*

## ГАЛАВАЛОМКА

На малюнку адлюстраваны адзінаццаць трохклетачных адрэзкаў з літарамі. Але адрэзкі пераблытаны. Калі ўсе адрэзкі раскласці ў пэўным парадку, то можна прачытаць вядомую прымаўку.

| | | |
|---|---|---|
| АМА | АДЗ | ВЕК |
| ГОР | АЛА | АДН |
| АЎЧ | ІМА. | ІЎЯ |
| ДНА | ЦІ,А | |

**Даслаў Уладзімір АБАБУРКА.**
*Клецкі раён, в. Марач.*

## КРЫПТАГРАМА

Выкарыстоўваючы ключавыя словы і спачатку разгадаўшы іх, прачытайце ў клетках малюнка жартоўную народную прыказку.

1) 9, 5, 3, 12, 14 — мелкаводны марскі заліў,

2) 2, 10, 11, 13, 6, 12, 4 — у старой Расіі: начальнік паліцыі невялікай тэрытарыяльнай адзінкі,

3) 7, 1, 8, 12 — старадаўняе архітэктурнае збудаванне,

4) 9, 5, 15 — граматычная катэгорыя.

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 12 | 14 | 5 | ▮ | 9 | 11 | 8 | 15 | 5 | ? | | | | | |
| | | | | 12 | 14 | 5 | ▮ | 3 | 5 | 13 | 15 | 5 | ? | |
| 12 | ▮ | 2 | 12 | 7 | 1 | 13 | 5 | 4 | | | | | | |
| 6 | 10 | 11 | ▮ | 15 | 12 | 9 | 11 | 13 | 15 | 5 | . | | | |

**Склаў Уладзімір ЭСМАНТОВІЧ.**
*г. Мінск.*

## ШАХМАТНЫ ТУРНІР

У шахматным турніры, які праводзіўся ў адзін круг, удзельнічалі прадстаўнікі васьмі розных гарадоў. Рознымі былі і прафесіі шахматыстаў.

**1-ы тур**. Барыс выйграў у іграка з Уфы; Іваноў — у геолага; ігрок з Днепрапятроўска — у Храмава; повар — у Івана.

**2-гі тур**. Пётр выйграў у студэнта; ігрок з Цюмені — у сталявара; урач — у Лявонава; ігрок з Тулы — у Бурава.

**3-ці тур**. Электрык атрымаў трэцюю перамогу, выйграўшы ў Фёдара; хімік, наадварот, прайграў трэцюю партыю, падарыўшы ачко Андрэю; Іван выйграў у іграка з Краснадара; Пухаў атрымаў другое паражэнне, прайграўшы шахматысту з Саратава, які меў ужо дзве перамогі.

**4-ы тур**. Электрык атрымаў перамогу над Сямёнам і заваяваў яшчэ адно ачко; трэцяе ачко атрымаў урач, выйграўшы партыю ў Барыса; першае ачко атрымаў Лявонаў, гуляючы з Паповым; ігрок з Днепрапятроўска з цяжкасцю абыграў повара і ўпісаў у свой актыў трэцяе ачко.

**5-ы тур**. Электрык зноў атрымаў перамогу, перайграўшы Мікалая, які меў да таго тры ачкі; студэнт атрымаў чацвёртае паражэнне, на гэты раз ад Івана; перамога Платонава над геолагам прынесла яму чацвёртае ачко; зноў не пашанцавала Ігару — чацвёртае паражэнне ад іграка з Орска.

**6-ы тур**. Сталявар, гуляючы з адэсітам, атрымаў пятае ачко; Сямён нанёс пятае паражэнне Ігару, а сам атрымаў другое ачко; другое ачко заваяваў Кротаў у гульні з Фёдарам, які таксама меў дзве перамогі; Храмаў узяў чацвёртае ачко ва ўпартай барацьбе з маляром, які меў тры ачкі.

**7-ы тур**. Пётр атрымаў лёгкую перамогу над хімікам і, заваяваўшы шостае ачко, стаў пераможцам турніра; студэнт нечакана перамог сталявара; шахматыст з Саратава згуляў унічыю з поварам, які меў два ачкі; Папоў выйграў у Пухава.

Трэба вызначыць прозвішча і імя кожнага ўдзельніка турніра, яго прафесію, горад, які ён прадстаўляў, а таксама занятае ў турніры месца.

## *Post Factum*

### Гэты дзень у гісторыі

**20 студзеня 1714 года** Пётр I выдаў указ аб абавязковым навучанні дваранскіх дзяцей «цыфири и геометрии».

**20 студзеня 1892 года** нарадзіўся Браніслаў Адамавіч Тарашкевіч (загінуў у сталінскіх засценках у 1938-м). Вядомы беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, філолаг, аўтар першай «Беларускай граматыкі для школ». У палітычнай дзейнасці Б. Тарашкевіча шырока ведалі як ідэолага левага крыла беларускага нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі і як таленавітага арганізатара і кіраўніка стотысячнай Грамады.

**У гэты ж дзень таго ж 1892 года** нарадзіўся Рыгор Раманавіч Шырма (памёр у 1978 г.), беларускі харавы дырыжор, фальклярыст, грамадскі дзеяч, народны артыст СССР.

**20 студзеня 1918 года** прыняты дэкрэт аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы — ад царквы.

**Сёння** спаўняецца шостая гадавіна трагічных падзей, звязаных з уводам войскаў МУС СССР у Баку 19—20 студзеня 1990 года. У выніку па афіцыйных звестках 131 чалавек быў забіты, каля 700 паранена.

### А яшчэ быў выпадак

Вядомы вядучы папулярнай праграмы «Ранішняя зорка» Юрый Нікалаеў ледзь не паўтарыў нядаўна подзвіг нямецкага лётчыка Руста, які даляцеў на самалёце да Краснай плошчы. Пілатуючы свой «Як-18Т» і любуючыся прыгожымі краявідамі Падмаскоўя, Юрый так захапіўся, што збіўся з курсу. З эйфарыі палёту яго вывелі чэргі папераджальных стрэлаў. Сілы маскоўскай ППА спрацавалі аператыўна, а пара баявых знішчальнікаў, узляцеўшых «па трывозе», прымусова суправодзілі Нікалаева на аэрадром.

### Цікава

Мужчыны, якія лічаць сваіх жонак сварлівымі, на самай справе павінны быць ім удзячны. Псіхолагі з універсітэта амерыканскага штата Каларада выявілі нядаўна, што пры наяўнасці ў доме законнай мегеры мужчыны жывуць даўжэй і на рабоце ім спадарожнічае поспех. Спрацоўвае прынцып кампенсацыі?

### Чаму мы так кажам?

**Флора і Фауна**. Карл Ліней (1707—1778) праславіўся стварэннем навуковай батанікі і заалогіі, апісаннем і класіфікацыяй раслліннага і жывёльнага свету. Сусветную вядомасць атрымалі яго кнігі «Шведская флора « і «Фауна Швецыі».

Флора — багіня кветак і жывой прыроды ў старажытных рымлян. Фауна — імя антычнай багіні, жонкі Фаўна, якія лічыліся заступнікамі стэпавых і лясных жыхароў. Дзякуючы Лінею гэтыя словы ператварыліся ў тэрміны, якія абазначаюць раслінны і жывёльны свет.

### Трэба ведаць

У літаральным сэнсе джэнтльмен па-англійску азначае *«мяккі чалавек»*. У больш шырокім сэнсе — чалавек з прыстойнымі манерамі, які ведае правілы паводзінаў, выхаваны і ветлівы. Гэта перш за ўсё чалавек, які ведае, чаго не трэба рабіць.

**Такім чынам, нельга:**

Класці насоўку на табурэтку, канапу, стол; занадта гучна адкашлівацца; стрыгчы пазногці ў прысутнасці іншых; класці локці на стол; абапірацца аб сцены і мэблю; шоргаць нагамі; разгойдвацца на табурэтцы ці сядзець разваліўшыся ў крэсле; раскланьвацца з кім-небудзь ці размаўляць з папяросай у роце; трымаць рукі складзенымі на жываце; насіць брудную бялізну; мець брудныя нячышчаныя і занадта доўгія пазногці; быць няголеным; насіць па некалькі пярсцёнкаў на пальцы; душыцца моцнымі духамі; у час ежы дзьмуць на вадкасць, каб астудзіць яе; браць сваёй лыжкай ці відэльцам з агульнага блюда; гаварыць аб сваіх захворваннях; пазяхаць у час размовы. Можа, камусьці гэта падасца і дробяззю, у якой руцэ вы трымаеце нож і відэлец. Справа тут у адносінах да сябе, у павазе да акружаючых людзей. Выхаванне — вышэй за адукацыю. Гэта народная мудрасць.

### Што ў імені маім?..

Амерыканскі псіхолаг Джон Трэйн падрыхтаваў кнігу самых недарэчных імёнаў, ад якіх вымушаны цярпець (пераважна не па ўласнай волі) мноства яго суайчыннікаў. У прыватнасці, сям'я Май з Новага Арлеана выбрала для сваіх траіх дачок такія імёны: Му, Ву, Гу. А Джэксаны з Чыкага літаральна заклеймавалі ўсіх сваіх дзетак, назваўшы іх: Менінгіт, Ларынгіт, Апендыцыт, Перытаніт і Танзіліт.

### Анекдот

*Двое сяброў гутараць аб сваім сямейным жыцці.*

*— Вось ужо пятнаццаць гадоў, як я жанаты, — кажа адзін. — Спачатку я яе так прыціскаў і цалаваў, што яна баялася, як бы я яе не задушыў.*

*— А зараз? — пытаецца сябра.*

*— Відаць, справа ідзе да гэтага.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 68-28-57, 68-29-16, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 68-28-54, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 5-68-24, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 113326. Індэкс 63850.
Зак. № 303.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12